Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 43 (4587) 29 кастрычніка 2010 г.

## У нумары:











# «Проста мастак» Барыс Забораў

**Выстаўка “Барыс Забораў. Жывапіс. Малюнак. Скульптура” адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Тут прадстаўлена 37 работ сусветна вядомага майстра з яго ўласнага збору, з набытку прыватных калекцыянераў Францыі, Вялікабрытаніі, Бельгіі, Галандыі, са збораў Галерэі Клода Бернара, Галерэі Валуа, Фонду сучаснага мастацтва (Францыя) ды нашага мастацкага музея. Доўгачаканая выбітная падзея — вынік сумеснай працы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры і камунікацый Французскай Рэспублікі, міністэрстваў замежных спраў абедзвюх дзяржаў, Пасольства Беларусі ў Францыі і Пасольства Францыі ў нашай краіне, Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь і парыжскай галерэі “Дэ Бюсі”. Выстаўка прабудзе ў Мінску да 10 снежня.**

Мінулай восенню ён таксама прыязджаў у родны Мінск. Той візіт сусветна вядомага жывапісца, графіка, скульптара, ілюстратара кніг, тэатральнага мастака Барыса Заборава, які ўжо тры дзясяткі гадоў жыве ў Парыжы, быў звязаны з удзелам у афіцыйнай цырымоніі перадачы яго карціны “Гумно” (2008 год) у фонд Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Гэта быў першы крок да сімвалічнага творчага вяртання Б. Заборава на радзіму, пасля чаго пачалася падрыхтоўка яго персанальнай выстаўкі ў Мінску — праца неверагодна складаная і ў фінансавых адносінах, і ў арганізацыйных, бо мастак выказаў пажаданне паказаць землякам лепшыя работы парыжскага перыяду, а многія ж з іх даўно пакінулі сцены майстэрні ды раз’ехаліся па свеце...

Пералік персанальных выставак і калектыўных праектаў з удзелам Б. Заборава, музейных фондаў і прыватных збораў, дзе ёсць яго работы, міжнародных узнагарод, якімі адзначана яго майстэрства, зойме амаль палову газетнай старонкі. Творы Б. Заборава экспанаваліся ў лепшых залах Парыжа, Нью-Ёрка, Токіа, Амстэрдама, Санкт-Пецярбурга і Масквы; карціну “Мастак і яго мадэль” набыла галерэя Уфіцы, што існуе ў Фларэнцыі з XVI стагоддзя і лічыцца ці не самай “рафінаванай” скарбніцай еўрапейскага мастацтва, якая амаль не песціць увагай сучасных творцаў. У нашым Нацыянальным мастацкім музеі захоўваецца больш як 50, пераважна графічных, яго работ, яны прадстаўленыя і ў пастаяннай экспазіцыі. Але персанальных выставак Барыса Заборава ў Мінску дагэтуль не было. Яго першы вернісаж на радзіме атрымаўся асабліва знамянальным: днямі Барысу Абрамавічу споўнілася 75.

Нарадзіўся ён у Мінску ў 1935 годзе; бацька — мастак Абрам Забораў, быў земляком Марка Шагала — нарадзіўся на Віцебшчыне, у мястэчку Лёзна, вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме. Дарэчы, у 2011-м з дня нараджэння А. Заборава (чыя жанравая living розна...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: мастак Барыс Забораў і яго карціны “Пуня ды двуколка” (папера, акрылік); “Дзяўчынка, якая стаіць на крэсле” (палатно, акрылік).

Фота Кастуся Дробава

(Працяг на стар. 11)

## Пунктірам

• Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам “Выдатнік друку Беларусі” кансультанта фінансава-эканамічнага ўпраўлення Міністэрства інфармацыі Ірыну Кішову, а таксама супрацоўнікаў “Народнай газеты” Віктара Лешчанку (намеснік галоўнага рэдактара), Алега Папова (загадчык аддзела), Аляксандра Шаблюка (вядучы карэспандэнт).

• У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі праходзяць VI Міжнародныя кнігазнаўчыя чытанні на тэму “Бібліятэкі ў фарміраванні асяродку для развіцця навукі, адукацыі і бізнесу”. Галоўная мэта чытанняў — выпрацоўка шляхоў фарміравання электроннай бібліятэкі на аснове карпаратыўнага партнёрства з шэрагам нацыянальных бібліятэк замежных краін — Германіі, ЗША, Ірданіі, Ірака, Кыргызстана, Літвы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Таджыкістана і Украіны.

• Падчас візіту ў Мінск Прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ падарыла Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі рэдкае выданне — Катэхізіс, першую кнігу на літоўскай мове, а таксама каталог бібліятэк рода Сапегаў.

• У Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася прэзентацыя кнігі Прэзідэнта Рэспублікі Казахстан Нурсултана Назарбаева “Стратегия радикального обновления глобального сообщества и партнёрство цивилизаций.”

• Беларускі барытон Ілья Сільчукоў атрымаў галоўную ўзнагароду на Міжнародным конкурсе вакалістаў імя Мусліма Магамаева ў Маскве, падзяліўшы яе з азербайджанскім спеваком Джавідам Самедавым. Трэцяе месца таксама ў беларускай спявачкі, Аксаны Волкавай. Яна падзяліла яго з расіянінам Дзмітрыем Трыфанавым.

• На базе рэдакцыйна-выдавецкай установы “Культура і мастацтва” адкрыўся новы інфармацыйны цэнтр “Культура-інфа”. У функцыі інфармацыйнага цэнтра будзе ўваходзіць падрыхтоўка і правядзенне прэс-канферэнцый, брыфінгаў, “круглых сталоў” з прадстаўнікамі арганізацый і ўстаноў сферы культуры, выбітнымі дзеячамі культуры і мастацтва.

• Заслужаная артыстка Беларусі Ірына Дарафеева выступіла з сольным канцэртам у польскім горадзе Шчэцінек. Месца выступлення абрана невыпадкова – у гэтым годзе Шчэцінек адзначае 700-годдзе, і канцэрт стаў падарункам Беларусі жыхарам горада.

• У Гомельскай вобласці аматары кіно самі выберуць фільмы, прэм'еры якіх адбудуцца ў навагоднія дні і на калядныя канікулы. Для таго, каб прыняць удзел у галасаванні, трэба ўсяго толькі выйсці на сайт “Гомельвідэапракату” і выбраць з 12 найбольш разрэкламаваных кінапрэм'ер зімовага сезона жаданы фільм.

• Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей атрымаў у падарунак ад абласнога камітэта дзяржбяспекі легендарны кулямёт “Максім”, які прайшоў усе войны XX стагоддзя. Кулямёт патрапіў у рукі супрацоўнікам органаў дзяржбяспекі падчас чарговага аператыўнага мерапрыемства.

Падрыхтавалі
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА
і Ірына ТУЛУПАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Вершаў пра Маці было мноства...

Восень — не толькі лепшы час для творчасці, але і час цёплых сустрэч, шчырых размоў, час падвядзення вынікаў любой дзейнасці і складання планаў на будучае. Менавіта таму Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі так старанна рыхтаваліся мерапрыемствы верасня і кастрычніка. А іх было нямала.

Цэлы шэраг такіх мерапрыемстваў прайшоў у сталічнай публічнай бібліятэцы № 5, што па вуліцы Казлова. Сустрэчы з пісьменнікамі, якія жывуць і працуюць у Мінску, прайшлі ў рамках праграм “Літаратурны чацвер”, “Пісьменніцкі аўтограф”, “Цікавы госць”. На пачатку верасня тут адбыліся мерапрыемствы да Дня ведаў, пазней — да Свята беларускага пісьменства, Міжнароднага Дня бібліятэк. Самае пяшчотнае, самае кранальнае свята восені — Дзень Маці — тут адзначылі сустрэчай з вядомай і многімі любімай хрысціянскай пісьменніцай Аленай Міхаленкай. На сустрэчу яна прыйшла не адна — з дачкой Вольгай, маладым музыкантам і кампазітарам, якая пазнаёміла прысутных з песнямі, створанымі ёю на вершы мамы.

Цёплая літаратурная вечарына, прысвечаная Дню Маці, была арганізавана таксама ў бібліятэцы № 21 па вуліцы Слабадской. Паэт і дзіцячы пісьменнік Міхаіл Пазнякоў прыйшоў на літаратурную сустрэчу з вучнямі і настаўнікамі школ мікрараёна Малінаўка разам з празаікам Наталляй Касцючэнкай. Яны прачыталі свае творы і пазнаёмілі юных аматараў літаратуры з вершамі пра маці, напісанымі іншымі беларускімі майстрамі слова — гучала паэзія Віктара Гардзея і Валянціны Паліканінай, Зміцера Марозава і Тамары Красновай-Гусачэнкі, Віктара Шніпа і Міколы Мятліцкага, Міколы Маляўкі і Уладзіміра Мазго, Міхася Башлакова і Алега Салтука. Напэўна, ніколі школьнікі не чулі адразу столькі прыгожых вершаў пра маці. Слухачы былі ўражаны і шчыра дзякавалі пісьменнікам і арганізатарам сустрэчы.

Крысціна УКЛЕЙКІНА

## Векапомнае

# Узоры партызанскай кемлівасці

У Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрылася выстаўка самаробнай партызанскай зброі і рукапісных партызанскіх часопісаў.

Дзве рарытэтныя калекцыі з жыцця і творчасці партызанаў Вялікай Айчыннай вайны, якія экспануюцца на выстаўцы “Вітражы партызанскай мудрасці і кемлівасці”, удастоеныя статуса гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь міжнароднага значэння. Выставачная зала дазваляе “акунуцца” і сфарміраваць сапраўдны вобраз партызанскага лагера. Тут прадстаўлена інсталяцыя зямлянкі, выкананай у натуральную велічыню, партызанская друкарня і майстэрня для зброі.

Бацькі жыхаркі Мінска Галіны Дзерашавай у часы Вялікай Айчыннай вайны змаглі захаваць трынаццаць унікальных рукапісных часопісаў, дзевяць з якіх зараз захоўваюцца ў музеі. Яна расказала: “Самае дарагое, што ў нас ёсць, — гэта памяць. Мой бацька, Рыгор Дзідэнка, ваяваў у другой Мінскай партызанскай брыгадзе і быў рэдактарам аднаго з рукапісных часопісаў, якія экспануюцца на выстаўцы. Помню яго расказы пра тое, як чакалі іх партызаны. Перад наступленнем фашыстаў маці закапала часопісы ў лесе. Такім чынам, яна і выратавала іх ад рук гітлераўцаў. Менавіта дзякуючы ёй, сёння бацькавы часопісы знаходзяцца ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Я вельмі ўдзячная бацькам за тое, што яны змаглі ўнесці маленькую лепту ў нашу Вялікую Перамогу”.

Трэба адзначыць, што выстаўка адкрылася 22 кастрычніка, у дзень 66-й гадавіны музея. Гэта вельмі сімвалічна, бо стваральнікамі і яго першымі супрацоўнікамі былі менавіта былыя партызаны.



Пісьменнік і былы партызан Алесь Савіцкі адзначыў: “Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны — гэта цытадэль святасці народа і святасці нацыі. Гэта памяць нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў. Любая пабудова стаіць на падмурку і чым мацнейшы ён, тым даўжэй будзе стаяць пабудова. Духоўнае багацце, якое сабрана ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, і з'яўляецца тым галоўным падмуркам, дзякуючы якому музей будзе стаяць у стагоддзях”.

Вядучы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Наталля Філіповіч падкрэсліла: “Сёння ў фондах музея захоўваецца звыш дзвюх соцень рукапісных партызанскіх часопісаў і дзясяткі самаробнай партызанскай зброі. Гэтыя цікавыя і вельмі каштоўныя гістарычныя рэчы — сапраўдны гонар нашага музея”.

У выставачнай зале экспазіцыі наведвальнікі таксама змогуць прыняць удзел у гульні “Старонкі партызанскіх галаваломак” і пастраляць у лазерным ціры з макетнага пісталета.

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымку: інсталяцыя партызанскай друкарні.

Фота Кастуся Дробава

## Стасункі

# На латвійска-беларускім памежжы

У латвійскім горадзе Даўгаўпілсе прайшлі традыцыйныя Дні паэзіі імя Яна Райніса. У свяце разам з мясцовымі паэтамі прымалі ўдзел паэты з Рыгі, Лудзе, Вільнюса і Браслава.

У першы дзень яны сустракаліся з выхаванцамі адной з даўгаўпілскіх школ, дзе выступалі са сваімі творамі адрасаванымі дзецям; затым у Даўгаўпілскім тэатры адбылася прэзентацыя зборніка паэзіі “Dzejas dienas 2010” (Дні паэзіі-2010), у якім змешчаны вершы на латышскай, латгальскай, рускай, польскай і беларускай мовах. Беларуская паэзія тут прадстаўлена вершамі Станіслава Валодзькі. На імпрэзе гучалі вершы аўтараў зборніка ў выкананні артыстаў тэатра, выконваліся песні на словы даўгаўпілскіх паэтаў. Потым у Цэнтральнай латгальскай бібліятэцы прэзентаваўся зборнік “Руская паэзія Латгаліі. Канец XX пачатак XXI ст.” У гэтым зборніку таксама надрукавана падборка вершаў С. Валодзькі. Завяршыўся дзень выступленнямі ўсіх жадаючых з вершамі ля свабоднага мікрафона побач з помнікам Я. Райнісу.

На другі дзень паэтычную эстафету прыняў Даўгаўпілскі раён. Браслаўская паэтэса Вольга Лясненўская і паэт С. Валодзька сустрэліся з юнымі чытачамі ў Доме культуры прыгранічнага з Беларуссю пасёлка Саліене. Пасля чаго ўсе паэты сабраліся ў Доме-музеі Я. Райніса ў Беркінелі, дзе таксама выступалі са сваімі вершамі.

Яніна ВАСІЛЕЎСКАЯ

## Фестывалі

# «Лістапад»: новыя акцэнты

5 лістапада пачынае работу XVII Мінскі Міжнародны кінафестываль “Лістапад-2010”, — свята, якое ўжо стала традыцыйным. Аднак, на гэты раз гасцей чакае шмат новага, у першую чаргу ў арганізацыі мерапрыемства.

Расціслаў Янкоўскі ўрачыста перадасць паўнамоцтвы Генадзю Давыдзьку і застанецца сустаршынёй. Галоўны прыз будзе прысуджаць прафесійнае журы, а падлік галасоў глядзельнай залы хаця і будзе весціся, зможа прынесці фільму толькі прыз глядацкіх сімпатый. Больш жорсткі адбор фільмаў і ўключэнне ў фестывальнае меню тых, што ўжо адзначаліся на іншых кінафестывалях, на думку арганізатараў, павысіць узровень “Лістапада”. На цырымоніі адкрыцця ў Палацы рэспублікі будзе дэманстравацца фільм “Брэсцкая крэпасць”. На закрыццё фестывалю — фестываль таксама паказ фільма, аднак гэта неабавязкова будзе фільм-пераможца. Упершыню мінчане і госці сталіцы пабачаць стужкі з Перу, Венесуэлы, Іспаніі, Уругвая, Індыі. У фестывальную праграму ўключаны творчыя сустрэчы з кінадзеячамі, майстар-класы і дыскусіі.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

## Прэзентацыі

# З малюнкамі дзяцей

Прэзентацыя альбома Навума Гальпяровіча і Наталлі Ванінай “Полацк — бацька гарадоў беларускіх” — першага выдання з новай серыі “Гарады і гістарычныя мясціны Беларусі” — адбылася ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Прысутныя належным чынам ацанілі выданне, прызначанае для маленькага чытача, і з літаратурнага, і з краязнаўчага, і з выхаваўчага, і з мастацкага пункта гледжання. Падабалася рашэнне кнігі — яркія, кароткія эпізоды мінулага самага старажытнага горада Беларусі, аповеды пра славутых герояў полацкай гісторыі, згадванні пра вядомых сучаснікаў. І пасля кожнага маленькага раздзела — займальная віктарына для дзяцей. Адказваючы на яе пытанні, юны чытач зможа праверыць сябе – наколькі добра ён засвоіў тую інфармацыю, што дадзена ў кнізе. Дарэчы, у стварэнні альбома “Полацк — бацька гарадоў беларускіх” удзельнічалі не толькі дарослыя. У кнігу патрапіла шмат ілюстрацый, створаных самімі дзецьмі. Магчыма, іншыя кнігі, што рыхтуюцца ў гэтай серыі — плануецца неўзабаве выдаць альбомы пра Мінск і Віцебск — таксама ўпрыгожаць малюнкі нашых дзяцей, самых шчырых і самых крытычных чытачоў на свеце.

Прэзентацыя альбома “Полацк — бацька гарадоў беларускіх” была падрыхтавана Полацкім зямляцтвам у Мінску. Гэтая арганізацыя, створаная ў 2009 годзе, ужо заявіла пра сябе, як пра асяродак асветніцтва, культуры і захавання гістарычнай спадчыны. З прадстаўленнем новага выдання было спалучана другое пашыранае пасяджэнне зямляцтва. Зацверджана выява нагруднага знака, які будзе выдавацца кожнаму члену зямляцтва — карабель з полацкага герба. Абмеркаваны пытанні ўдзелу ў I фестывалі беларусаў свету ў лютым 2011 года. Дарэчы, Полацкае зямляцтва падтрымала ініцыятыву абвяшчэння ўсенароднага збору сродкаў на рэстаўрацыю фрэсак Спаса-Еўфрасіннеўскага храма.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

Літ-абсягі

# Пісьменніцкія падарункі дзецям

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва” ўважліва ставіцца да выдання кніг, адрасаваных юнаму чытачу. Сёння выдавецтва актыўна асвойвае прастору ў гэтым сегменце беларускага кніжнага рынку.

За апошнія гады выдадзены дзясяткі кніг для дзяцей малодшага, сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. На прэзентацыі ў прэс-цэнтры Дома прэсы першы намеснік дырэктара РВУ “Літаратура і Мастацтва” Алесь Бадак падкрэсліў: “Толькі ў 2009 годзе ва ўстанове выйшла сорак восем кніг, прычым сямнаццаць з іх — для дзяцей. У 2010 годзе за дзевяць месяцаў выдадзена пяцьдзесят чатыры кнігі, з іх таксама сямнаццаць для дзяцей, але год яшчэ не скончыўся. Рыхтуецца да друку шмат кніг, адрасаваных дзецям. Я глыбока перакананы, што дзіцячая літаратура сёння знаходзіцца ў добрым стане”.

“Казачная аповесць пра міжпланетнага Пажарніка і іншых мамурыкаў” — так называецца новая кніга Раісы Баравіковай. Кніга пераносіць дзетак на невядомую планету Мамурыю, дзе заўсёды жылі і, напэўна, жывуць і цяпер мамуры. Сама пісьменніца ўпэўнена: “XXI стагоддзе — стагоддзе касмічных адкрыццяў. Я лічу, што сённяшнія дзеткі праз некалькі дзесяцігоддзяў будуць здзіўляць нас неверагоднымі навінамі аб космасе. Зараз беларуская літаратура перажывае шчаслівы момант. У літаратуру прыйшлі людзі, якія адразу абралі для сябе справу дзіцячай літаратуры”.

Алена Масла — вядомая пісьменніца-казачніца. Чытачам палюбіліся яе кнігі “Рождество у крёстной”, “Таямніца закінутай хаты” і іншыя. У 2010 годзе выйшаў новы зборнік казак пісьменніцы “Першая Прыгажуня”. Гэта казкі па-за межамі ўзросту, “малым і вялікім падказкі”... Сама Алена Масла расказала: “Беларуская кніга нясе дзіцяці важнасць звароту да роднай мовы, да родных традыцый, любоў да Радзімы. Я заўсёды любіла пісаць для дзяцей”.

Кніга “Новые удивительные приключения маленького Ветерка из Вентилятора” – працяг казкі Генадзя Аўласенкі “Удивительные приключения маленького Ветерка из Вентилятора”, што выйшла ў 2009 годзе. Яе галоўны герой — маленькі Ветрык, і з якім увесь час здараюцца усялякія дзіўныя гісторыі і прыгоды. Сам аўтар расказаў: “Мае героі ідуць з кнігі ў кнігу, і як дзеці, з кожным годам становяцца ўсё больш дарослымі. Маленькі Ветрык пакуль жыве ў вентылятары, але хутка будзе вольна лётаць, як сталы вецер”.

Дарэчы, у РВУ “Літаратура і Мастацтва” неўзабаве выйдзе трэцяя частка прыгод Ветрыка з Вентылятара. Чытачам часопіса “Бярозка” прапанавана намаляваць гісторыі пра Ветрыка з папярэдніх кніг. Лепшыя малюнкі будуць выкарыстаны ў афармленні новай кнігі.



Эсміра Ісмаілава, аўтар кнігі “Удивительные приключения мышонка Пипа”, з'яўляецца спецыялістам па сувязях з грамадскасцю Пасольства Рэспублікі Азербайджан у Рэспубліцы Беларусь. Сама Эсміра Ісмаілава па адукацыі журналіст, жыве і працуе ў Мінску. Эсміра падкрэсліла: “У дзіцячай літаратуры пісьменнік павінен размаўляць на дзіцячай мове, тады кнігі будуць цікавыя юнаму чытачу”.

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымку: пісьменніцы Алена Масла і Раіса Баравікова расказваюць пра новыя выданні для дзяцей.

Фота аўтара

Арт-лінія

# Вернісаж у Сенатарскай зале

У Гродне адбылася значная для культурнага жыцця падзея. У Сенатарскай зале Новага замка адкрылася персанальная выстаўка Аляксандра Ларыёнава, які з'яўляецца членам Еўрапейскай федэрацыі мастакоў і Беларускага саюза мастакоў. Імя Аляксандра Ларыёнава добра вядомае гродзенцам, яго творчасць на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў заклікае людзей да высокай духоўнасці і пошуку адказаў на філасофскія пытанні. Сам мастак вызначыў сваю творчую пазіцыю ў такіх тэзісах: “Кожны мой твор — гэта адлюстраванне прыгажосці свету. Я перакладаю з мовы травы. Неабходна ўбачыць вялікае ў малым”.



Аляксандр Ларыёнаў доўгі час з'яўляўся выкладчыкам факультэта мастацтва Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, а таксама быў ініцыятарам адкрыцця і першым дырэктарам гродзенскай мастацкай галерэі “Тызенгаўз”, куратарам універсітэцкай галерэі “Universum”. Персанальныя выстаўкі Аляксандра Мікалаевіча з поспехам праходзілі ў Расіі, Польшчы, Літве, ЗША. Гэтая гродзенская з'яўляецца 56-й для мастака.

На вернісажы ў Гродне гучалі вершы паэта Мікалая Сярова, а таксама добрыя словы ад рэктара Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, прафесара Яўгена Роўбы, намесніка старшыні Гродзенскага аблвыканкама Юрыя Масквічова, прадстаўнікоў грамадскасці. На жаль, у апошнія гады у сувязі з цяжкай хваробай Аляксандр Ларыёнаў не займаецца мастацтвам і таму з асаблівым хваляваннем аднёсся да адкрыцця выстаўкі, якая была арганізаваная яго сябрамі і калегамі і выклікала значную цікавасць у грамадскасці. Паводле шматгадовай традыцыі, Аляксандр Мікалаевіч запаліў свечку ў гонар выставы. На ёй прадстаўлены ілюстрацыі да твораў Мікалая Клюева, Маца Басё, серыя “Чорныя дожкі”, прысвечаная Андрэю Рублёву ды іншыя творы мастака.

Дар'я ЧАРКЕС,
студэнтка юрыдычнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

На здымку: Аляксандр Ларыёнаў на вернісажы.

Фота аўтара

Повязі

# Філасофія па-польску

На сустрэчу з польскай раманісткай Вольгай Такарчук у гасцёўню Музея гісторыі беларускай літаратуры сабралася даволі шмат людзей. І гэта было зразумела. Не часта Мінск наведваюць замежныя пісьменнікі настолькі тытуляваныя, пісьменнікі, якія ствараюць не кітчавыя дэтэктывы ці то бясконцыя раманы пра каханне, але пішуць сур'ёзную высокамастацкую прозу.

Раманы Вольгі Такарчук перакладаліся шмат на якія мовы. Выходзілі некаторыя з іх таксама ў Расіі і Украіне. Але ўсходнеславянскі чытач, можа, з-за няўвішнасці выдаўцоў, можа, з-за асцярожнасці перакладчыкаў (проза Такарчук даволі цяжкая для перакладу, а пры пераказе шмат губляе), меў не надта многа магчымасцей для знаёмства з ёю.

Першы перакладзены на беларускую мову раман Вольгі Такарчук, з нагоды выдання якога яна і завітала ў беларускую сталіцу, — “Правек ды іншыя часы”. Выбар твора належыць Марыне Шодзе, выкладчыцы міфалогіі і замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. І гэта добры выбар. Бо менавіта “Правек ды іншыя часы” заходнееўрапейскія крытыкі ўжо сёння называюць вяршыняй сучаснай міфатворчай прозы, польскай версіяй магічнага рэалізму.

Пра тое, як узнікла ідэя напісання рамана “Правек ды іншыя часы” пісьменніца не прызналася. Аднак, пра канкрэтныя рэаліі са свайго рамана, пра нараджэнне вобразаў ды паходжанне сваіх герояў пані Вольга распавядала шмат, і, як падавалася, надта ахвотна.

– Можа, гэта гучыць, як кашчунства, але я стварала сваеасаблівую Біблію. Біблію, у якой эпіка і этнас змяшаліся, каб расказаць пра 80 гадоў гісторыі Польшчы.

Гэтыя 80 гадоў пададзены пісьменніцай праз гісторыю адной сям'і, сям'і яе маці. Дзе бабуля кавамолка становіцца цэнтрам сусвету, бо перамолвае не толькі каву, але і сам час. Дзе анёл, адзіны інстынкт якога – спачуванне (гэтым ён вышэй за чалавека, і адначасова ніжэй за яго, таго, хто ўмее адгукацца на ўсё ўбачанае і пачутае цэлай палітрай пачуццяў) абавязкова стаіць каля парадзіхі, каб прыняць на рукі яе нованароджанае дзіця. Маленькае мястэчка ў Цэнтральнай Польшчы ўбачана пісьменніцай як нейкі абмежаваны ахоўчымі нябеснымі сіламі куточак – своеасаблівы рай. І рай гэты называе яна “правек”, можа таму, што існаваў ён спрадвеку...

Вобразную прыгажосць апавядання здолелі ацаніць прысутныя на вечарыне падчас чытання фрагментаў твора. Перакладчыца ж, сціпла аддаўшы ўсе лаўры пісьменніцы, сказала толькі, што працавала не па заказе, а “па любові”. У працэсе працы здаралася ўсялякае. То знікалі некуды — іх бралі і “зачытвалі” сябры перакладчыцы – польскія арыгіналы рамана. То глава аказвалася такой уражвальнай па ўздзеянні (пані Вольга апісвала пакуты маці, якая страціла немаўля), што перакладчыца прымхліва адкладала рукапіс на доўгі час убок. Але ўрэшце справа была даведзена да канца. А пісьменніца прыехала на сустрэчу са сваімі будучымі чытачамі. Сустрэча гэтая адбылася пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь ды Інстытута Польскага ў Мінску.



Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

На здымку: польская пісьменніца Вольга Такарчук.

Фота Кастуся Дробава

З-пад пяра

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася прэзентацыя новай кнігі паэзіі Андрэя Шаціліна “Трое Царствие”, якая пабачыла свет у выдавецтве “Чатыры чвэрці”. Пра сваё першае знаёмства з творчасцю Андрэя Шаціліна расказаў рэдактар часопіса “Новая Немига литературная” паэт Анатоль Аўруцін. Даволі нечаканым для прысутных на вечарыне сталася тое, што вершы В. Шаціліна прагучалі і на беларускай мове ў перакладзе і выкананні Міколы Шабовіча і Фелікса Баторына. Вялі вечарыну дырэктар выдавецтва Ліліяна Анцух і паэт Навум Гальпяровіч.

Таццяна ВЫСКВАРКА

У Славянскай гарадской бібліятэцы Гомеля адбылася прэзентацыя 8-га нумара часопіса “Полымя”, прысвечанага літаратурнаму і культурнаму жыццю вобласці. Пра часопіс, пра тое, чым жыве сёння рэдакцыя, гаварылі на сустрэчы галоўны рэдактар Мікола Мятліцкі і рэдактар аддзела крытыкі і літаратуразнаўства Рагнед Малахоўскі. Выступоўцы Васіль Ткачоў, Ніна Шклярава, Тамара Кручэнка выказалі спадзеў, што творчыя кантакты з часопісам будуць трывалымі і плённымі, а старшыня Гомельскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Гаўрыловіч нагадаў і пра тое, што прапанаваныя часопісу творы павінны адпавядаць і надалей сур'ёзным патрабаванням з боку якасці.

Міхась МІКАЛАЕЎ

Сонечным кастрычніцкім днём у Камянцы распачаўся Трэці беларуска-польскі пленэр, прысвечаны памяці таленавітага беларускага жывапісца Фёдара Дарашэвіча. Арганізавала яго грамадскае аб'яднанне аматараў мастацтваў рэгіёна “Белавежская пушча” і Брэстчыны “Тур”. На працягу тыдня члены аб'яднання і госці-мастакі з Польшчы — Эва Лазоўска, Эдмунд Вільк і Станіслаў Стронські — пісалі карціны, чэрпаючы чыстае натхненне з камянецкіх маляўнічых краявідаў, якія калісьці захаплялі і Фёдара Дарашэвіча. Дарэчы, мерапрыемства пачалося менавіта ў доме мастака на вуліцы Пагранічнай. Вынікі ж пленэру падводзіліся ў чытальнай зале раённай бібліятэкі імя У. Ігнатоўскага. Там жа была наладжана выстаўка работ, якія напісалі мастакі. Усім удзельнікам начальнік аддзела культуры райвыканкама М. Громік уручыў дыпломы.

Настасся НАРЭЙКА

Пры садзейнічанні музея гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі і грамадскага аб'яднання “Бабруйская гарадская яўрэйская абшчына” ў Мастацкім музеі імя Г. Паплаўскага адбылося адкрыццё выстаўкі франтавых работ вядомага ў Бабруйску, ды і далёка за яго межамі мастака Абрама Рабкіна. Работы Абрама Ісаакавіча — мастацкі дакумент, у якім адлюстроўваецца свет тых, хто перамог у той страшнай вайне, гэта лёс юнака з пакалення Вялікай Айчыннай...

Аляксандр АНТАШКЕВІЧ

У галерэі “Універсітэт культуры” адкрылася выстаўка “65 гадоў ААН. Гісторыя і сучаснасць”. На ёй прадстаўлены фотаздымкі, якія адлюстроўваюць пэўныя моманты гістарычнага шляху гэтай сусветнай арганізацыі. “Уступная сесія канферэнцыі па стварэнні Арганізацыі бяспекі дзеля міру ў пасляваенным свеце (маёнтак Думбартан-Оўкс у Вашынгтоне)” — ужо адзін гэты здымак дапамагае ўявіць той далёкі час. Уражвае фотаздымак “Праект Адміністрацыйнай дапамогі і аднаўлення ААН (ЮНРА)” з адлюстраваннем сястры міласэрнасці, што раздае харчаванне галодным! “Калектыўны здымак з саміта тысячагоддзя ААН” сабраў кіраўнікоў 149 дзяржаў і ўрадаў 6 верасня 2000 года. Знаёмства з адметнай фотавыстаўкай нагадала яшчэ адну ісціну: і дакумент можа быць мастацтвам.

Дар'я ШОЦІК

«Прарыву ў стварэнні якаснага нацыянальнага кіно так і не адбылося…» Пра гэта заявіў у верасні 2010 года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з дзеячамі культуры краіны па пытаннях развіцця кінематографа. Распачынаючы размову пра нацыянальны кінематограф і яго праблемы, мы далі слова доктару юрыдычных навук, прафесару, пісьменніку і кінадраматургу Сяргею ТРАХІМЁНКУ.

# Нататкі старонняга



Сем гадоў таму на IV Рэспубліканскім кінафестывалі ў Брэсце я ўдзельнічаў у навукова-практычнай канферэнцыі "Дзяржаўная палітыка ў галіне нацыянальнага кінематографа".

Вяртаючыся дадому, у цягніку напісаў артыкул "Парады старонняга, альбо Дапаможнік "Як стварыць кінашэдэўр у Беларусі", сутнасць якога была такою.

Прафесійнае майстэрства кінематаграфістаў вельмі важнае, але калі яно не грунтуецца на знакавых асобах дадзенай цывілізацыйнай прасторы, калі каштоўнасці кінематографа з'яўляюцца каштоўнасцямі пэўных, досыць абмежаваных этнаканфесійных ці прафесійных груп, калі кіно ідзе ўслед за модай, калі арыентацыя ідзе на стварэнне шэдэўра адзінкавага, а не на стварэнне ўмоў для тых, хто, у рэшце рэшт, можа гэты шэдэўр пры іншых умовах зняць, то надзеі на тое, што шэдэўр з'явіцца, няма. Аднак пры выкананні гэтых умоў стваральнік кіно падобны да кідальніка камянёў у мішэнь на супрацьлеглым беразе ракі. Ён можа дрэнна бачыць мішэнь, у яго можа не хапіць сіл дакінуць туды камень, аднак ён заўсёды мае перавагі перад астатнімі канкурэнтамі, якія, у адрозненне ад яго, не толькі не бачаць мішэнь, але і кідаюць камяні ў іншы бок.

Прайшло сем гадоў. Што змянілася?

Прафесіяналы па-ранейшаму гавораць аб праблемах тэхнічнага і фінансавага бакоў вытворчасці кіно.

А калі ўзяць выбар тэм для кінематографа і літаратурныя сцэнарыі?

У кіно заўсёды была важнаю літаратурная аснова. Пры ўсім тым, што простае перанясенне класікі на экран рэдка бывала ўдалым. Глыбіня шматлікіх літаратурных твораў не перадаецца мовай кінематографа. Але добрага літаратурнага сцэнарыя, па вялікім рахунку, няма. І не толькі таму, што вышэйазначаных заканамернасцяў не бачаць прафесіяналы кіно, але і таму, што кіно — гэта прафесія. Спосаб зарабіць сабе на хлеб. Пусціць кагосьці ў тыя дзесяць дваццацімінутак, якія здымае штогод "Летапіс", — значыць недакарміць кагосьці з прафесійных сцэнарыстаў. А ўжо пра поўнаметражныя фільмы і гаварыць няварта.

Ці здольныя функцыянеры кіно пачуць тонкі водар літаратурных сцэнарыяў, у якіх ёсць тое, што неабходна гледачу? Напэўна, не. Таму што яны, як сучасныя выдаўцы, арыентуюцца на некалькі прыкмет "паспяховасці" літаратурных твораў. Сярод гэтых прыкмет, на жаль, няма той, што сапраўды цікавіць гледача. Да прыкладу, рэжысёры і прадзюсеры мяркуюць, што гледачу цікавы крымінал. На самай справе крымінал гледача цікавіць не сам па сабе, а як магчымае, што можа здарыцца з імі, іх блізкімі і роднымі…

Эйфарыя першых гадоў незалежнай дзяржаўнасці прайшла, і ўсе ўжо разумеюць, што нельга рэфармаваць армію, даручыўшы гэта ваенным. Гэтак жа як нельга мадэрнізаваць кінематограф, абапіраючыся на стэрэатыпы прафесіяналаў ад кіно.

Яны былі сфарміраваны ў іншы час. І ў асноўным у рамках савецкага дзяржзаказу. Зразумела, сістэма літсаветаў і мастацкіх саветаў даўно сябе зжыла. Сёння ў іх роля, як у таго аўтамата ў гасцініцы, які павінен паказваць на дысплеі колькасць свабодных нумароў, але не паказвае. Чаму? Таму што ў яго не закладваюць гэтую інфармацыю тыя, хто зацікаўлены сам месцы ў тых гасцініцах размяркоўваць. Дзейснага адбору літаратурных сцэнарыяў сістэма не забяспечвае па дзвюх прычынах. З аднаго боку, у іх уваходзяць людзі, якія ніякіх адносінаў да творчасці не маюць, гэта значыць, не здольныя ствараць новую якасць. А з іншага боку, калі ў іх і ёсць творчыя асобы, то сама атмасфера перастраховак і жабрацкага рэсурсу магчымасцяў прымушае іх усе намаганні скіроўваць на тарпедзіраванне праектаў творцаў-канкурэнтаў.

> Стваральнік кіно падобны да кідальніка камянёў у мішэнь на супрацьлеглым беразе ракі. Ён можа дрэнна бачыць мішэнь, у яго можа не хапіць сіл дакінуць туды камень, аднак ён заўсёды мае перавагі перад астатнімі канкурэнтамі, якія, у адрозненне ад яго, не толькі не бачаць мішэнь, але і кідаюць камяні ў іншы бок.

У ідэале сістэма кінематографа павінна рэалізоўваць праекты ў трох сектарах. У сектары дзяржзаказа, сектары рынку і сацзаказу.

Пра апошні не буду гаварыць, паколькі час яго заўсёды абмежаваны пераходнымі перыядамі, калі і дзяржава, і рынак эксплуатуюць сацыяльную напружанасць і атрымліваюць за кошт рэалізацыі твораў "болевых" аўтараў дывідэнды.

Дзяржава можа кіраваць, а дакладней — ствараць умовы для творцаў толькі ў рамках дзяржзаказу. Спробы ахапіць усе іншыя сферы пойдуць на правал. Па-першае, таму што ў дзяржавы няма рэсурсу для ўтрымання ўсіх сектараў, а па-другое, таму што яе арыенціры абмежаваныя пэўнымі, строга вызначанымі каштоўнасцямі. І чыноўнікі ад кіно не змогуць выйсці за іх межы.

Прынамсі, у Расіі ёсць досвед прысваення фільмам статуса нацыянальнага здабытка. І гэта таксама адзін з відаў падтрымкі кінематографа і кінематаграфістаў з боку дзяржавы, які можна выкарыстоўваць у Беларусі. Карціна, якая атрымала статус нацыянальнага здабытку, мае падатковыя льготы.

Што адбываецца ў межах дзяржзаказу? Мінкульт фінансуе дзесяць дзвюхчастовак у год, ён жа зацвярджае план студыі "Летапіс". У савецкія часы было такое выказванне: хочаш, каб нейкая сфера мастацтва загінула, дабаў яе чыноўнікам зарплату. І ўсе пасады ў гэтай сферы зоймуць людзі, якія не маюць да творчасці ніякіх адносінаў. На жаль, тое ж самае адбываецца і пры малой аплаце працы. Кіно — прафесія. І вось мы бачым наступнае. Спачатку супрацоўнік з'яўляецца рэдактарам некалькіх карцін, пасля яго імя з'яўляецца ў сцэнарыстах, а пасля ў рэжысёрах. Прынамсі, хвароба гэта не толькі беларускай кінастудыі. Некалькі гадоў таму ўдзельнічаў у адным праекце Заходнесібірскай кінастудыі "Сібір на экране: міфы і рэальнасць". І здзівіўся таму, што там увогуле няма сцэнарыстаў. Рэжысёры прапануюць свае тэмы і пасля іх зацвярджэння пішуць сцэнарыі.

Цяпер пра сектар рынку. Шмат размоў ідзе аб прадзюсерстве як сродку вырашэння праблем беларускага кінематографа. Досвед прыватных кампаній, якія працавалі ў Беларусі ў дзевяностыя гады, гаворыць пра тое, што там больш удумліва падыходзілі да сцэнарнага матэрыялу, адбору акцёраў, чым гэта рабілася ў межах дзяржзаказнага фінансавання.

Аднак на сённяшні дзень прадзюсерства ў Беларусі, ды і ў Расіі ідзе па шляху некрытычнага капіравання галівудскага досведу.

З пазіцый рынкавых заканамернасцяў гэта — тупіковы шлях. Прадзюсерства — рынкавы феномен. А эканамісты ведаюць:

> Ці здольныя функцыянеры кіно пачуць тонкі водар літаратурных сцэнарыяў, у якіх ёсць тое, што неабходна гледачу? Напэўна, не. Таму што яны, як сучасныя выдаўцы, арыентуюцца на некалькі прыкмет "паспяховасці" літаратурных твораў. Сярод гэтых прыкмет, на жаль, няма той, што сапраўды цікавіць гледача.

рынак — гэта месца, дзе тавары і прадукты, у тым ліку і прадукты кіно, прадаюцца за свой кошт. Мы звяртаемся да формы, забываючыся, што рынак — не нейкая суцэльная прастора, у ёй ёсць цэнтр, перыферыя, другая перыферыя. І там зусім па-рознаму ацэньваюцца аднолькавыя па сабекошце прадукты чалавечай дзейнасці. І тое, што прыбыткова ў Галівудзе, можа быць нерэнтабельным у нас.

Па-другое, з усёй славянскай непасрэднасцю прадзюсерскае кіно, у прыватнасці, у Расіі "вычысціла" з працэсу яго стварэння рэжысёра. Крытыкі ад кіно тлумачаць гэта рэакцыяй на моду аўтарскага кіно. Прадзюсеры заяўляюць, што гэта досвед Галівуда. На тым жа IV Рэспубліканскім кінафестывалі ў Брэсце адбылася цэлая дыскусія паміж рэжысёрамі і прадзюсерамі (расійскімі) аб "праве апошніх нажніц". І ўжо тады прадзюсеры гаварылі, што гэта права цалкам за імі. Хаця ва ўсім гэтым прасочваецца вялікая доля хітрыкаў. У тым жа Галівудзе ў фільмах Лукаса, Спілберга, Кэмерана ды іншых — яркія рэжысёрскія працы.

Па-трэцяе, Галівуд не з'яўляецца нейкім зборышчам рэжысёраў і прадзюсераў, якія што хочуць, тое і робяць. Галівуд выпускае сваю прадукцыю не толькі ў межах адзінага стылю, але і ў межах адзінага апераджальнага міфа. Ён не фіксуе мінулага, нават калі здымае гістарычныя карціны. Ён фарміруе рэальнасць і ў стварэнні гэтай рэальнасці зацікаўлены ў Амерыцы ўсе: і тыя, хто робіць кіно, і тыя, хто робіць палітыку. Таму што яна — аснова іх дабрабыту.

Па-чацвёртае, Галівуд валодае пракатнай сеткай не толькі ў ЗША, але і ў Еўропе. Па некаторых звестках, працэнт амерыканскіх фільмаў у Еўропе даходзіць да 90.

Напэўна, вытрымаць усе гэтыя ўмовы прадзюсерам у Беларусі немагчыма, значыць, патрэбна шукаць сваю спецыфіку выкарыстання дадзенай формы.

Усе ведаюць фестывалі ігравога кіно. Аднак, іх не больш дзесяці. Затое фестываляў неігравога кіно ў свеце ў год праводзіцца каля трох тысяч. Гэтыя пляцоўкі ніяк не выкарыстоўваюцца для таго, каб расказаць пра Беларусь. Зніклі дакументальныя стужкі і перад паказамі мастацкіх фільмаў. І гэта зразумела, пракат не зацікаўлены ў павелічэнні сеанса. Няма канала дакументальнага кіно на ТБ. І ўвогуле, няма цеснага супрацоўніцтва кінавытворчасці і тэлебачання. Ды і тэлебачанне выключыла з сваёй структуры звёны, якія калісьці рабілі свае кіно і тэлеперадачы, а не карысталіся інфармацыйным матэрыялам, зробленым іншымі.

І не толькі крытыкі, але і гледачы адзначаюць рэзкае падзенне ўзроўню кінапрадукцыі, паколькі кінавытворчасць перастала быць прэстыжнай і высокааплачваемай прафесіяй. Напэўна, адкрыццё факультэта экранных мастацтваў у Акадэміі мастацтваў павінна часткова рашыць гэтую праблему. Засталося забяспечыць яго тымі, хто можа рыхтаваць будучыя кадры беларускага кінематографа і навейшым абсталяваннем ды тэхнікай. Але за тыя пяць гадоў, пакуль апаратары будуць вучыцца, яна састарэе.

Працуючы над артыкулам, захацелася правесці міні-апытанне сярод тых, хто робіць кіно ў Беларусі і аднаго госця з замежжа:

Глеб Шпрыгаў, прадзюсер:

— У савецкім кіно прадзюсерам выступала дзяржава, і ёй было ўсё роўна, будзе мець поспех фільм альбо не. Гэта адзін бок справы. А другі — у тым, што фігура рэжысёра, па сутнасці аб'ядноўваючы гэтыя функцыі, была з гэтай прычыны больш значнай, чым сёння. Адсюль і амбіцыі, і пакрыўджанасць у рэжысёраў. За рэжысёрам заўсёды творчы бок, за прадзюсерам — накіраванасць на камерцыйны поспех. Проста роля рэжысёра ў параўнанні з савецкім перыядам змянілася. А камерцыйнае кіно — значыць відовішчнае.

Любоў Баталава, дырэктар кінастудыі "Летапіс":

— Нас пастаянна і неабгрунтавана параўноўваюць з тэлебачаннем. Гавораць, вось там кіно, а ў вас няма. Там аператыўнасць, а ў нас не. Але ніхто не хоча бачыць, што тэлебачанне карыстаецца нашымі матэрыяламі, у тым ліку і архіўнымі. Што будзе рабіць ТБ праз пяць, дзесяць гадоў, калі нас не будзе?

— У савецкія часы існавала меркаванне, што ТБ — гэта сурагат кіно…

— Не. Гэта зусім розныя жанры відэамастацтва. Карцінка на ТБ — гэта інфармацыя, а карцінка ў кіно, нават неігравым — душа.

Кшыштаф Занусі, кінарэжысёр:

— Мы традыцыйна чакаем, што з Беларусі прыходзяць толькі нацыянальныя карціны пра вайну, усе яны гавораць адно і тое ж, не адкрываючы нічога новага. Хацелася б, каб сучаснае беларускае кіно мне сказала нешта пра сучасныя мары, недахопы і імкненні моладзі, пра тое, чаго яны жадаюць і чаго ім не стае. Такое б кіно мела моц, вагу. Гістарычныя фільмы — гэта пошук міфа, які павінен быць у пачатку развіцця краіны. Я думаю, гэта не так цікава, яны не прыносяць задавальнення, і мы рэдка іх глядзім.

Невялікі каментарый да апошняга меркавання, у якім ёсць пэўная доля хітрыкаў.

Савецкае кіно пра вайну па якасці пераўзыходзіць усё, што здымаецца цяпер. Але ў яго быў адзін недахоп, нейкая камплементарная аднабаковасць, якая прывяла да таго, што пры канцы мінулага стагоддзя ўзнікла тэндэнцыя "аднаўлення справядлівасці", а па сутнасці, дыскрэдытацыі Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Нашы ж заходнія суседзі пры гэтым смела бяруцца за тэму, зразумела, раскрываючы яе па-свойму і тым самым "прамываючы" мазгі гледачу, асабліва маладому.

Некалькі слоў пра польскі кінематограф. Феномен польскага кіно, сапраўды, існуе, але не таму, што Польшча ў тры з паловай разы большая за Беларусь. Польшча — своеасаблівы блок-пост заходняй цывілізацыі. І можа выконваць гэтую ролю паспяхова пры дастатковай міжканфесійнай і ідэалагічнай трываласці. Немалаважную ролю ў гэтым адыгрывае польскі кінематограф. І гэта выводзіць яго на якасна іншы ўзровень. Яго мэта — дэманстрацыя для суседзяў справа ладу жыцця, творчых падыходаў і вітрын заходняй цывілізацыі.

Беларусі таксама варта асэнсаваць сваю ролю ва ўсходнеславянскай цывілізацыі і толькі так яна зможа пераадолець местачковасць, якая палягае ў аснове шэрагу кінастужак апошняга часу.

Падсумуем.

Да Беларусі праяўляе вялікую цікавасць славянскі свет і, найперш, Расія. І калі не ўпадаць у крайнасці, то мы маем вялікую колькасць тэм, датычных нашай сумеснай гісторыі, надзвычай цікавых на расійскай прасторы.

Калі дакладна вызначыцца з крытэрыямі дзяржзаказа, не патрабаваць ад дакументалістыкі "рабіць грошы", калі не імітаваць рынак, а аддаць пэўны яго сектар для развіцця камерцыйнага кіно, калі асэнсаваць ролю Беларусі ў цывілізаваным узаемадзеянні і процідзеянні з суседзямі справа і злева — ёсць шанц стварыць фундамент для выхаду з крызісу нацыянальнага кіно. А ўсё астатняе — справа кінематаграфічнай тэхнікі.

Сяргей ТРАХІМЁНАК,
сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі

Ад рэдакцыі. Надрукаваўшы палемічныя і, магчыма, у нечым спрэчныя нататкі пісьменніка, які не адзін год займаецца і кіно, мы спадзяёмся, што размова пра стан і перспектывы развіцця айчыннага кінематографа будзе прадоўжана.

Анкета пісьменніка

# Душу трэба выхоўваць



Мы працягваем размаўляць, якое месца займае пісьменнік у сучасным жыцці. Хто ён для чытача і што хоча сказаць сучаснікам? Сваімі думкамі дзеліцца пісьменнік Уладзімір Ліпскі:

1. Існуе меркаванне: калі раней пісьменнік быў настаўнікам, вяшчальнікам ісціны, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка паяўляцца нават на ТБ. І яшчэ радзей у газетах. Чаму?

2. Падзенне нораваў — міф ці рэальнасць. Ці павінны кнігі вучыць жыць?

3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?

4. Якія характэрныя рысы сучаснага нарыса вы б вызначылі?

1. Можа, хто і стаў прыватнай асобай, але не я. Пісьменнік толькі тады можа апраўдаць сваё прызванне, калі ён не толькі піша кніжкі, не толькі іх выдае, але і сустракаецца са сваімі чытачамі. Бачыць іх, адчувае, жыве з імі разам. Мне пашчасціла, што я пішу кніжкі і працую ў жанры дакументальнай і дзіцячай літаратуры. Атрымліваецца, што ў год я выступаю ў школах, ва ўніверсітэтах, дзіцячых садках, каледжах, бібліятэках больш як сто разоў! Вы можаце сабе ўявіць? Літаральна кожныя тры дні я маю аўдыторыю. Працуючы ў "Вясёлцы", я таксама заўсёды навідавоку ў сваіх чытачоў. І калі па-добраму гаварыць, то так павінна быць у кожнага пісьменніка. Калі пісьменнік толькі сядзіць і піша — гэта непаўнацэнна. Трэба сустракацца з людзьмі, бачыць іх. І я не думаю, што пісьменнік можа быць прыватнай асобай. Прыватным можна быць цесляром, сталяром, а калі ты ўзяўся за пяро — ты робіш вялікую дзяржаўную справу.

2. Гэта вельмі хвалюючая тэма. Сапраўды, выхаванне душы — гэта самы галоўны ўніверсітэт, які павінен прайсці кожны чалавек, выхаваць сваю душу. У мяне ёсць кніжкі пра маму, пра бацьку. Яны непісьменныя людзі, але яны святыя людзі, бо здолелі выхаваць маю душу, яны далі мне ўрокі высокай маралі. "Не лезь у агарод да суседа!". І я не лез, бо ведаў, што нельга браць чужое. Вось калі быў у Амерыцы, то ў адной школе заўважыў правілы, што вісяць на сцяне. Вельмі простыя і ясныя: пазычыў — вярні, не хлусі, узяў — аддай. Мама мяне калісьці вадзіла першы раз паказваць як узыходзіць сонца… Яна ж сапраўдная настаўніца. Раненька мяне разбудзіла, мы босыя ішлі па расе, яна завяла за агарод і я ўпершыню ўбачыў як выкацілася на сенажаць вялікае сонца. Выхаванне духоўнае — гэта галоўная тэма літаратуры нашай, любой кніжкі. І калі няма гэтага — не бярыся тады пісаць.

3. Будучы старшынёй праўлення Беларускага дзіцячага фонду, я аб'ехаў усе дзіцячыя дамы, школы-інтэрнаты. Сустракаўся з многімі падкідышамі, сіротамі, а перад імі выступаць — гэта не так, як у звычайнай школе. Адночы чытаў казкі, нібыта весела і ўсё зразумела, а пасля адзін падымаецца з апошняга рада і кажа: "А вы свісныць можаце?" А я і чытаў, і расказваў усё правільна. Гляджу на яго, закладваю пальцы і як свісну, і толькі тады я стаў сваім у іх. Вось кніжка "Бацькі і дзеці", якая ўключае мае дзённікі, назіранні. А аповесці "Мама. Малітва сына" і "Бацька. Пісьмы на неба"?.. Мне захацелася напісаць пра сваіх бацькоў, калі я ўбачыў іншых, якія кідаюць сваіх дзяцей. А вось не працаваў бы ў фондзе, можа б, і не атрымалася такая эмацыянальная кніжка.

4. Ёсць трывога, што жанр нарыса ў заняпадзе. А шкада… Ён павінен прысутнічаць і ў "ЛіМе", і ў "Полымі", і ў "Нёмане". Мы — журналісты, пісьменнікі, літаратары – у даўгу перад людзьмі.

Мне больш падабаюцца партрэтныя нарысы, маляваць чалавека рознымі фарбамі. Калі пішаш пра чалавека, то і радавод закранаеш, адкуль ён, карані яго. Міжволі і пра рэгіён пішаш, і пра занятак. На сёння, мне здаецца, можна набраць два дзясяткі пісьменнікаў, якія могуць і жадаюць працаваць у гэтым жанры, бо гэта вельмі складаны жанр. Журналісты часам адносяцца да гэтага лёгка. Прыйшоў, дыктафон уключыў, пагаварыў з героям і ўжо піша нарыс. А тут, можа, і ў архіў трэба зазірнуць, і з яго знаёмымі пагутарыць, і наведаць мясціны, дзе прайшло яго жыццё, і толькі тады брацца пісаць нарыс.

Запісала
Дзіяна АРЫПАВА

---

Другі год дзве ўстановы культуры Гомельшчыны — абласная ўніверсальная бібліятэка імя У.І. Леніна і Веткаўскі музей народнай творчасці — рэалізуюць сумесны праект "Гісторыя беларускай кніжнасці". У бібліятэцы на аснове радавой калекцыі князёў Паскевічаў, калекцыі рэдкіх выданняў і калекцыі кніжных мініяцюр створаны і працуе музей рэдкай кнігі. Кнігазнаўцам і аматарам кніг Веткаўскі музей народнай творчасці вядомы сваёй кніжнай калекцыяй, якая з'яўляецца адной з найбольш поўных і цікавых на тэрыторыі нашай краіны. Абедзве ўстановы аб'ядноўвае агульная мэта – асветніцкая дзейнасць, імкненне пашырыць веды аб развіцці кніжнай справы на Беларусі, аб ролі кніг у розныя перыяды гісторыі грамадства.

# Да вытокаў асветніцтва




Першая выстава, якая экспанавалася ў музеі рэдкай кнігі ў рамках праекта, прысвячалася 440-й гадавіне "Вучыцельнага Евангелля" (1569), выдадзенага ў заблудаўскай друкарні беларускага магната Рыгора Хадкевіча маскоўскімі першадрукарамі Іванам Фёдаравым і Пятром Мсціслаўцам. Рукапісныя зборнікі тлумачэнняў розных евангельскіх тэкстаў бытавалі на Русі з XII стагоддзя, але да Заблудава "Вучыцельнае (або "талковае") Евангелле" ні ў адной са славянскіх краін не друкавалася. У яго склад уваходзяць як перакладныя "словы" "айцоў царквы" (большай часткай Іаана Златавуста), так і творы айчынных аўтараў. Упершыню ў заблудаўскім выданні было надрукавана "Слова на ўзнясенне Гасподняе" пісьменніка XII ст. Кірылы Тураўскага. На выставе "Вучыцельнаму Евангеллю" — 440 гадоў" таксама была прадстаўлена дакладная копія заблудаўскага Евангелля, выдадзеная ў віленскай друкарні купцоў Мамонічаў каля 1580 года беларускім друкаром Васілём Гарабурдой.

У другой палове XVI стагоддзя па колькасці насельніцтва, таваразвароту, па развіцці культуры Вільня стаяла на першым месцы сярод гарадоў Вялікага Княства Літоўскага. У ёй, сталіцы, сутыкаліся і ўзаемадзейнічалі самыя разнастайныя ідэі Рэфармацыі і Контррэфармацыі. Адсюль зразумела імкненне гараджан да кнігі. Каб задаволіць яго, патрэбна была друкарня з магутнай матэрыяльнай базай. І Мамонічы — у гэтым іх заслуга — зразумелі задачы часу, вырашылі адкрыць друкарню, якая выпускала б кнігі для праваслаўнага насельніцтва. Для вядзення друкарскай справы яны запрасілі Пятра Мсціслаўца. Менавіта ён выпусціў у Вільні 30 сакавіка 1575 года "Чатырохевангелле", якое вылучаецца сваім мастацкім аздабленнем. Кніга ўпрыгожана цудоўнымі застаўкамі, ініцыяламі, гравюрамі, выкананымі ў стылі маньерызму. Адзін экзэмпляр гэтага выдання захоўваецца ў Веткаўскім музеі. Лепшая кніга беларускага друкара XVI стагоддзя была прапанавана для знаёмства наведвальнікам музея рэдкай кнігі на выставе "Чатырохевангелле" Пятра Мсціслаўца". Поруч з ім экспанавалася "Евангелле напрастольнае" (1600), таксама выдадзенае ў друкарні Мамонічаў і вельмі блізкае па сваім афармленні да выдання П. Мсціслаўца 1575 г.

Прынцыпова новым перыядам у гісторыі беларускай кнігі з'яўляецца брацкае кнігадрукаванне, якое існавала ў XVII — XVIII стст. і стала справай цэлых грамадска-рэлігійных арганізацый у гарадах. Да гэтага часу друкаваннем кніг займаліся падзвіжнікі, пераважна паасобку ці ўдвух.

Адным з буйных цэнтраў беларускага кнігадрукавання была магілёўская Багаяўленская брацкая друкарня. Больш за сорак выданняў, якія выйшлі ў ёй у перыяд з 90-х гадоў XVII і да канца XVIII стагоддзя, пераканаўча сведчаць пра паслядоўную выдавецкую палітыку брацтва. Арыентацыя друкароў на розныя пласты насельніцтва прывяла да фарміравання асобай структуры магілёўскай брацкай кнігі. Большасць выданняў мела тытульныя аркушы, была ўпрыгожана фігурнымі ілюстрацыямі, застаўкамі, канцоўкамі, ініцыяламі. Старонкі кніг аздабляліся літым наборным арнаментам. Арганічнае спалучэнне ўсіх гэтых элементаў стварыла непаўторнае аблічча магілёўскага старадруку.

У магілёўскай друкарні працавалі такія таленавітыя мастакі, як Максім і Васіль Вашчанкі, Фёдар Англенка, Афанасій П. (Пігарэвіч), у творчасці якіх цесна зніітаваны старажытныя праваслаўныя традыцыі і новыя плыні еўрапейскага барока, якое было засвоена і асэнсавана майстрамі брацтва на ўзроўні народнай эстэтычнай свядомасці. Менавіта тут быў створаны першы ў беларускай кірылічнай кнізе свецкі цыкл ілюстрацый. Адной з такіх работ з'яўляецца гравюра Васіля Вашчанкі на тытуле кнігі Дзмітрыя Растоўскага "Жыцці святых" (1702), якая экспанавалася на выставе "Старадрукі магілёўскай брацкай друкарні". Да ліку ранніх магілёўскіх выданняў, якія прадстаўляюць сабою першыя вопыты стараабрадніцкага кнігадрукавання ўвогуле, адносяцца "Часаслоў" (1701) і "Псалтыр" (1705). Менавіта гэтыя выданні выклікалі найбольшую цікавасць у гісторыкаў, аматараў беларускай кніжнасці, краязнаўцаў і спецыялістаў у галіне выдавецкай справы, якія наведалі музей рэдкай кнігі.

Магілёўскія выданні зрабілі несумненны ўплыў на кнігі старавераў, якія былі надрукаваны ў больш позні час.

Беларускім старадрукам, якія былі выпушчаныя ў друкарні супрасльскага ўніяцкага Дабравешчанскага манастыра, прысвечаны артыкул аўтара "З друкарні Супрасля" змешчаны на старонках газеты "ЛіМ" за 11 снежня 2009 года.

Не засталіся без ўвагі кнігі, выдадзеныя ў XVIII стагоддзі гродзенскай каралеўскай друкарняй, якія вызначаліся высокай якасцю паперы (завозілася пераважна з Прусіі), друку, мастацкага афармлення. "Катэхізіс" (1783), "Кніга аб веры"(1785), "Кветнік" (1790) і іншыя выданні былі прадстаўлены на выставе "Старадрукі гродзенскай друкарні XVIII стагоддзя". Яе аснову склалі кнігі на стараславянскай мове для старавераў.

У 1680-я на паўднёвым усходзе Беларусі, у Ветцы і яе наваколлях пачала фарміравацца стараабрадніцкая культура. Ветка каля ста гадоў была буйным цэнтрам, "сталіцай", "мітраполіяй" старавераў беглапапоўскага руху. Ветка як цэнтр жыцця стараабраднікаў — вызначэнне больш шырокае за сваю геаграфічную назву. Яно ўключае не толькі горад Ветку, але і веткаўскія слабоды. Даследчыкі выкарыстоўваюць тэрмін "вялікая Ветка", які азначае тэрыторыю рассялення старавераў на Гомельшчыне. Некаторыя ўключаюць у яго і памежныя землі Чарнігаўскай і Бранскай абласцей.

Па кнігах старавераў можна прасачыць развіццё славянскай кніжнасці і яе пэўную мадыфікацыю праз стараабрадніцкую культуру. Надзвычай цікавая з'ява ў ёй — стварэнне і мастацкае аздабленне рукапісных кніг.

Засвоіўшы рукапісныя традыцыі Старажытнай Русі, узяўшы за аснову старадрукаваны арнамент, увабраўшы традыцыі народнага мастацтва, Ветка стварыла свой арыгінальны стыль у афармленні рукапіснай кнігі. Высокамастацкія цэльныя творы нараджаліся ў веткаўскіх манастырах у XVIII ст. У XIX стагоддзі з манастырскіх скрыпторыяў кніжнае мастацтва трапляе ў дамы слабаджан. Слабадскія майстры захавалі высокі ўзровень дэкаратыўнага афармлення пеўчых рукапісаў.

Цудоўную характарыстыку гэтым кнігам дае даследчык веткаўскіх рукапісаў, галоўны захавальнік Веткаўскага музея народнай творчасці, кандыдат мастацтвазнаўства С. І. Лявонцьева: "Вобраз райскага саду — галоўны на старонках кожнага рукапісу. Ён праяўляецца і ў радасным каларыце з характэрным спалучэннем бірузовых і тэракотавых адценняў, і ў выразным рытме расліннага арнаменту, і ў багацці райскіх птушак, і ў спалучэнні рэалізму і фантастычных вобразаў".

Варта адзначыць, што Ветка заўсёды заяўляла пра сябе як пераемніцу старажытнай культуры, пра што згадваецца ў розных крыніцах XIX — пачатку XX стст.

Свабодна карыстаючыся кнігамі, надрукаванымі ў XVIII стагоддзі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ва ўкраінскіх, беларускіх, літоўскіх друкарнях, веткаўскія майстры пераймалі дэмакратычнае афармленне кніг. Не менш важную ролю адыгрывала і арнаментацыя старажытнабеларускіх рукапісаў, якія бытавалі ў мясцовым стараабрадніцкім асяроддзі.

Узбагаціць кругагляд кожнага наведвальніка, атрымаць задавальненне ад сустрэчы з высокамастацкімі рукапісамі дазваляе выстава "Рукапісная кніга Веткі", якая дзейнічала на працягу верасня-кастрычніка бягучага года ў музеі рэдкай кнігі. Гамяльчане і госці горада маюць магчымасць пазнаёміцца з рукапісамі XVIII — пачатку XX стагоддзя.

Дзіна МЕЛЬНІЧЭНКА,
загадчыца аддзела рэдкай кнігі Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. І. Леніна

На здымку: знаёмства з музеем рэдкай кнігі.

# Адчуванне радзімы, як самога сябе

“Сем цудаў Беларусі” — серыя пад такой назвай, безумоўна, добра вядома прыхільнікам нацыянальнай даўніны. Пачатак гэтай своеасаблівай бібліятэцы мастацка-гістарычнай дзіцячай літаратуры, адрасаванай у першую чаргу юным чытачам, быў пакладзены ў 1999 годзе кнігай Уладзіміра Ягоўдзіка, які першым засведчыў: сапраўды ёсць “Сем цудаў Беларусі”. Цягам часу да працы ў гэтым накірунку падключыўся Анатоль Бутэвіч, які, трэба адзначыць, працаваў вельмі плённа, аб чым засведчылі ягоныя кнігі “У гасцях у вечнасці”, “Званы Нямігі”, “За наміткай гісторыі”, “Адвечны покліч Радзімы”, “Славуты родам сваім”. У кожнай з іх да цудаў, ужо прыкмечаных У.Ягоўдзікам, дадавалася яшчэ па сем, старанным выбіральнікам якіх з таго, што робіць гонар Беларусі і чым яна адметна, быў А. Бутэвіч.



Тыя, хто ўважліва сачыў за гэтай серыяй, але асабліва тыя, хто стаў збіраць згаданую бібліятэчку, з нецярпеннем чакалі, калі ж з’явіцца ў ёй чарговая кніга. Нарэшце дачакаліся яе. “На далонях вечнасці” — так называецца гэты зборнік, што пабачыў свет у выдавецтве “Кавалер”, якое, дарэчы, у свой час і пачало выпускаць “Сем цудаў Беларусі”, перадаючы правы выдання некаторых зборнікаў Мінскай фабрыцы каляровага друку.

Аднак “На далонях вечнасці” — не проста чарговая кніга, а своеасаблівае выбранае з папярэдніх кніг. Таму ў гэтай кнігі і два аўтары — А. Бутэвіч і У.Ягоўдзік. Але паколькі першым з іх асэнсавана ажно 35 цудаў, то пры складанні зборніка было вырашана паступіць па-джэнтльменску: уключаны матэрыялы У.Ягоўдзіка і самае лепшае з напісанага А. Бутэвічам. У выніку пад адной вокладкай сабраны 34, кажучы словамі А. Бутэвіча, “каштоўныя залацінкі нашай мінуўшчыны, якім не шкодзіць ніякая даўніна, не псуе забыццё. Яны самі сталі і набыткамі вечнасці, і яе яскравымі сведкамі.

Гэта — як адвечны покліч Радзімы, якога не адолее ніякае бяспамяцтва.

Створанае рукамі і талентам чалавека перажыло час, вынесла нягоды, войны і пажары, стала сапраўдным нацыянальным багаццем.

Сённяшнім.

Заўтрашнім.

Заўсёдным”.

Словы гэтыя А. Бутэвіч прамаўляе ў прадмове “Шырае слоўка пра Беларусь”, напісанай, як адзначае ён, “з надзеяй на паразуменне”. Што такое паразуменне абдудзецца, сумнявацца не даводзіцца. Па-першае, няма сумнення, што сярод чытачоў будуць і тыя, хто з нарысамі і эсэ пра “сем цудаў Беларусі” ужо знаёмы, а, па-другое, кніга ж цікавая, у пэўнай ступені займальная, багатая на разнастайны фактычны матэрыял, удала адаптаваны да ўспрымання юным чытачом. Значыць, і новае пакаленне дзяцей выкарыстае яшчэ адну магчымасць, вобразна кажучы, адчуць Радзіму, як самога сябе.

Балазе, а пра гэта таксама можна сказаць пэўна, настаўнікі, выхавацелі дый самі бацькі — безумоўна, тыя, хто з’яўляецца сапраўдным патрыётам сваёй Бацькаўшчыны, прапануюць гэтую кнігу сваім вучням, дзецям. Ва ўсякім разе я асабіста, хоць і добра знаёмы з папярэднімі кнігамі, перачытваў выбранае з вялікім задавальненнем і, хоць тое, пра што расказваюць А. Бутэвіч і У. Ягоўдзік, мне ўжо добра вядома, не мог не выкарыстаць яшчэ адну магчымасць перачытаць яе яшчэ раз, каб упэўніцца, наколькі багатая і непаўторная гісторыя Беларусі, гэтаксама лішні раз усвядоміць, што “без іх, нашых папярэднікаў, без іхняй рупнасці, адвагі, самаахвярнасці, без іхняга нястомнага шчыравання на беларускай ніве, не было б і нас сённяшніх. Не было б і нашых набыткаў і здабыткаў, не стала б Беларусь родным і адзіным прызным домам для ўсіх яе разнамоўных насельнікаў, якіх годна трымае яна на сваіх спрацаваных і ласкава-дужых далонях”. Дый лепшае з таго, што зроблена нашымі папярэднікамі, паколькі яно — праяўленне высокага майстэрства, апантанасці ў дзеяннях, таксама прыклад нам у тым, як трэба працаваць, каб зробленае табою засталося і для нашчадкаў.

Тое першае, што годна пачуваецца “на далонях вечнасці” — крыж, зроблены выдатным майстрам-залатаром Лазарам Богшам па замове апякункі беларускага народа Еўфрасінні Полацкай. Пра гэты цуд гаворка ідзе ў нарысе “Крыж — святыня”. Дый знакамітыя слуцкія паясы — з тых твораў (так, твораў, бо яны не проста тое, чым карысталіся ў паўсядзённасці), якімі павінны ганарыцца і іншыя народы, таму што нідзе больш у свеце нічога падобнага няма. Невыпадкова “сённяшнія ўпрыгожваюць самыя вядомыя музеі Лондана і Парыжа. Варшавы і Кіева, Масквы і Нью-Йорка”. Але ж гэты цуд не мог бы з’явіцца, калі б князі Радзівілы не заснавалі ў 1736 годзе ў Слуцку ткацкую мануфактуру і не паслалі “на вучобу ў г.Станіслаў (цяпер Івана-Франкоўск), дзе выраблялiся паясы, двух здольных тутэйшых мастакоў — Яна Гадоўскага і Тамаша Хаецкага. Хоць, як вядома, “сапраўдная росквіту мануфактура дасягнула толькі праз 20 гадоў, калі па запрашэнні Міхала Казіміра Радзівіла яе ўзначаліў Ян Маджарскі. Нарадзіўся ён у Турцыі — у горадзе Стамбуле. Доўгі час працаваў ва Украіне. Дзякуючы бездакорнаму ткацкаму ўмельству набыў шырокую вядомасць і павагу. На Беларусь Ян Маджарскі прыехаў не адзін, а з некалькімі вопытнымі майстрамі, магчыма, землякамі”.

Атрымліваецца, што калі б не Міхал Казімір Радзівіл, то і не было б сусветна вядомых слуцкіх паясоў. Як пасля ўсяго гэтага не звярнуцца да нарыса “Радзівілы”, каб даведацца больш пра гэты магутны магнацкі род. Дый не лішне бліжэй пазнаёміцца і з іншымі родамі, якія былі не толькі эксплуататарамі, на чым не адно дзесяцігоддзе толькі і завастралася ўвага (праўда, як кажуць, слова з песні не выкінеш). Толькі і тое добрае, што зрабілі лепшыя прадстаўнікі гэтых родаў нельга забываць, пра што і расказваецца ў нарысах “Алелькавічы, князі слуцкія”, “Чартарыйскія”, “Хадкевічы”, “Астрожскія”, “Храптовічы”, “Гаштольды”...

Пра некаторых жа людзей слаўных, якія жылі ў часы даўнія і часы бліжэйшыя да нас расказваецца падрабязней: “Біблія” Францыска Скарыны”, “Песня пра зубра” (зразумела, бадай, кожны ведае, што гэты выдатны твор напісаў паэт-лацініст Мікола Гусоўскі). “Дыпламат Іосіф Гашкевіч”, “З роду Гальшанскіх” (пра Соф’ю Гальшанскую). Жыццё гэтых і іншых людзей — таксама своеасаблівы цуд. У тым сэнсе, што яны з’яўляліся яркімі, дзейснымі асобамі, таму і аказалі немалы ўплыў на развіццё беларусаў як нацыі, пакінулі аб сабе добры след і ў іншых народаў, на карысць якіх таксама працавалі.

Дый яшчэ ёсць і цуды з цудаў, бо больш нідзе нічога падобнага не напаткаеш. Пра адзін з іх гаворка ідзе ў нарысе “Кітабы”. Так, або Аль-Кітабы, Ай-Кітабы называюцца кнігі, якія стварылі па-беларуску, але арабскім пісьмом беларускія татары, якія “звязалі свой лёс з нашай зямлёй яшчэ ў далёкім XVI стагоддзі і цягам 600 гадоў годна і дбайна шчыруюць у агульнай людской супольнасці”.

Вялікую гістарычную каштоўнасць уяўляе сабой, а таму выклікае і цікавасць да сябе вялікі напрастольны крыж: “Гэтая святыня ўвайшла ў гісторыю пад назвай “Крыж Льва Сапегі 1596 года” (“Крыж Льва Сапегі”). Адна з вежаў успрымаецца свайго роду сімвалам Беларусі (“Камянецкая вежа”). Не кажучы пра тое, што яшчэ адзін сімвал Беларусі — нерушавыя лясы, асобныя ўчасткі якіх захавалі першабытны выгляд (“Белавежская пушча”). Рэдкасць і цэрквы, што адначасова з’яўляюцца абароннымі збудаваннямі (“Маламажэйкаўская царква-крэпасць”).

Кніга “На далонях вечнасці” — гэта і сапраўды быццам сама вечнасць, спрасаваная ў “каштоўныя залацінкі нашай мінуўшчыны”. Прывяду яшчэ толькі некалькі з іх, што паўстаюць у нарысах “Статут Вялікага Княства”, “Брэсцкая крэпасць”, “Няміга”, “Каложская царква”, “Аршанская кальчуга-байдана”, “Полацкі Сафійскі сабор” ... Не, не пералічваць іх трэба, а уважліва чытаць, каб разам нам усё болей упэўнівацца ў тым, наколькі ў нас шмат цудаў.

Цудаў, якімі нельга
не ганарыцца.
Цудаў, якія нельга
не шанаваць.

Паколькі ж у кнізе змешчаны цудоўныя ілюстрацыі Паўла Татарнікава (гэта ён адзін з намінантаў на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь), то імі можна яшчэ з задавальненнем і палюбавацца.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# Са святла і ценяў

Увага і павага да творчасці землякоў — вядомых і пачаткоўцаў — жыла са мной заўсёды, дзе б я ні знаходзіўся і ні працаваў.

Нікольні не пашкадаваў, набыўшы зборнік вершаў і прозы Любові Аляксеевай “Даўным-даўно”, выпушчаны ў выдавецтве “Кнігазбор”.

Імя гэта было калісьці навідавоку: віцябчанка друкавалася ў мясцовых газетах і ў “Віцебскім рабочым”, у прыватнасці.

Потым яна змоўкла: у жыцці здараецца ўсялякае. І раптам — цэлая кніжка!

Не схлушу, калі скажу, што чытаў яе з цікавасцю: а што ўласна новага ў вершах, на што замахнулася дэбютантка ў прозе?

З задавальненнем адзначу: паэтычная струнка (і ў прозе таксама) не парвалася, а працягвае гучаць. Большасць паэтычных радкоў і строф кранаюць непасрэднасцю пачуццяў, нейкай жаночай замілаванасцю да ўсяго, прымушаюць суперажываць:

Дожди уже прижились на дворе,
С деревьев листья снова улетели.
Заблудимся давай-ка в октябре,
Да так, чтобы сыскать нас не сумели...
Мне хорошо с тобою так идти.
Из-под ресниц глаза твои сияют.
Сегодня нам, я знаю, по пути,
Что будет завтра — этого не знаю!

Няблага, хоць у другім радку адчуваецца чутае і чытанае. Ды хто не захапляўся Рубцовым? І ніякага перапеву тут няма — супадзенне, не больш. Нечым уразілі і такія радкі: “Надоело, хватит, друг, — закричу тебе я вдруг. Побегу побыть одной, пить вино своё с виной”.

Невялікія апавяданні, рознакаляровы россып лірычных эцюдаў — нешта ад мазаікі — захапілі. Павеяла ад іх светлым, даўно мінулым, чыстым і непаўторным.

Цытаваць прозу ў невялікім допісе сэнсу мала, а таму пастараюся хоць бы акрэсліць тое, што ёсць у ёй арыгінальнага.

З малых твораў прывабіла і ўразіла сваёй пяшчотай апавяданне “Гэта было са мной”. Непаказная аголенасць пачуццяў і думак, адкрытасць героя і гераіні адразу прымушаюць (без прымусу!) верыць, што так і было, так здараецца ў жыцці. І выйсце — барацьба за сваё каханне. І тады будзе святлей ад яго на свеце. Толькі вось не суцяшае мяне, чытача, прывідная надзея Ірыны на нейкае шчасце ў будучым, з расколінай — у прыгожай вазе. Можа, з’явіцца другая і трэцяя…

“Печаль отпустила её и подумалось, что... у нее появится кто-то другой, опоздавший на пир жизни, грустный и несчастный. Но таких, как Игорь, уже не будет до самого конца отпущенных Богом дней”.

Ленаватасць нейкая чуецца ў сказаным: ну, было, ну, прайшло — з болем, роспачу, шкадаваннем; прыйдзе яшчэ нехта. І ўсё можа паўтарыцца…

Гэта не крытыка аўтаркі, не папрок ёй: кожны думае, адчувае, піша так як хоча.

Самае вялікае месца займае ў зборніку, як адзначалася, мазаічны россып лірычных успамінаў, погляд на сябе збоку, з часоў былых, гадоў мінулых, пачынаючы с пачатковай школы; потым пачатак юнацтва і яно само, што жыве з намі заўсёды.

І што самае ўсцешнае, падумалася мне, дык гэта тое, што чытаць кніжку будзе цікава не толькі дарослым, але і маладым, хоць тым, якія былі тады, даўно няма.

Пра апошняе сказана ў прадмоўцы: “У першую кніжку “Даўным-даўно” ўвайшлі апавяданні і вершы, напісаныя ў розныя гады і пра рознае. Але яднае іх адно: неабыякавасць аўтара да дабра і зла, гора і радасці...”

Алег САЛТУК

## Віншуем

З 75-годдзем Уладзіміра Андрэевіча Паўлава, празаіка, паэта.

З 75-годдзем Барыса Абрамавіча Заборава, графіка, жывапісца. З 1980 г. жыве ў Францыі.

З 70-годдзем Валерыя Аляксандравіча Ярмоленку, нарысіста, вучонага.

З 60-годдзем Анатоля Яфімавіча Кашапарава, спевака, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь. Жыве ў ЗША.

З 55-годдзем Анатоля Уладзіміравіча Апанасевіча, паэта, празаіка, скульптара, барда.

З 50-годдзем Галіну Сямёнаўну Самойла, паэтэсу.

## Юбілейны каляндар

245 гадоў Міхалу Клеафасу Агінскаму, дзяржаўнаму дзеячу Рэчы Паспалітай, кампазітару, літаратару.

200 гадоў Генрыку Міхайлавічу Дмахоўскаму, скульптару, аднаму з кіраўнікоў рэвалюцыйнага руху на Беларусі, у Літве і Польшчы.

135 гадоў Льву Максімавічу Клейнбарту, рускаму крытыку і публіцысту, даследчыку беларускай літаратуры.

120 гадоў Сяргею Епіфанавічу Палуяну, публіцысту, празаіку і літаратуразнаўцу, аднаму з пачынальнікаў беларускай прафесіянальнай літаратурнай крытыкі.

110 гадоў Феліксу Піліпавічу Купцэвічу, песенніку, крытыку.

105 гадоў Канстанціну Маркавічу Цітову, паэту, перакладчыку. Пісаў на беларускай і рускай мовах.

95 гадоў Усеваладу Ігнатавічу Краўчанку, празаіку, драматургу, перакладчыку.

90 гадоў Сямёну Львовічу Дорскаму, перакладчыку.

85 гадоў Льву Антонавічу Салаўю, перакладчыку, літаратуразнаўцу, крытыку.

85 гадоў Льву Паўлавічу Мірачыцкаму, гісторыку-славісту, літаратару.

70 гадоў Канстанціну Іванавічу Тарасаву, празаіку, публіцысту.

# У свеце духоўных пошукаў

"Найбольш важны талент для пісьменніка — унутраны супрацьударны дэтэктар бруду"

(Э. Хемінгуэй)



На самым пачатку нумара — паэтычная нізка Івана Карэнды, дзе аўтар у даволі традыцыйнай манеры выказвае сваё замілаванне родным кутком, прысутнічаюць у вершах і настальгічныя ноткі. У цэлым падборка пакідае неблагое ўражанне, асабліва гэта тычыцца вершаў-перайманняў з народнага, але трапляюцца і неахайнасці, якія псуюць агульнае ўражанне. Калі з частаўжывальнай, зацяганай рыфмай "абрус-Беларусь" яшчэ якнебудзь змірыцца можна, то рыфма "ўвайшоў-прыйшоў", ужытая аўтарам на пачатку аднаго з вершаў, адбівае ўсялякае жаданне дачытваць гэты верш да канца.

Васіль Жуковіч прапануе ўвазе чытачоў паэтычную падборку, аб'яднаную агульнай назвай "Памяці Ніны Мацяш", якая вызначаецца шчырым, непадробным пачуццём болю ад страты духоўна блізкага чалавека.

Хведар Гурыновіч, адметны паэт, які апошнім часам друкуецца мала, выступае з новым вершаваным цыклам. Найперш прывабліваюць аўтарская арыгінальная метафарыка, свежыя рыфмы. Змянілася і тэматыка вершаў — калі раней аўтар пазіцыяніраваў сябе найперш як "адэпт Дзіяны", паэт-паляўнічы, то цяпер ягоныя вершы — гэта пераважна накіды, замалёўкі з прыроды і жыцця.

Друкуецца ў гэтым нумары "Полымя" і працяг сямейнай хронікі Уладзіміра Гніламёдава "Валошкі на мяжы". Як і ў папярэдніх раманах тэтралогіі, аўтар імкнецца развіваць традыцыі эпічнага адлюстравання жыцця. Адна з асаблівасцей творчага стылю пісьменніка — наяўнасць падрабязных апісальна-побытавых сцэн.

Два апавяданні Івана Стадольніка — "Набалелая лекцыя" і "Аднакласнікі" розныя як па стылі, так і па прынцыпе пабудовы сюжэта. Калі першае апавяданне — так бы мовіць, "аповед у аповедзе" — можа ўспрымацца як абсалютна самастойны твор, то другое пакідае ўражанне "фрагмента" нейкага іншага, больш буйнога твора, пасля яго прачытання застаецца адчуванне, нібыта аўтар штосьці недаказаў, не да канца растлумачыў аснову канфлікта, закладзенага ў сюжэт.

Дзіўнае адчуванне з'яўляецца пасля прачытання апавядання Міколы Дубоўскага "Выбар". Першая палова твора асаблівых нараканняў не выклікае, хіба што раздражняе неахайнасць стылю пісьменніка. Самае "цікавае" пачынаецца пасля. Распавядаючы пра падзеі часоў фашысцкай акупацыі на Беларусі, аўтар змяшаў разам "і коней, і людзей". Атрымалася нейкая "санта-бара", дзе былы савецкі пагранічнік Казанцаў аказваецца групенфюрэрам Манзагенам і бацькам чатырохгадовага хлапчука, пляменніка начальніка мясцовай паліцыі, а насамрэч жа — камандзіра партызанскага атрада пад "прыкрыццём". Шпіёнскія жарсці будуць пераследаваць беднага чытача аж да апошніх радкоў аповеда, дзе небарака Манзаген, ён жа Казанцаў, апынуўшыся ў "засадзе", выскоквае з акна, але збегчы не паспявае...

Пад рубрыкай "Пераклады" друкуюцца выбраныя старонкі з унікальных помнікаў старажытнаіндыйскай літаратуры "Рыгведа" і "Атхарваведа". Здзейсніў пераклад і забяспечыў публікацыю прадмовай і каментарыямі Янка Сіпакоў.

Навуковая публікацыя Марыны Свістуновай прысвечана 410-годдзю "Антырызіса" — помніка беларуска-ўкраінскай публіцыстыкі, аўтарам якога з'яўляецца Кіеўскі і Навагрудскі мітрапаліт Іпацій Пацей. Даследчыца аналізуе моўны склад твора, яго сувязь з іншымі працамі Пацея.

Гісторыя, умовы развіцця, а таксама сучасны стан і грамадскі статус беларускай мовы — галоўная тэма артыкула прафесара, доктара філалагічных навук, дырэктара Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандра Лукашанца. Шмат якія думкі ў артыкуле падаюцца слушнымі. Напрыклад, аўтар звяртае ўвагу на такую праблему, як "неадпаведнасць заканадаўчага статусу беларускай і рускай моў і рэальнага іх становішча ў грамадстве". Але ж гэта ні для каго не сакрэт, аўтар тут ніякай "амерыкі" не адкрывае. І можа быць, для таго, каб гэтую праблему зрушыць з месца, не трэба пісаць сухія навуковыя трактаты на дзясяткі старонак, а лепш звярнуць на яе ўвагу невялікім, але вострым палемічным нарысам?

Анатоль Валахановіч змяшчае свае ўспаміны пра земляка, пісьменніка Станіслава Шушкевіча. Пад рубрыкай "Помнае" публікуецца перапіска Якуба Коласа з земляком і блізкім сябрам коласаўскай сям'і Мікалаем Міцкевічам падчас Другой сусветнай вайны.

Пра нядаўна выдадзеную кнігу Ганада Чарказяна "Белая Вежа" разважае ў сваім артыкуле Кастусь Змачынскі. Алесь Карлюкевіч запрашае ў чарговую літаратурна-краязнаўчую вандроўку, на гэты раз у цэнтры ўвагі даследчыка — Мар'іна Горка і блізкія ваколіцы.



Апавяданні вядомага расійскага пісьменніка, майстра кароткага жанру, Івана Зорына, прываблівають перш за ўсё бліскучым стылем, тонкім інтэлектуалізмам, лаканічнасцю і закладзенай у сюжэт шматпланавасцю. У творах, змешчаных у "Нёмане", знайшлі свой працяг лепшыя борхесаўскія традыцыі, але гэта не значыць, што аўтар займаецца наўпроставым стылёвым і тэматычным перайманнем: свет духоўных пошукаў пісьменніка надзвычай арыгінальны і самабытны, у чым чытач мае магчымасць пераканацца.

Монап'еса Алены Паповай "Назіральнік" уражвае глыбінёй пранікнення ў псіхалогію асобна ўзятага індывідуума. Па сутнасці, твор можна ахарактарызаваць як "самотнае падарожжа на фоне эпохі". У дадзеным выпадку маецца на ўвазе савецкая эпоха, пасляваенны перыяд і аж да сённяшняга часу. Вобраз "выкінутага з жыцця", "лішняга" чалавека набывае ў творы рысы экзістэнцыяльнага чужаніцы, абыякавага, нібыта ў знакамітым творы Камю, да лепшых чалавечых праяў, з атрафіраванай часткай душы, што адказвае за суперажыванне бліжняму.

Зінаіда Краснеўская прапануе свае празаічныя развагі на тэму кінамастацтва. Уся нізка занатовак так і называецца "Кіно". Далей пісьменніца і распавядае пра ўсё тое станоўчае і кепскае, што звязана ў масавай свядомасці з гэтым словам. Безумоўна, усё тут моцна суб'ектыўна, вельмі часта эмацыйнае ўспрыманне з'яўляецца дамінантай у характарыстыках таго ці іншага акцёра альбо дзеяча кіно, але ў цэлым, дзякуючы прафесіянальнаму падыходу, веданню справы, эрудыцыі аўтаркі, матэрыял чытаецца на адным дыханні. Асабліва цікавымі аповеды пададуцца людзям старэйшага пакалення, гледачам, якія ўвачавідкі назіралі працэс тварэння "кіналегендаў" XX стагоддзя.

Арыгінальная рускамоўная паэзія прадстаўлена ў гэтым нумары "Нёмана" вершамі Міхаіла Барздыкі (імпрэсіяністцка-філасофскі падыход) і Наталлі Саветнай (выразны ўплыў рэлігійнага светаадчування на творчасць), беларускамоўная ж лірыка — вершамі майстра класічных форм Змітрака Марозава ў перакладзе Андрэя Цяўлоўскага.

Чарговымі сюрпрызамі адорвае чытача раздзел "Сусветная літаратура ў "Нёмане". Друкуюцца апавяданні двух выбітных празаікаў Новага Свету — Рэя Брэдберы і Уільяма Сараяна. Аўтар прадмовы, ён жа перакладчык тэкстаў — Арам Аганян — ставіў перад сабой задачу паказаць творчае падабенства двух пісьменнікаў, прычым найбольш яскрава прасочваецца менавіта ўплыў Сараяна на маладзейшага калегу па цэху. І сапраўды, пасля прачытання апавяданняў абодвух аўтараў узнікае ўражанне "дзіцячага", непасрэдна-дзівакаватага ўспрымання свету, захаплення непаўторнасцю і непрадказальнасцю жыцця.

Для тых, хто сочыць за еўрапейскім літаратурным працэсам, будзе карысна пазнаёміцца з падборкай вершаў сучасных эстонскіх паэтаў.

Пад рубрыкай "Дакументы. Нататкі. Успаміны" "Нёман" распачынае публікацыю біяграфічнай працы "Акадэмік Я. Ф. Карскі", удвая каштоўную тым, што яе аўтар — праўнук вядомага навукоўца-этнографа. Папярэдзе самой працы чытайце гутарку з Аляксандрам Карскім.

Пад гэтай жа рубрыкай — успаміны ваенных часоў Эсфір Гурэвіч пад назвай "Палявая пошта 43177 Д", дзе аўтарка распавядае пра пачатак Другой сусветнай вайны, пра сваю працу медыцынскай сястрой падчас баявых дзеянняў. Несумненна, шмат каго зацікавяць старонкі, дзе пісьменніца апісвае, напрыклад, сустрэчу паэта Аляксандра Твардоўскага са шпітальнымі параненымі.

У рамках нёманаўскага праекта "Культурны свет" змешчаны матэрыял Алены Агінай пра асаблівасці развіцця культурнай сферы Гомельскага рэгіёна.

Тым, хто цікавіцца айчыннымі навуковымі дасягненнямі, адрасаваны наступны матэрыял, своеасаблівы цыкл маналогаў прафесара-фізіка, супрацоўніка Нацыянальнай акадэміі навук Сяргея Кіліна.

Друкуецца ў нумары і нізка зацемак розных гадоў "Жыццё паэта ў мініяцюры" знанага паэта і крытыка Леаніда Галубовіча.

Завяршаюць нумар крытыка-літаратуразнаўчыя артыкулы Васіля Макарэвіча — пра кнігу Віктара Шніпа "Страла кахання, любові крыж" і развагі Юрыя Сапажкова пра нядаўна выдадзены гістарычны раман Алега Ждана "Князь Мсціслаўскі".



Адкрываецца нумар вершамі дэбютанта Алеся Вярцейкі. Па ўсім відаць, малады чалавек настойліва шукае сябе ў паэтычнай творчасці. Дапамагае яму ў гэтым і філалагічная адукацыя, якую ён атрымоўвае ў БДУ. Максімаліст па светаадчуванні, ён не прызнае кампрамісаў і не саромеецца прызнацца ў гэтым:

Кожны крышачку
ў душы філосаф,
Кожны кропельку ў душы паэт,
І ў часы душэўнага імпэту
Ён перамагчы гатовы свет.

Зрэшты, так і павінен сябе паводзіць кожны пачынаючы творца.

Празаічны дэбют настаўніцы беларускай мовы і літаратуры з Астраўца Вольгі Саковіч нельга назваць удалым. Апавяданне пад назвай "Падары мне пахі травы…" аўтарка здолела расцягнуць на некалькі старонак, хаця сюжэт можна пераказаць у двух сказах. Дык вось. Дзяўчыну запрашае на сваё вяселле былы каханы. Тая прыязджае і, па-ранейшаму кахаючы хлопца, ад шчырага сэрца блаславляе яго шлюб. Усё астатняе ў творы — дзявочыя сантыменты, настоеныя на лірычных успамінах. На мой погляд, аўтару варта больш увагі надаваць распрацоўцы сюжэта, улічваючы ўсё-ткі пры гэтым у нейкай ступені жыццёвыя рэаліі і чалавечую псіхалогію. Прынамсі, у такім выпадку гісторыя магла б мець іншы фінал, больш верагодны і набліжаны да жыцця і, адпаведна, зацікавіць нашмат шырэйшае кола чытачоў.

Вершы маладой паэткі Ганны Гарбуновай — экспрэсіянісцкія, вобразныя, характарныя — адразу звяртаюць на сябе ўвагу. Кожны верш у падборцы — своеасаблівы каліграфічны роспіс, выведзены ў хвіліну натхнення, завершаны ад першага вітка да апошняга. Вось толькі невялічкі прыклад, дзе ўсяго толькі адно чатырохрадкоўе ўжо стварае непаўторны малюнак:

Халодна. Ноч. Цягнік.
…Як зорна!
Купэ асветлена ледзь-ледзь.
Не супакоіць дух вандроўны.
Праз змрок густы
ляцець, ляцець.

Валерый Гапееў друкуе ў гэтым нумары "Маладосці" свой фантастычны твор "Вартаўнік (Кольцы Одры)". Аўтарскае азначэнне — міні-аповесць. Не маючы нічога благога сказаць пра сам твор (ён даволі цікавы, з арыгінальным развіццём сюжэтам), усё-ткі хочацца заўважыць, што жанрава на азначэнне "аповесць", няхай сабе нават і "міні" гэтая рэч ну ніяк не цягне. Вось апавяданне, навела — з гэтым ужо можна пагадзіцца.

Рагнед Малахоўскі прапануе чытачу нізку кароткіх верліброў, якія па форме і па змесце нагадваюць то японскія танка, то разанаўскія пункціры. Бачна, што паэт у пошуку новых форм. У прынцыпе, гэты стан нармальны для творцы на працягу ўсяго жыцця. Прынамсі, пакуль ён здольны сам сабе задаваць наступнае пытанне:

калі ўжо
праз магутныя карані
набрыняе
сокамі мудрасці
маё дрэва

Падрабязней хацелася б спыніцца на наступнай публікацыі, а менавіта на падборцы эсэ Наталлі Касцючэнкі. Несумненна, гэтыя рэчы заслугоўваюць чытацкай увагі. Тым больш, што прадмет, пра які разважае аўтарка, не кожны пісьменнік адважыцца закрануць. І сапраўды, шмат хто, упэўнены, сутыкаўся ў сваім жыцці з трансцэндэнтнымі праявамі, але не кожны знаходзіць мужнасць у гэтым пасля прызнацца, часам нават перад самім сабой. А Наталля Касцючэнка прызнаецца, мала таго, нават, сцвярджае, не баючыся быць паднятай на смех, што ўласна да пісьменніцтва яе падштурхнула невядомая звышсіла.

Яўген Гучок, прэзентуючы ў гэтым нумары "Маладосці" свой паэтычны накцюрн "Дзверы тваёй душы", відаць, спрабуе спасцігнуць глыбінны сэнс слова "вечнасць", бо прысутнічае яно ў кожным з трыццаці шасці трохрадкоўяў нізкі. Здзіўленне выклікае неадпаведнасць аўтарскага азначэння "накцюрн" (ад франц. nocturne, альбо італьянск. notturno — "начны", тэрмін азначае забаўляльна-лірычны музычны твор для вечаровага часу) сапраўднаму зместу вершаў. Як тут не ўспомніць знакамітыя радкі Маякоўскага: "А вы ноктюрн сыграть могли бы на флейте водосточных труб?"

Далей у часопісе змешчана заканчэнне публікацыі Уладзіміра Ягоўдзіка "Сіні калодзеж. Сто беларускіх легенд і паданняў", шэраг крытыка-літаратурных і публіцыстычных матэрыялаў, сярод якіх хацелася б вылучыць артыкул Раісы Баравіковай "Перагукванне розных эпох", прысвечаны беларускаму моладзеваму руху і рэпартаж Дар'і Гуштын пра рыцарскі фестываль у Навагрудку. Біяграфічны нарыс пра Альфрэда Ромера, аўтара знакамітай "Пінскай Мадонны" прапануе аматарам гісторыі беларускага жывапісу публіцыст Алесь Марціновіч. Максім Клімковіч распавядае пра сваю цётку, беларускую пісьменніцу Святлану Клімковіч, якой у гэтым годзе магло б споўніцца 75 гадоў.

Краязнаўчы даведнік Дзмітрыя Крывашэя і Адама Мальдзіса знаёміць нас на гэты раз з літаратурнымі мясцінамі Крупшчыны і Лагойшчыны.

Янка ЛАЙКОЎ

№ 43 29 кастрычніка 2010 г. ЛіМ



Мікола МЯТЛІЦКІ

## Алескаўка

Сярод лясін, пры азярыне,
Сумуе яблыня лясная.
Другіх не маючы ў сябрыне,
Адно тугу-гаркоту знае.

Вакол калючыны-яліны
Ды ніцы зрошаны арэшнік,
Загрыўкі дзікае маліны
І чэзлы хмыз — забыты грэшнік.

Някметнай квеценню вясновай
Яна падбеліцца сіроча,
І гэтай вабнаю абновай
Жыльцам лясным уколе вочы.

І з ранку гуд стаіць наўкола,
І белых кветак зззяюць чары,
І прагавіта смокчуць пчолы
Крышталь гаючага нектару.

І ўжо, калі асенні вецер
Лясную яблыню аголіць,
Душа з трапёткасцю прыкмеціць
Драбнюткі плод у сетцы голля.

Прывеціць светлае з'яўленне
Яе, забытае малодкі.
І будзе поўная здзіўлення —
Які на смак той плод салодкі.

* * *

Лебедзь над плёсам рачным
Шугка, да звону,
Раскалыхаў паветра,
Што над зямлёй
Паўсоннай
Пругка азвалася ветрам.

Услед пазірну зайздросна,
Смутак адзін паспытаю.
Ўсе маладосці вёсны
Так адлятаюць.

* * *

Я не з тых, хто хвацка-хлёстка
Славіць наступы прагрэсу.
Мне зрубаная бярозка,
Як нястача ўсяму лесу.

І пагаслая крыніца,
Як зямлі ўсяе нястача.
Ды прагрэсу не спыніцца.
Ці магчыма жыць інакш?

Схамяніцеся, гарланы,
Не хваліцеся ў ахвоту.
Кут мой родны — пахаваны,
У абдымках ржавых дроту.

Што ляжыць на схемах мудра,
Ідэальна, непагрозна —
Выяўляе потым сутнасць.
Ды задумацца
Так позна.

* * *

У нетры пракаветнай грыб таемны —
Васёлка, ад усіх хвароб, што ёсць.
Вядзецца з ранку пошук узаемны —
Яго шукаюць, ну і ён кагось

Прыцягвае невядомым смуродам,
Не вытрываць, ну хоць ты нос заткні.
Сядзіць, бялютка-снежны, над балотам
На купіне ў альховай цішыні.

У гушчэчу, дзе звяр'ё адно блукае,
Ступаю дрогка — суцемак які!
Здалося мне, што грыб здалёк гукае,
Разліўшы знаны дух на ўсе бакі.

А вечарам, не знаўшы ў леках толку,
У ха́ціне над стромаю-гарой
Збываю напатканую вясёлку
Адной вядомай знахарцы старой.

Паставіць бабка лекі у падполле,
І ўсходзяцца, калі ж пара прыйшла,
Павылечаць ураз ад алкаголю
Пітушчую кампанію сяла.

Якія там бальніцы і аптэкі,
Такое ім ці сніласа — ура!
Да бабкі па кашто ўнейшыя лекі
Сапраўдная народная чарга.

* * *

Брусніцы выбраны ў бары,
Гудуць сярдзітыя вятры,
Нябёсы хмурацца-шарэюць.
Палёў палічаны дары,
І прыпаміны — сэрца грэюць.

Маркотай сцяты дзень, другі.
Ускліки вырайнай тугі —
Клін мкнецца ў вырай жураўліны.
Зіхцяць рачныя берагі
Густой ірдзістасцю каліны.

Сузор'і ценькага свята!
Расла някметна і цвіла
І вось пунцовасцю зазззяла.
Табе, каліны куст, хвала —
З табой святлей пад небам стала.

* * *

Гады змятае вецер з лісцем,
І вечнасць скорыць часу бег.
І тое ўжо было калісьці —
І першы дождж, і першы снег.

Ды ўсё рунее светла жыта,
Расце пад струнамі дажджоў.
Ды колькі ўжо у часе змыта
І пазамецена ужо…

* * *

Ад журавін барвее Вусціца
Парой асенняе красы.
Яшчэ туман світальны гусціцца,
А ўжо чутны там галасы.

Кабеты з Быстрыцы зарэчнае,
Чародка Гольнішскіх жанчын.
Размовы шчырыя, сардэчныя,
Ўсё аб карысці журавін.

Старыя ўнукамі пахваляцца,
Малодкі — дзецьмі, як адна.
Ды на мужоў усе пажаляцца —
Чмурэюць з ранку ад віна.

Хвалюючымі успамінамі
Да сэрца горнуць Божы свет.
І прысмак лёсу журавінавы
Гарчыць на вуснах у кабет.

І на душы у кожнай вусцішна,
Згрызае сэрца непакой.
Ад журавін барвее Вусціца
Па-над асенняю ракой.

## Пчаляр

Вышка пагранзаставы…
Яблыні… Хутарок…
Віліі бераг… Травы.
Раніцы ўзбудны крок.

Дзядзька ў прывычным клопаце.
Сетка. Ў руцэ дымар.
Мёд залацісты ў попыце.
"Доіць пчалу" пчаляр.

Пчолы — дабытчыкі вольныя,
Знаўцы усіх травін,
Носяць прысмакі стольныя
З ніваў і баравін.

Рапс беларускі ў квецені,
Грэчка ў палях Літвы.
Звонам сваім прывецілі
І дзьмухавец лугавы.

З берага Віліі правага —
Без усялякіх віз —
Лётаюць над заставаю
Праз беразняк і хмыз.



Людка СІЛЬНОВА

Сучасныя бібліятэкары ўмеюць не толькі выдаць кнігу, зрабіць электронную ці папяровую копію газетнага артыкула, адсканаваць партрэт, выступіць на кнігазнаўчых чытаннях. Яны ўмеюць таксама сябраваць і ўсміхацца. Прапаную ўвазе шаноўных чытачоў "ЛіМа" вершаваныя партрэты іх "знаёмых незнаёмцаў" — бібліятэкараў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Нізка склалася з вершаў, напісаных у працоўныя будні і дні такіх нядаўніх, светлых восеньскіх святаў, як Дзень беларускага пісьменства, Дзень бібліятэк, Дзень работнікаў культуры...

Аўтар

## Святло стэлажоў і бярозаў...

### Вехі гісторыі

Іржавыя вехі сусветнай гісторыі
Бібліятэкай дзяржаўнай паўтораныя.

Мы ехалі разам, гадалі, што будзе.
Кляліся:
"Не здрадзім ні кнігам, ні людзям!"

Вайну, як раку па разбураным мосце,
Праехалі бурай, і ў злосці, і ў млосці…

Хоць падалі, везлі і скарб наш, і памяць
У сонца і вецер, і слоўную замець.

Збяромся (у марах, напраўду...) у месцы
Адным — і высокім: у Бібліятэцы!

### Даследчыца

Т. І. Рошчынай,
ветэрану бібліятэчнай працы

Прынцэса не вы на гарошыне:
Капрызіць пад вечар — дарма.
Тацццяне Іванаўне Рошчынай
Да твару Вялікасць сама!

Святло стэлажоў і бярозаў,
Сталы з мікрафонам і без,
Дарогі ў дажджы і марозы —
Адвечныя "інтэрфэйс"...

А зробіцца цяжка — на гэта
Ёсць добрыя сродкі ў яе:
Усмешка, як сонейка летам,
І гумару прыгаршчы дзве.

Мы вельмі вас любім і зычым
Здароўя і сілы! Бо нам
Пашчасціла з вамі Сустрэчу,
Як хлеб, падзяліць напалам.

### Белы Рыцар

А. Беламу,
бібліёграфу, архівісту

Андрэю Беламу,
Герою смеламу,

Даследчыку паперы кніжнай,
Карункаў філіграняў пышных, —

Калегаў дружнае "Ура!"
І віншаванні, і віват!

Бо ён — сапраўдны Рыцар Белы
Вялікай Кніжнай Каралевы!

### Лістоў асенніх шапаценне

К. Суша,
бібліятэкарцы і рэдактару

Дзень вытанчанай пані Ксені
Прыйшоўся на сезон асенні,
Калі ласкава сонца свеціць,
Пяюць вятры, смяюцца дзеці,
Па плітках цокаюць абцасы
Дзяўчатак модных... І, укрaсай
Сезона, і жыцця, і свята,
Натрэсена лістоў багата,
Васёлых, гладкіх, залатых,
Барвовых, жоўтых і рудых,
На грэшную зямлю — каб стала
Ўсім добра так, як не бывала!..

У лістоў асенніх шапаценні
Чуваць і нашы гімны Ксені:
Расці, цвіці і налівайся,
Нягодам дробным не здавайся!

### Анёлак і куфэрак

К. Шатраўка,
апісальніцы інкунабул

Дзяжурыць зноў паненка Кацярына,
Прыгожая, як вершык ці карціна!

А хто яшчэ з даследчыкаў не знае,
Як сённяшні анёлак выглядае,

Няхай загляне
у наш Крышталь Блакітны,
Куфэрак старадаўніх кніг нібыта:

У адным з пакояў гэтага Палацу,
Як пашанцуе, ён сустрэне Кацю.

### Калядная зорачка

В. Высоцкай,
маладому спецыялісту

Амаль пад самы Новы год
Пашанцавала нарадзіцца
І спраўдзіць Зоркі узыход
Высоцкай нашай Вераніцы.

Цудоўны час! У пірагі
Кладуць, каб імі ганарыцца
Перад сваяцтвам дарагім, —
Арэхаў, маку і карыцы...

Над Кнігай залатых вякоў
Наканавана ёй схіліцца,
Каб казка добрая ізноў
Змагла на свеце паўтарыцца.

### Пароль

А. Сцебураку,
даследчыку французскіх аўтографаў

Кніг знаўца рэдкіх Анатоль.
Яму падораны пароль,

З якім — прамовіўшы ўслых —
Прайсці магчыма ў "Сферу кніг",

Ці ў Тайну тайнаў, можа быць:
"Жыць! Працаваць! Любімым быць!"

### Падумалася гэтым днём

Тацццяне Цыркевіч,
супрацоўніцы кнігасховішча

Падумалася гэтым днём:
Адным больш стала ручаём,
З тых, што зліліся ў нашым моры, —
Дазорцаў больш у кніг дазоры.

### Экскурсавод

М. Шопінай,
метадысту і экскурсаводу музея кнігі

Вам тайну і музей адкрые
Красуня Шопіна Марыя.

Няведання туман не страшны
Таму, хто годна йдзе за Машай.

### Быць, а не здавацца!

Ніне Барысаўне Ватацы,
легендзе бібліятэчнай справы

Патрэбнай — быць,
А не здавацца!
Чытаць. Любіць.
Жыць, як Ватацы.



Фота Алеся Высоцкага

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

29 кастрычніка 2010 г.

Выпуск 20

# 3 сайта — на паліцу

Кнігі для хатняй бібліятэкі сёння мы можам шукаць, не пакідаючы дом. Варта толькі мець выхад у Інтэрнэт. Новыя тэхналогіі лёгка дазваляюць падарожнічаць па віртуальных кніжных крамах. Добра, калі чытач дакладна ведае назву кнігі, аўтара, год выдання і выдавецтва, у якім яна ўбачыла свет. Гэтая інфармацыя ўводзіцца ў Гугл, Яндэкс, ці які іншы пашукавік, дадаецца каманда "шукаць", і літаральна праз некалькі секунд на экране з'яўляецца інфармацыя, дзе маецца кніга ў наяўнасці, як яе заказаць і колькі гэта будзе каштаваць.



## І неабмежаваная колькасць часу...

Той, хто палюе на кніжку ў Інтэрнэце, істотна адрозніваецца ад таго, хто шукае яе "ў рэале", — чалавек, які выйшаў у Інтэрнэт, увогуле не спяшаецца. Адчыніўшы адну старонку, ён можа бясконца вандраваць па спасылках, якія яго зацікавілі. У выпадку, калі пошук ідзе не мэтанакіравана, а зыходзячы з таго, што "душа ждала чего-нибудь", патэнцыяльны пакупнік можа пра кнігу і забыцца. А каб не забыўся — сярод прапаноў зноў жа самыя вядомыя імёны і разрэкламаваныя творы.

Ну, а калі ўсё ж такі карыстальнік некуды збочыў, у многіх віртуальных гандляроў кніга — не адзіны тавар, які яны прапануюць, а толькі сегмент разнастайнага асартыменту: наведвальнікі віртуальных крам маюць магчымасць заказаць музычныя дыскі, камп'ютарныя гульні, кіно, сувеніры-падарункі, а таксама электронныя кнігі На запыт "набыць кнігу ў Беларусі праз Інтэрнэт" карыстальнік атрымае даволі ёмкі спіс крам. (Пошук палегчыў akavita.by, на старонках якога змешчаны каталог сайтаў беларускага Інтэрнэту і рэйтынг іх наведваемасці.)

## Нюансы віртуальнага кнігагандлю

Калі чытач дасведчаны ў справах кнігавыдання, ён знойдзе сайты буйных і не вельмі выдавецтваў Беларусі і пазнаёміцца з іх навінкамі. Інфармацыя пра неабходныя падручнікі і дапаможнікі ёсць і на сайтах вышэйшых навучальных устаноў. Калі чытач — звычайны карыстальнік, яго паляванне ў Сеціве будзе больш працяглым па часе.

Не толькі выдавецтвы рэкламуюць свае навінкі ў Інтэрнэце, сайт ПЕРАМОГА належыць звычайнай мінскай краме.

Існуюць інтэрнэт-крамы, якія гандлююць выключна кнігамі. У некаторых з іх можна заказаць тавар кругласутачна, напрыклад на сайце Literatura.by. Сустрэча з неабходнай кнігай можа адбыцца хутка — калі ў віртуальных крамах яна ёсць у наяўнасці і прадугледжана аказанне кур'ерскіх паслуг. Праўда, пакуль такім чынам маюць магчымасць задавальняць свай чытацкі інтарэс у асноўным мінчане. (Большасць сеціўных кнігарань маюць сталічныя юрыдычныя адрасы.) Заказаную на magaz.by кнігу могуць атрымаць яшчэ і жыхары Брэста. Паслугі кур'ера абыдуцца мінчанам у 2.500, брэстчанам у 3.500 рублёў. На іншых сайтах для кліентаў, што робяць заказ на пэўную суму, скажам, ад 35 тысяч беларускіх рублёў, прадугледжана бясплатная дастаўка, калі заказ перавышае 50 тысяч, можна атрымаць скідкі.

Калі кур'ерскія паслугі не прадугледжаны, кнігі пакупніку высылаюць поштай. Звычайна на сайтах указаны тэрмін выканання заказа. Чаканне кнігі можа і зацягнуцца — калі патрэбнага выдання няма ў асартыменце ці ўвогуле наклад хутка скончыўся, хаця кнігі з невялікім накладам звычайна на віртуальным рынку не з'яўляюцца. І таму ёсць некалькі тлумачэнняў, пра якія мы прыгадаем пазней.

## На далейшае

Адной з цікавых інтэрнэт-старонак падаецца bookclub.by, якая з'явілася адносна нядаўна — у кастрычніку мінулага года. Сайт належыць "Кніжнаму клубу "Клуб аматараў кнігі". Пра яго работу расказвае дырэктар Наталля Гарэлышава: "Наша мэта — прынесці кнігу ў кожны дом. Інтэрнэт-крама — толькі адзін з варыянтаў прапановы кніг патэнцыйнаму пакупніку. Кніжны клуб абапіраецца на еўрапейскі вопыт кнігагандлю — бізнес будуецца на доўгатэрміновых адносінах. Рэкламныя каталогі распаўсюджваюцца на паштовых аддзяленнях — нават у самых аддаленых куточках краіны пошта з'яўляецца своеасаблівым культурным цэнтрам. Не адмаўляемся і ад рэкламы ў перыядычным друку, і ад раздачы каталогаў на вуліцы. Дзякуючы такой палітыцы, сёння ў клубе налічваецца 60 тысяч членаў.

Першы каталог утрымлівае цікавую прапанову — за 5.700 рублёў можна не толькі набыць кнігу, але і атрымаць яшчэ адну ў падарунак. У каталогу змешчаны і сапраўдны, рынкавы кошт кнігі, так што можна параўнаць, наколькі выгадней аформіць заказ. Праўда, колькасць кніг, якія можа набыць адзін чалавек, абмежаваная, — не болей чатырох. Пакупнік запаўняе картку-пагадненне і ўступае ў рады "Клуба аматараў кнігі". Разам з заказам ён атрымае імянную пластыкавую картку з датай уступлення ў клуб і нумарам. Ён будзе рэгулярна атрымліваць каталог навінак, з якога раз на квартал павінен набыць адно з выданняў. У залежнасці ад тэрміну знаходжання ў клубе распрацавана сістэма скідак, якая пачынае дзейнічаць праз год. Такім чынам чалавек атрымлівае магчымасць не толькі сабраць бібліятэку, але і адчуць сябе часткай вялікага калектыву аднадумцаў".

Заснавальнікам мінскага клуба з'яўляецца харкаўскі кніжны клуб, прапановы складаюцца з улікам запытаў расійскага і ўкраінскага рынку. Таму ў каталогах у асноўным кнігі расійскіх выдавецтваў. Яны ўбачылі свет не толькі ў Расіі, адрасы друкарань — і Украіна, і Беларусь, і нават ... Кітай. З далёкай краіны ідуць на наш рынак дзіцячыя кніжкі.

На пытанне, ці можа з'явіцца на старонках каталогаў клуба беларуская літаратура, Наталля Міхайлаўна адказвае: "У асобную папку збіраю лісты з запытамі на беларускую кнігу. Вывучаем запыт, каб дакладна ведаць, якія кнігі будуць добра разыходзіцца. Магчыма, змесцім рубрыку "Беларускія выдаўцы прапануюць чытачам".

* * *

Большасць віртуальных кніжных крам — прыватныя, а значыць падпарадкоўваюцца законам бізнесу: сродкі павінны хутка абарочвацца, тавар — карыстацца масавым попытам, яго сабекошт — быць адносна невысокім, што можа быць толькі пры вялікім накладзе. Таму на віртуальных вітрынах можна ўбачыць усе тыя найменні, пра якія мы расказвалі, аналізуючы кніжныя палічкі гіпермаркетаў. (А ў пагоні за прыбыткам усе сродкі ідуць у ход. Трапіўся ў агульным спісе сайт knigi-schastje.by, які заяўляе — купі гэтыя кнігі, і будзе табе шчасце.)

Віртуальныя беларускія кніжныя крамы SetBook, Kim.by, knigi.mot.by, oz.by, belkonsole.by, magaz.by і многія іншыя прапануюць прадукцыю расійскіх выдавецтваў. Рэдкай птушкай Сеціва з'яўляецца сайт knihanosha.miensk.com, які расказвае пра беларускія кнігі, але не гандлюе імі.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Фота Кастуся Дробава

## Вітрына

# Месца, якое аб'ядноўвае






Кніжная крама, што сёння працуе ў цэнтры горада Слонім, мае багатыя традыцыі. Як кажуць мясцовыя жыхары, у гэтым жа будынку кнігамі пачалі гандляваць адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны (да вайны тут прадаваліся тканіны). Спачатку кнігарня была дзяржаўнай, а 9 год таму стала прыватнай, і сёння ўваходзіць у прыватнае ўнітарнае прадпрыемства "Лукоморье Слоним".

Па словах дырэктара ПУП "Лукоморье Слоним" Таццяны Бутэнкі, у слонімскай кнігарні можна набыць кнігі ўсіх дзяржаўных выдавецтваў. "Асаблівай жа папулярнасцю ў наведвальнікаў, — распавядае Таццяна Пятроўна, — карыстаецца маляўнічы альбом "Слонім", які пабачыў свет у выдавецтве "Беларусь", яго добра купляюць як мясцовыя жыхары, так і госці. Паколькі ў нашым горадзе шмат архітэктурных помнікаў, гістарычных мясцін, то часта купляюць і турыстычны даведнік па Слоніме (выдавецтва "Рыфтур"). Аднак ёсць адна праблема, з якой сутыкаюцца турысты: няма асобна выдадзенай карты горада".

Па словах дырэктара, жанчын больш цікавіць літаратура па псіхалогіі, садоўніцтве, вырошчванні гародніны, кнігі пра каханне. У Слоніме купляюць і беларускую літаратуру — як класіку, так і творы сучасных аўтараў. Асаблівым попытам карыстаюцца кнігі мясцовых аўтараў: Аляксея Якімовіча, Сяргея Чыгрына, запатрабавана і краязнаўчая літаратура.

У плане акцый і рэкламы кнігарня, хоць і правінцыйная, не адстае ад сталічных. Не так даўно тут праводзілася прэзентацыя кніг Георгія Лысенка па псіхалогіі і здаровым ладзе жыцця. У планах — супрацоўніцтва з мясцовай газетай праз асвятленне новых кніжных паступленняў на старонках перыёдыкі. Усе навінкі ў кнігарні — на асобных вітрынах.

Як сцвярджае Таццяна Пятроўна, Слонім — горад маленькі, і тут пакупнік ідзе не столькі ў краму, колькі да пэўнага прадаўца. Ды і абслугоўванне ў краме добрае, тут і прадаўцы вопытныя, якія ведаюць сваю працу. А гэта ў дадзеным выпадку зусім няпроста, бо ў маленькай кнігарні, дзе няма асобных аддзелаў, прадавец павінен ведаць кнігі рознай тэматыкі, якія з іх прапанаваць маленькаму і даросламу чытачу. Больш таго, сюды часта наведваюцца навучэнцы і выкладчыкі Мінскай духоўнай семінарыі і акадэміі (што ў Жыровічах), людзі адукаваныя і патрабавальныя. Пастаяннымі пакупнікамі з'яўляюцца і жыхары Дзятлава, Зэльвы.

На думку Таццяны Пятроўны, у маленькіх гарадах кнігарня перастае выконваць асноўную функцыю продажу кніг і ператвараецца ў своеасаблівы культурны цэнтр, клуб. Бо асноўныя пакупнікі — пастаянныя. Ужо быццам усе свае, нават цэлыя пакаленні выраслі на вачах прадаўцоў.

Часам у краме здараюцца і нечаканыя сітуацыі. "Мы прывыклі на святы атрымліваць паштоўкі, — распавядае Таццяна Бутэнка. — І неяк перад 8 сакавіка папулярныя паштоўкі з віншаваннямі ў краме скончыліся. Хлопцы ж сёння не ўсе могуць прыгожа сказаць ці падпісаць паштоўку. Вось прадаўцы і пісалі для многіх пакупнікоў віншаванні на паштоўках. Часта з такімі просьбамі звяртаюцца пажылыя жыхары: і тэкст на паштоўцы падабраць, і падпісаць ад каго і каму віншаванне".

Але не ўсе эксперыменты аказваюцца ўдалымі. "Адзін час спрабавалі гандляваць аўдыёкнігамі, але паглядзелі, што і дорага атрымліваецца, і месца ў кнігарні таксама трэба больш, бо калі пачынаць нешта прадаваць, то адразу з вялікім асартыментам. Вось і атрымліваецца, што акцэнт у кнігарні — на дзіцячую і вучэбную літаратуру. Але гэта таксама добра, бо раней многім даводзілася за літаратурай ехаць у Баранавічы. А цяпер усе едуць да нас. У цэлым, пакупнікі ў нас усе добрыя", — з упэўненасцю сцвярджае Таццяна Бутэнка.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымках: кніжны магазін у Слоніме; Таццяна Бутэнка паказвае пакупніцы альбом "Слонім".

Фота аўтара

Прэзентацыя

# Гісторыка-мастацкі эксперымент

**У выдавецтве "Харвест" пабачыла свет кніга "Гісторыя беларускай музычнай культуры ад старажытнасці да канца XVIII ст.", аўтар якой — гісторык, рэстаўратар музычных інструментаў і лідар гурта сярэднявечнай музыкі "Стары Ольса" Зміцер Сасноўскі. У інтэрв'ю карэспандэнту "Кніжнага свету" Зміцер расказвае пра выданне і разважае пра асаблівасці развіцця і далейшыя перспектывы навуковага даследавання беларускай музычнай культуры.**



— Зміцер, ваша даследаванне выйшла ў серыі "Неизвестная история", якую заснаваў Анатоль Тарас. Чаму ён зацікавіўся гэтай кнігай?

— Справа ў тым, што на сённяшні дзень у Беларусі няма падручніка па гісторыі беларускай музыкі. Навукоўцы, выкладчыкі, якія працуюць у гэтай галіне, не наважыліся сабраць хаця б дапаможнік. Я не імкнуўся быць першым і вельмі чакаў выхаду якога-небудзь дапаможніка, бо ў сваёй працы вельмі хацелася б мець дапамогу ў выглядзе раней напісанай кнігі, і на яе падставе рухацца далей. Бо напрыклад, распрацаваць храналогію для гісторыі беларускай музыкі — сапраўдная праблема: перыяды гісторыі этнічнай часта не адпавядаюць гісторыі палітычнай, а гісторыя мастацтва ўвогуле мае сваю перыядызацыю. У той жа час разглядаць гісторыю мастацтва, не абапіраючыся на агульную храналогію падзелу эпох на старажытнасць, Сярэднявечча разам з Рэнесансам, Новы, Навейшы час, немагчыма. Трэба ўлічваць і гісторыю беларускай дзяржаўнасці. Усё разам сабраць было вельмі складана. Хачу адразу сказаць, што ў кнізе шмат недакладнасцей, шмат праблем класіфікацыі і аналізу фактаў гісторыі музыкі. Складана было вызначыцца: адзін і той жа факт прыгадваць у некалькіх раздзелах ці толькі там, дзе б ён лепш пасаваў. Я далёкі ад думкі, што гэта дасканалая праца, я яе расцэньваю як эксперымент у сферы абагулення гісторыка-мастацкага мыслення.

— Нягледзячы на тое, што ваша даследаванне — новае, перш за ўсё па сваёй комплекснасці і шырыні тэматычнага агляду, напэўна, кніга ўсё ж мае папярэднікаў?

— Сапраўды, я завочна працаваў з іншымі гісторыкамі музыкі — праз кнігі. Гэта Вольга Дадзіёмава, Іна Назіна, Вера Пракапцова, Міхась Чарняўскі, Надзея Касцюкавец і іншыя навукоўцы. "Гісторыя музычнага тэатра на Беларусі", выдадзеная Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, — геніяльнейшая кніжка. Але справа ў тым, што гэтыя даследаванні абмежаваныя тэматычна. У цэлым, сказаць, што я сам гэта рабіў — не скажаш, папярэднікі шмат.

— Па афармленні і манеры пісьма кніга адпавядае асноўным патрабаванням навуковасці. У той жа час яна пазначана як выданне навукова-папулярнае. Чаму так?

— Я шмат намагаўся прыкласці, каб гэта было навуковае выданне: без непацверджаных думак, неабгрунтаваных меркаванняў. Вельмі строга падышоў і да адбору крыніц: каб не было нацяжак, прыведзены толькі беларускія, хаця агульнасць музычнай культуры з Польшчай і Літвой заўважная. Але для таго, каб кніга стала навуковай, яна павінна прайсці шмат рэцэнзій, зацвярджэнняў, а гэта для прыватнай і асабістай працы, якая не падтрымлівалася навуковымі ўстановамі, немагчыма. Падтрымка навукоўцаў была вельмі моцная ў аспекце дапамогі ў зборы матэрыялу. Мне дазволілі працаваць амаль з усімі першабытнымі дудачкамі, флейтамі. Даследчык Андрэй Катлярчук, які зараз жыве ў Стакгольме, даслаў поўную версію гравюр Олафа Магнуса, прысвечаных Вялікаму Княству Літоўскаму, шведскі тэкст (з падрадковым перакладам) вельмі дапамог у працы. Хацелася б падзякаваць і гісторыку літаратуры, драматургу Сяргею Кавалёву, ён даслаў здымкі ўнікальнай фрэскі з капліцы Святой Тройцы з Люблінскага замка. Гэтыя фрэскі з выявамі многіх інструментаў зрабілі ў канцы XIV — пачатку XV ст. беларускія майстры.

— Вынікі навуковых даследаванняў выкарыстоўваюцца "на практыцы" — у музыцы гурта "Стары Ольса"?

— "Стары Ольса" — таксама даследаванне гісторыі, але даследаванне практычнае. Так супала, што якраз на гэтым этапе гурт ператварыўся хутчэй у навуковую лабараторыю. Усе ноты старадаўняй музыкі, напісаныя сучаснай нотнай транскрыпцыяй, — ужо кімсьці прачытаныя і адаптаваныя да выканання: вызначана танальнасць, тэмп, даўжыня нот (раней не заўсёды ставілася). Але мы зараз дайшлі да таго, каб браць копіі арыгінальных нотных аркушаў і перачытваць іх самастойна. Так, танец "Пагамошка" з "Полацкага сшытка" мы прачыталі ў мінорным ладзе, у той час як усе сучасныя выканаўцы барочнай музыкі выконваюць яго як мажорны. Акрамя гэтага нам трэба для танца і музыкі кожнай эпохі, стагоддзя абіраць адпаведны сярэднявечны лад. Але праблема ў тым, што мажорна-мінорнае мысленне сучаснага слухача не дазваляе адэкватна ўспрымаць музыку сярэднявечных ладоў. Таму мы не можам на тым узроўні, на якім ужо навучыліся, рабіць рэканструкцыю выканання старадаўняй музыкі: ёсць рызыка, што слухачы не зразумеюць. Таму іграем у сучаснай мажорна-мінорнай сістэме. Акрамя гэтага, крыху карыстаемся папулярнасцю: даследчыкі часам дзеляцца наноў адкрытым. Так, Аня Несцерава перадала з архіва ў Вроцлаве беларускі тэкст (больш цэльны ў параўнанні з польскім) вядомага гімна "Багародзіца".

— У гэтай кнізе вы выступілі не толькі як даследчык, але і як перакладчык: у дадатках да выдання — васьмімоўны даведнік беларускіх інструментаў і пераклад урыўка з кнігі Нікалауса Арнанкурта "Музыка як мова гукаў"…

— Шмат перакладчыцкай працы было звязана з даведнікам, з назвамі інструментаў на розных мовах. І я баюся, што ў ім нарабіў трошкі памылак, бо як і ў беларускай, так і ў іншых еўрапейскіх мовах існуе тэрміналагічная праблема назваў інструментаў. Таму адчуваю, што і ў маім даведніку ёсць хісткія моманты. Што да твора Нікалауса Арнанкурта, калі падчас стажыроўкі ў Вроцлаве я пачаў чытаць яго працу "Музыка як мова гукаў", жахнуўся, што ў нас няма перакладу гэтай кнігі. На рускай мове выйшла толькі праца "Мои современники Бах, Моцарт, Монтеверди". Але кніга "Музыка як мова гукаў" не выдавалася і па-руску. А ў ёй для любога музыкі, які захапляецца старажытнай музыкай, — унікальнейшая інфармацыя. Арнанкурт папрацаваў з усімі старымі інструментамі, якія толькі магчыма было патрымаць у руках у Еўропе і Амерыцы, апісаў этапы, якія ў сваім развіцці прайшла музыка паміж XIV і XVII стст. Ён, насуперак уяўленню пра старадаўнюю музыку як недакладную, сцвердзіў, што да музыкі ў тыя часы ставіліся вельмі дбайна. Арнанкурт упэўнены: мелодыя пэўнай эпохі павінна быць выканана адпаведна стылістыцы часу, а не так, як мы зараз хочам яе пачуць. У гэтай працы ён прывёў некалькі вельмі істотных думак, і я захацеў, каб і ў нас яны сталі вядомыя. Музыка для сярэднявечча была не тым, чым яна ёсць для нас, — не падрыхтоўкай музычнага твора і выкананнем яго на людзях, а формай публічнай імправізацыі. Музыка рыхтаваўся іграць тэхнічна, але толькі адпаведна сітуацыі, настрою, публіцы і свайму стану, ён ствараў мелодыю. Вось таму і прыкладаў сярэднявечнай музыкі захавалася мала — яе не запісвалі. Але ў перыяд сталага барока ўпершыню пачалі дакладна распісваць усе партыі. Так музыкаў ператваралі ў простых выканаўцаў чужой творчасці. Гартаючы старонкі копій "Полацкага сшытка", бачыш, што з чатырох галасоў апісаны толькі першы і чацвёрты, апошні. Два радкі паміж імі пустыя. Кампазітар Віктар Скорабагатаў і іншыя даследчыкі выказалі меркаванне, што "Полацкі сшытак" — падручнік па кампазіцыі: граюць верхні і ніжні галасы, два ж астатнія імправізуюць. Але мне здаецца, і я кіруюся ў гэтым меркаванні назіраннямі Арнанкурта, што "Полацкі сшытак" — якраз прадукт пераходнага часу ад Рэнесансу да барока.

— Напэўна, ужо маеце нейкія задумкі і планы па працягу даследчай працы ў гэтым кірунку?

— Зараз рыхтую да выдання кнігу "Гісторыя вайсковай музыкі Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай", якая пабачыць свет у выдавецтве "Кнігазбор". Праз год-два выйдзе працяг даследавання гісторыі беларускай музычнай культуры. Другая кніга будзе прысвечана музычнай культуры XIX і XX стагоддзяў. Па аб'ёме яна, хоць і ахоплівае толькі два стагоддзі, будзе большай, бо ў гэты час з'яўляецца шмат візуальных матэрыялаў, фотаздымкаў, якія можна выдаваць.

Гутарыла
Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: Зміцер Сасноўскі.

Фота Алега Белавусава

Хатняя бібліятэка

# Экслібрысы не маўчаць

Выданне, што пабачыла свет у Маскве ў 2009 годзе ў дзвюх кнігах, уяўляе вялікую цікавасць. Два аўтары яго — Віталь Бакуменка і Вячаслаў Мяркулаў — прадставілі на суд чытачоў плён сваіх не менш як трыццацігадовых пошукаў, што атрымаў, апрача гэтай, і іншую назву: "Образ жизни и творчество М. Ю. Лермонтова в книжных знаках". Тут змешчаны больш як 250 экслібрысаў, створаных мастакамі розных краін свету, дадзены кароткія біяграфічныя звесткі пра майстроў разца і пэндзля, а таксама тых, каму цяпер належаць гэтыя шэдэўры малой графікі, названы сотні публікацый на згаданую тэму, зроблена апісанне соцень іншых мініяцюр.

Падрабязна расказваецца пра гісторыю першых выданняў твораў апальнага паэта, а таксама стварэння першых кніжных знакаў, прысвечаных Міхаілу Лермантаву. Як ні дзіўна гэта гучыць, іх аўтарам з'яўляецца сам слынны паэт! Бо даследчыкі такога віду мастацтва, члены вядомага яшчэ з даваенных гадоў Ленінградскага таварыства экслібрысістаў узвялі яго ныя аўтографы ў ранг экслібрысаў. Тут жа паведамляецца пра іх незвычайны лёс.

Восенню 1949 года ў Ленінградскую лаўку пісьменнікаў завітаў хлопчык і прапанаваў набыць у яго зашмальцаваную кнігу. Паводле яго ных слоў, бабуля хлопчыка некалі была гувернанткай Лермантава і вучыла яго па гэтай кнізе, а потым пакінула яе сабе. Называецца яна "Зрелище Вселенныя, на Французскомъ, Россійскомъ и Немецкомъ языкахъ". Выдадзена ў Санкт-Пецярбургу ў 1793 годзе.

Апрача прыгаданай фразы, ёсць там і другая: "Изъ книгъ Лермонтова и Арсеньевой". У першым выпадку літара "п" у слове "принадлежит" была прапушчана і напісана зверху, а прозвішча пазначана лацініцай. У другім выпадку — кірыліцай, але з памылкай: праз літару "а". Прычым дададзена прозвішча бабулі Арсеньевай, якая выхавала яго.

У Пушкінскім Доме Расійскай акадэміі навук захоўваецца яшчэ адзін рарытэт — "Книга хвалений, или Псалтырь". У ёй рукой юнага Лермантава напісана: "Сія книга принадлежитъ". А побач намалявана птушка і дзве конскія галавы. Пад малюнкам напісана прозвішча будучага паэта на рускай, французскай і нямецкай мовах. Запіс датаваны 1824 годам.

Вядома ж, гэта можна называць першымі аўтаэкслібрысамі вялікага паэта.

Сярод соцень мастакоў Расіі блізкага і далёкага замежжа значная ўвага ў выдадзеным двухтомніку аўтарамі надаецца і беларускім майстрам, якія ўнеслі свой уклад у адлюстраванне жыцця і дзейнасці Міхаіла Лермантава сродкамі так званай малай графікі. Гэта — Ю. Баранаў (Віцебск), А. Вагіна і Г. Говар (Гомель), М. Велікanaў (Магілёў), Я. Ціхановіч (Мінск). Экслібрысы Алены Вагінай і Генадзя Говара, створаныя па просьбе аўтара гэтых нататак, змешчаны ў кнізе. Ёсць тут і цэлая сюіта з васьмі кніжных знакаў ураджэнца вёскі Калыбань Брагінскага раёна Васіля Лявоненкі, які цяпер жыве ў Чарнігаве. Менавіта гэты майстар разца некалькі гадоў таму прыгожа аформіў кнігу-альбом "Есениана в книжных знаках", выпушчаную адным з аўтараў гэтага выдання — Вячаславам Мяркулавым.

Кніга Віталя Бакуменкі і Вячаслава Мяркулава выклікае цікавасць не толькі прыхільнікаў творчасці Міхаіла Лермантава, выяўленчага мастацтва, экслібрысістаў, кнігалюбаў, а і ўсіх тых, хто любіць паэзію, вобразнае слова, неабыякава адносіцца да прыгожага пісьменства.

Пятро РАДЗЕЧКА

# Навінкі кнігавыдання

## Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам

### Будаўніцтва. Будаўнічыя матэрыялы. Будаўніча-мантажныя работы

Альбом паспортов проектов для повторного применения в строительстве / Министерство архитектуры и строительства Республики Беларусь, РУП «Минсктиппроект»; [составители: Л. М. Стаховская, О. Н. Барнева]. — Минск: Минсктиппроект, 2010–

Вып. 6: [в 2 т.], т. 1: Жилые здания. Общественные здания. — 2010. — V, 181 с. — 86 экз.

Вып. 6: [в 2 т.], т. 2: Предприятия, здания и сооружения промышленности. Сельскохозяйственные производственные комплексы, здания и сооружения. — 2010. — V, 291 с. — 76 экз.

Ивановская СПМК-7: мы делаем жизнь ярче!: 1975–2010 / [автор концепции и текста П. Н. Тишук; фото П. Н. Тишука, С. И. Горенца]. — Брест: Полиграфика, 2010. — 19 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-6970-05-7.

Интеллектуальные здания и сооружения. Тенденции и перспективы: материалы 1-й международной научно-практической конференции, Минск, 10 июня 2010 г. / [редколлегия: Е. Н. Савкова и др.]. — Минск: Редакция журнала «Архитектура и строительство», 2010. — 63 с. — 150 экз.

Квалификационные характеристики должностей служащих, тарифно-квалификационные характеристики профессий рабочих, занятых в строительстве / Министерство труда и социальной защиты Республики Беларусь. — Минск: НИИ труда, 2010. — 314 с. — 400 экз. — ISBN 978-985-6793-27-4 (в пер.).

Кобринский сельский строительный комбинат: «Работаем на совесть!»: 1965–2010 / [автор концепции и текста П. Н. Тишук; фото: П. Н. Тишук, И. Г. Воробьев]. — Брест: Полиграфика, 2010. — 19 с. — 370 экз.

Нормативно-технические документы по экономике строительства. Методические рекомендации по применению ресурсно-сметных норм на работы по ремонту оборудования и определению стоимости ремонта оборудования: утверждено и введено Министерством архитектуры и строительства Республики Беларусь 30.06.10. — Изд. официальное. — Минск: Минстройархитектуры Республики Беларусь, 2010. — 28 с. — 300 экз.

Нормативно-технические документы по экономике строительства. Ресурсно-сметные нормы на монтаж оборудования: утверждено Министерством архитектуры и строительства Республики Беларусь 30.06.10: введено 2010. — Изд. официальное. — Минск: Минстройархитектуры Республики Беларусь.

Сб. 13: Оборудование атомных электрических станций, кн. 1: РСН 8.03.213-2010: взамен сб. 13 «Оборудование атомных электрических станций». — 2010. — V, 497 с. — 100 экз.

Сб. 13: Оборудование атомных электрических станций, кн. 2: РСН 8.03.213-2010: взамен сб. 13 «Оборудование атомных электрических станций». — 2010. — V, 483 с. — 100 экз.

Нормативно-технические документы по экономике строительства. Ресурсно-сметные нормы на пусконаладочные работы: утверждено Министерством архитектуры и строительства Республики Беларусь 12.11.07: введено 01.01.08. — Изд. официальное. — Минск: Минстройархитектуры Республики Беларусь.

Сб. 6: Холодильные и компрессорные установки: РСН 8.03.406-2007: взамен «Ценника на пусконаладочные работы (ЦПНР-91) № 6 «Холодильные и компрессорные установки», утвержденного приказом Минстройархитектуры Республики Беларусь 09.01.98. — 2007 (2010). — IV, 48 с. — 100 экз.

Нормативно-технические документы по экономике строительства. Ресурсно-сметные нормы на работы по ремонту оборудования: утверждено Министерством архитектуры и строительства Республики Беларусь 30.06.10: введено 30.06.10. — Изд. официальное. — Минск: Минстройархитектуры Республики Беларусь.

Сб. 1: Оборудование для дробления, помола и сортировки материалов: взамен сб. 70 «Оборудование предприятий промышленности строительных материалов» (РСН 8.03.370-2008). — 2010. — III, 95 с. — 300 экз.

Сб. 2: Оборудование для дозирования и перемешивания материалов: взамен сб. 70 «Оборудование предприятий промышленности строительных материалов» (РСН 8.03.370-2008). — 2010. — II, 37 с. — 300 экз.

Сб. 3: Оборудование для обжига материалов, сушильное и холодильное оборудование: взамен сб. 70 «Оборудование предприятий промышленности строительных материалов» (РСН 8.03.370-2008). — 2010. — IV, 112 с. — 300 экз.

Сб. 4: Редукторы, транспортирующее, грузоподъемное и землеройное оборудование: взамен сб. 70 «Оборудование предприятий промышленности строительных материалов» (РСН 8.03.370-2008). — 2010. — III, 70 с. — 300 экз.

Сб. 5: Металлические конструкции, сварочные и резательные работы. — 2010. — III, 53 с. — 300 экз.

Сб. 6: Насосы, вентиляторы, дымососы, пылеулавливающие и обеспыливающие устройства: взамен сб. 70 «Оборудование предприятий промышленности строительных материалов» (РСН 8.03.370-2008). — 2010. — III, 40 с. — 300 экз.

Сб. 7: Технологические трубопроводы. — 2010. — II, 44 с. — 300 экз.

Сб. 8: Вспомогательное оборудование, оснастка, инструмент, такелажные, слесарные и погрузочно-разгрузочные работы: взамен сб. 70 «Оборудование предприятий промышленности строительных материалов» (РСН 8.03.370-2008). — 2010. — III, 58 с. — 300 экз.

Сб. 9: Стальные цилиндрические резервуары, автоклавы: взамен сб. 70 «Оборудование предприятий промышленности строительных материалов» (РСН 8.03.370-2008). — 2010. — III, 44 с. — 300 экз.

Сб. 10: Оборудование для производства извести и строительных материалов на базе извести, строительной керамики: взамен сб. 70 «Оборудование предприятий промышленности строительных материалов» (РСН 8.03.370-2008). — 2010. — III, 35 с. — 300 экз.

Сб. 11: Внутренние санитарно-технические устройства. — 2010. — III, 22 с. — 300 экз.

Сб. 12: Тепловая изоляция и антикоррозионные покрытия. — 2010. — IV, 65 с. — 300 экз.

Сб. 13: Компрессорное оборудование. — 2010. — VI, 134 с. — 300 экз.

Сб. 14: Тепловое оборудование. — 2010. — III, 72 с. — 300 экз.

Нормативно-технические документы по экономике строительства. Ресурсно-сметные нормы на ремонтно-строительные работы: утверждено Министерством архитектуры и строительства Республики Беларусь 12.11.07: введено 01.01.08. — Изд. официальное. — Минск: Минстройархитектуры Республики Беларусь.

Сб. 65: Внутренние санитарно-технические работы: РСН 8.03.365-2007: взамен сб. 65 «Внутренние санитарно-технические работы» (СНБ 8.03.365-02). — 2007 (2010). — V, 257 с. — 200 экз.

Сб. 69: Прочие ремонтно-строительные работы: РСН 8.03.369-2007: взамен сб. 69 «Прочие ремонтно-строительные работы» (СНБ 8.03.369-02). — 3-е изд. — 2010. — IV, 120 с. — 200 экз.

Нормативно-технические документы по экономике строительства. Ресурсно-сметные нормы на строительные конструкции и работы: утверждено Министерством архитектуры и строительства Республики Беларусь 12.11.07: введено 01.01.08. — Изд. официальное. — Минск: Минстройархитектуры Республики Беларусь.

Сб. 7: Бетонные и железобетонные конструкции сборные: РСН 8.03.107-2007: взамен сб. 7 «Бетонные и железобетонные конструкции сборные» (СНБ 8.03.107-2000). — 2007 (2010). — VI, 655 с. — 200 экз.

Сб. 11: Полы: РСН 8.03.111-2007: взамен сб. 11 «Полы» (СНБ 8.03.111-2000). — 4-е изд. — 2010. — V, 154 с. — 200 экз.

Сб. 12: Кровли: РСН 8.03.112-2007: взамен сб. 12 «Кровли» (СНБ 8.03.112-2000). — 4-е изд. — 2010. — IV, 118 с. — 200 экз.

Сб. 17: Водопровод и канализация: РСН 8.03.117-2007: взамен сб. 17 «Водопровод и канализация» (СНБ 8.03.117-2000). — 2007 (2010). — III, 74 с. — 200 экз.

Нормативно-технические документы по экономике строительства. Ресурсно-сметные нормы на строительные конструкции и работы. Каталог-кодификатор типовых сборных бетонных и железобетонных конструкций и изделий: утверждено Министерством архитектуры и строительства Республики Беларусь 30.06.10. — Изд. официальное. — Минск: Минстройархитектуры Республики Беларусь.

Вып. 3: РСН 8.06.108-2009: введено 2010 г. — 2010. — VI, 519 с. — 300 экз.

Нормативно-технические документы по экономике строительства. Сборник цен на оборудование, производимое предприятиями Республики Беларусь: утверждено Министерством архитектуры и строительства Республики Беларусь. — Изд. официальное. — Минск: Минстройархитектуры Республики Беларусь.

Ч. 4: РСН 8.06.107-2010 : утверждено 30.06.10. — 2010. — III, 67 с. — 500 экз.

ОАО «Лавсанстрой». — Минск: Минсктиппроект, 2010. — 48 с. — 500 экз.

Обобщенные результаты деятельности органов государственной экспертизы градостроительных, архитектурных и строительных проектов, обоснований инвестирования в строительство за 2009 год и I полугодие 2010 года / Государственный комитет по стандартизации Республики Беларусь, Республиканское унитарное предприятие «Главгосстройэкспертиза»; [подготовили: А. Г. Солнцев и др.; приложения составили: Д. Ф. Шайков, М. Б. Комарова]. — Минск, 2010. — 86 с. — 99 экз.

Организация оплаты и стимулирования труда в строительстве: нормативные правовые акты и иные документы / Министерство архитектуры и строительства Республики Беларусь, Инженерное республиканское унитарное предприятие «Белстройцентр»; [составители: И. Н. Бахтина, А. Я. Халецкий]. — Минск: ИВЦ Минфина, 2010. — 285 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6921-81-3.

Республиканский перечень проектов для повторного применения в строительстве / Министерство архитектуры и строительства Республики Беларусь, РУП «Минсктиппроект»; [составители: Л. М. Стаховская, О. Н. Барнева]. — Минск: Минсктиппроект, 2010–

Вып. 6: Жилые здания. Общественные здания. Предприятия, здания и сооружения промышленности. Сельскохозяйственные производственные комплексы, здания и сооружения. — 2010. — IV, 45 с. — 85 экз.

Сафроненко, В. М. Дом, коттедж, дача: полный справочник по строительству, благоустройству и ремонту / Виктор Сафроненко. — Минск: Книжный Дом, 2010. — 542 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-17-0039-0 (в пер.).

Сборник индексов изменения стоимости ремонтно-строительных работ и информации об отпускных ценах на материалы и изделия / Министерство архитектуры и строительства Республики Беларусь, Республиканское унитарное предприятие «Республиканский научно-технический центр по ценообразованию в строительстве». — Минск: РНТЦ, 2010–

Вып. 7: Июль. — 2010. — 251 с. — 1324 экз.

Сборник индексов изменения стоимости, цен и тарифов в строительстве по регионам и в среднем по Республике Беларусь / Министерство архитектуры и строительства Республики Беларусь, Республиканское унитарное предприятие «Республиканский научно-технический центр по ценообразованию в строительстве». — Минск: РНТЦ, 2010–

Вып. 7: Июль, кн. 1. — 2010. — 505 с. — 2173 экз.

Вып. 7: Июль, кн. 1 (приложение). — 2010. — 135 с.

Вып. 7: Июль, кн. 2. — 2010. — 305 с. — 2184 экз.

### Ацяпленне, вентыляцыя і кандыцыяніраванне паветра ў будынках і збудаваннях

Правила пользования тепловой энергией: [утверждено Министерством экономики Республики Беларусь 19.01.06: вступили в силу с 06.03.06]. — 2-е изд. — Минск: Энергопресс, 2010. — 37 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6861-26-3.

Правила технической эксплуатации теплоиспользующих установок и тепловых сетей потребителей. Правила техники безопасности при эксплуатации теплоиспользующих установок и тепловых сетей потребителей: [утверждено Министерством энергетики Республики Беларусь 11.08.03]. — 8-е изд. — Минск: Диэкос, 2010. — 184 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6743-59-0.

### Мерапрыемствы па абароне будынкаў. Супрацьаварыйныя мерапрыемствы. Меры перасцярогі

Черноиван, В. Н. Теплоизоляционные, кровельные и отделочные работы: конспект лекций по дисциплине «Технология строительного производства» для студентов специальностей 1-70 02 01 «Промышленное и гражданское строительство»; 1-70 02 02 «Экспертиза и управление недвижимостью» по направлению 1-27 01 01-17 «Экономика и организация производства (строительство)» / В. Н. Черноиван, С. Н. Леонович; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет, Кафедра «Технологии строительного производства». — Минск: БНТУ, 2010. — 225 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-525-376-2.

### МАСТАЦТВА. ЗАБАВЫ. ВІДОВІШЧЫ. СПОРТ
### Агульныя пытанні мастацтва

Конан, У. М. Гісторыя эстэтычнай думкі Беларусі: у 3 т. / Уладзімір Конан; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут філасофіі. — Мінск: Беларуская навука, 2010. — ISBN 978-985-08-1157-8 (у пер.).

Т. 1: X ст. – 1905 г. — 2010. — 438 с. — 600 экз. — ISBN 978-985-08-1158-5.

Дизайн и основы композиции в дизайнерском творчестве и фотографии / [автор-составитель Адамчик Мирослав Вячеславович]. — Минск: Харвест, 2009. — 191 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-7195-9 (в пер.).

500 шедевров мирового искусства / [автор-составитель Мирослав Вячеславович Адамчик]. — Минск: Харвест, 2010. — 220 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-8447-8 (в пер.).

### Архітэктура

Архитектурное наследие Прибужского региона. Сохранение и культурно-туристское использование: II Международная научно-практическая конференция, 29–30 апреля 2010 г.: сборник докладов / [под редакцией Власюка Н. Н.]. — Брест: БрГТУ, 2010. — 175 с. — Часть текста на белорусском и польском языках. — 100 экз. — ISBN 978-985-493-164-7.

Баня: полная энциклопедия / [автор-составитель Надеждина Вера]. — Минск:

## Дождж з абаранкаў у краіне казак




Беларускія народныя казкі: Расказваў неяк Міхалка з Данеяк. — Мінск: Народная асвета, 2010.

Над назвай "Беларускія народныя казкі" месціцца надпіс, які адразу выклікае ўсмешку, — "Расказваў неяк Міхалка з Данеяк". Калі бачыш тытульны ліст, усё робіцца зразумела: зборнік казак выдадзены ў літаратурнай апрацоўцы Анатоля Клышкі, з лёгкай рукі якога з літарамі пазнаёміліся тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак. А малюнкі да дасціпных і павучальных народных казак зрабіў Уладзімір Пашчасцеў, які таксама шмат гадоў супрацоўнічае з дзіцячымі выданнямі.

У зборнік увайшлі казкі і пра жывёл ("Зайчык", "Сабачыя паперы", "Воўк-калядоўшчык"), і пра людзей ("Два браты", "Багацей і парабак", "Трывалы Васілька", "Выкрутлівы Якуб"). З трапным гумарам расказваюць казкі, як адвучыў бацька сына ад дрэннай звычкі ("Крадзенае не ідзе на карысць"), слуга прымусіў застацца галодным ганарлівага пана ("Як пан па-нямецку гаварыў"), жанчыны ў вёсцы кінулі пляткарыць ("Чаму пляткаркі ў хустках ходзяць?"), а шчасце прыходзіць да таго, хто ад яго не адмаўляецца ("Расказваў неяк Міхалка з Данеяк").

Сустрэнуцца на казачных старонках чытачы з магутным князем Усяславам Чарадзеем і кемлівым палясоўшчыкам, загадкі якога князь так і не здолеў сам адгадаць, пабываюць пад абаранкавым дажджом і паслухаюць песеньку без канца і Міхалкаву небылічку, як той з дзедам пакутаваў, калі "бацькі яшчэ не было, не нарадзіўся". Даведаюцца і пра тое, як Бог чалавеку, сабаку, каню ды малпе век размяркоўваў і што з гэтага атрымалася.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

# Помста, або Галубы паміраюць у палёце

## Урывак з аповесці

“ЛіМ” ужо расказваў на сваіх старонках пра Анатоля Фёдаравіча Майко. Беларус, нарадзіўся ва Украіне. Доўгія гады працы прысвяціў журналістыцы. Аўтар некалькіх кніг публіцыстыкі. За творчую працу адзначаны ордэнам “Знак пашаны”. А ваенныя гады Анатоль (нараджэннем ён з 1932 года) правёў у Беларусі, на радзіме сваіх бацькоў — на Пухавіччыне. Разам з маці і малодшым братам жыў у партызанскім лагеры, неаднойчы трапляў у няпростыя сітуацыі, калі жыццё было на мяжы са смерцю. І той ваенны час не дае спакою і сёння. Пра гэта Анатоль Фёдаравіч піша і ў новай аповесці, урывак з якой мы і прапануем чытачам “ЛіМа”. А поўнасцю твор будзе надрукаваны ў бліжэйшых нумарах часопіса “Маладосць”.

Кастусь ЛЕШНІЦА



Анатоль МАЙКО

Гэты дзень выдаўся такі светлы, сонечны. Над велізарнай сенажаццю, куды прыйшоў Янка з пярнатымі сябрамі і Шарыкам — ні аблачыны. Неба чыстае-чыстае, высокае-высокае. Здавалася, вабіць сваёй бяздоннай вышынёй, кліча ў свае блакітныя глыбіні.

Але чаму не ўзлятаюць увысь галубы? Чаму не адгукаюцца на нябесны кліч? Збіліся ў кучу, натапырыліся, надзьмуліся, быццам раззлаваліся на кагосьці ці на штосьці. Але на каго? На што? А, можа, гэтыя нябесныя стварэнні атрымалі нейкі сігнал зверху? Дый Шарык неяк абвяў, зацых, прыціснуўся да нагі хлопчыка. Пачулі бяду?

Так, бяду…

Аднекуль з велізарнай вышыні пачуўся шум. Ён паступова ўзмацняўся, станавіўся рэзкім, набліжаўся. Янка спрабаваў хоць штосьці разгледзець у сляпучай вышыні. Хіба што вось гэтыя дзве маленькія цёмныя кропачкі? Але кропачкі на вачах ператвараліся ўжо ў крыжыкі, павялічваліся…

Самалёты! Падобна, што яны быццам гарэзавалі — каменем падалі ўніз, гэтак жа нечакана ўздымаліся ўгару, куляліся, збліжаліся, рэзка разляталіся ў бакі..

Да гуду матораў цяпер далучыліся кулямётныя чэргі, нібы ў небе рассыпаўся гарох. І ўспышкі…

Цяпер ужо хлопчык разгледзеў, што самалёты рознага колеру — адзін зялёненькі, меншы, другі большы і ўвесь чорны-чорны…

Хутчэй, лягчэй кружыўся, спрытней налятаў і выкручваўся зялёненькі. Ужо было зразумела — ён не дае чорнаму падняцца над сабой, усё больш і больш прыціскае яго да зямлі. А тое ледзь чутнае стракатанне перарасло ўжо ў бесперапыннае вуркатанне. І доўгія агністыя палоскі ляцелі насустрач адна адной.

Гульня, як толькі што здалося Янку, скончылася нечакана…

Адзін з самалётаў нібы выдыхнуў з сябе велізарны язык полымя, неяк дзіўна закачаўся і пачаў валіцца, пераварочваючыся, у бок далёкага лесу, пакідаючы за сабой чорны след дыму. Усё ніжэй і ніжэй. Цяпер добра сталі бачны незнаёмы белыя крыжы на яго крылах…

Выбух!

— Фашыст? Так табе і трэба!

А той маленькі, зялёненькі раптам зрабіў круг над паляной і вітальна пакалыхаў сваімі крыламі, на якіх бліснулі чырвоныя зоркі. Такія ж, як на тым камандзірскім плакаце.

І Янка, яшчэ не ўсвядоміўшы, якой цяпер падвяргаўся небяспецы, амаль такім жа камандзірскім голасам ва ўсю сілу сваіх лёгкіх закрычаў “Ура!”, радасна падскокваючы, падкідаючы ўгару сваю шапачку. І Шарык — сапраўдны сябар — звонка забрахаў, таксама заскакаў, імкнучыся, у што б там ні стала, лізнуць у нос свайго гаспадара. Адразу павесялелі і залапаталі штосьці па-свойму галубы, выпростваючы белыя крылы. Як перад палётам.

Але гэта свята было нядоўгім…

Наш лётчык заходзіў на другі круг, калі неяк нечакана ў небе з'явіліся яшчэ тры чорныя кропкі. Усё бліжэй-бліжэй, і ўжо бачны белыя крыжы. Немцы!

Трое супраць аднаго? Хлапечае сэрца сціснулася, замерла: што ж будзе?

Зялёная чырваназоркая птушка не спалохалася, не кінулася наўцёкі. Яна рванулася насустрач чорным крумкачам. Рванулася ганарліва і адважна, упіваючыся сваімі агністымі стрэламі ў фашыстаў.

Раптам успыхнуў, як касцёр, адзін з іх. Нязграбна куляючыся, стаў валіцца. Потым дзесьці за лесам зноў загрымела. Здавалася, што вось-вось за ім праваліцца туды ж яшчэ адзін…

Янка не быў хрышчоны, у хаце камуніста-атэіста не было іконаў. Але цяпер ён шчыра маліўся небу, прасіў яго дапамагчы чырваназоркай птушцы. Бо яна — наша. І неба наша …

А ў небе пачало дзеецца штосьці зусім незразумелае для хлопчыка.

Самалёты, як і раней, вытваралі мудрагелістыя фігуры, збліжаліся і разляталіся, але кулямётныя чэргі чутныя былі толькі ад чорных. І відаць было, як кулі, што свяціліся, упіваліся ў зялёны. А ён не адказваў. Толькі кідаўся то ўгару, то ўбок…

Але кольца вакол яго звужалася, усё гучней, ужо бесперапынку, стукалі кулямёты фашыстаў. І…

Над нашым самалётам узвіўся дымок, затым успыхнула полымя і ён, як падстрэлены подлым паляўнічым птах, пачаў ціха зніжацца.

Фашысты, ужо не баючыся адплаты, наблізіліся, працягваючы ва ўпор расстрэльваць безабаронную параненую машыну. Відаць, цешыліся сваёй перамогай.

Рана цешыліся…

І здарыўся цуд — падаючая, смяротна параненая зялёная птушка, нібы на сваім апошнім уздыху, замарудзіла падзенне, ірванулася ў бок свайго ворага і дужай дзюбай намёртва ўпілася ў чорнага крумкача, раскалоўшы яго напалам, пацягнула за сабой. Уніз, да зямлі…

Вось так упершыню Янка ўсвядоміў: вайна — гэта і смерць…

Ён заплакаў. Як не плакаў, зваліўшыся з гнядой кабылы, нават падчас чарговай “вайны”, калі “белыя” кінулі яго ў густую крапіву….

Прайшоў тыдзень. Бацька не вяртаўся, як і яго таварышы. Хлопчык разумеў: усе яны там, адкуль далятаў гул выбухаў. Па ўсім было відаць, што яны яшчэ затрымаюцца... Праўда, у вёску ўвайшлі чырвонаармейцы. І адразу стала весялей. У хаце — таксама.

У іх пасяліўся камандзір. Клікалі яго “таварыш капітан” і “дзядзька Аляксей”. Ён спадабаўся Янку тым, што нагадваў бацьку, прынёс у хату ўсмешку, што хоць трохі развесяліў маму, пераконваючы яе: абавязкова ўсе мужчыны вернуцца, хоць і не так хутка, як хацелася. Запрашаў пасля вайны прыехаць да яго ў Ленінград, дзе ў яго дзве дачушкі. Паказваў іх здымак — прыгожанькія, беленькія. Але на адзін твар. Дзе Маша і дзе Даша — хлопчык не мог адрозніць. Цікава, як жа адрознівае іх сам дзядзька Аляксей?

Яшчэ таварыш капітан умеў рабіць “змея”. Ды яшчэ якога! Калі ён упершыню яго запусціў, у Янкі дух перахапіла — так лёгка ўзляцела папяровая птушка, гэтак высока. Усё вышэй, вышэй! А вось Янка не ўтрымаў, выпусціў вяровачку. “Змей” паляцеў у бок сонца і неўзабаве знік. Нейкі час яго суправаджалі галубы, але неўзабаве вярнуліся назад. Дзядзька Аляксей паабяцаў зрабіць яшчэ большага.

Хлопчык чакаў і не мог дачакацца таго шчаслівага імгнення. Але капітан цяпер прыходзіў толькі ўначы. А раніцай яго ўжо не было. За сенажаццю, куды ён сыходзіў, чуліся крыкі “ ўра!” — байцы рыхтаваліся да баёў. Але гэта былі ўжо не такія дзядзькі, якія пайшлі разам з татам, а зусім маладзенькія хлопцы. Быццам дзесяцікласнікі.

Аднойчы капітан узяў, з дазволу мамы, Янку з сабой.

Ён упершыню ўбачыў, як абкопваюцца, а потым ідуць у наступленне маладыя байцы, як акружаюць “саперніка”, як трэба аддаваць чэсць камандзіру, як выконваць яго каманды. А потым было самае цікавае — разбіралі і збіралі затворы, вымалі, чысцілі і зноў устаўлялі іх у вінтоўкі. Капітан патрабаваў рабіць гэта па некалькі разоў і ўвесь час паўтараў: “Без затвора вінтоўка — палка. А з палкай ты ўжо не баец, а нябожчык”. Янку здавалася, што ўжо і ён мог бы з гэтым справіцца. Але хіба яму дазволяць?

І тут дзядзька Аляксей, быццам прачытаўшы на адлегласці ягоныя думкі, паклікаў:

— Ідзі сюды! Хочаш паспрабаваць?

Янка, як зачараваны, узяў моцна ручку затвора, зрушыў яе, як гэта рабілі байцы, пацягнуў на сябе. Але… затвор не слухаўся, не даставаўся.

— А што яшчэ для гэтага трэба зрабіць? Націснуць на курок! Але націснуць трэба мякка, далікатна. — З усмешкай дадаў. — Хоць табе гэта ніколі не спатрэбіцца.

Янка мякка націснуў на курок і затвор лёгка выскачыў сам з вінтоўкі. У тую хвіліну ён нават не падазраваў, які капітан памыляецца адносна “не спатрэбіцца”…

Дзядзька Аляксей стрымаў слова. Неяк ён вярнуўся раней звычайнага, папрасіў Янку паказаць камору, дзе ляжаць гаспадарчыя прылады бацькі. Узрадаваўся, здзівіўся, убачыўшы, колькі там усяго — сякеры і сякеркі, малаткі, самыя разнастайныя адвёрткі, долаты. Але больш за ўсё было нажоў — цэлая калекцыя, рознай даўжыні і формы. Вось з іх усё і пачалося…

Капітан хутка разразаў дошчачкі на тонкія планачкі, спрытна падганяў іх адну да другой, перавязваў тонкім шпагатам, умацоўваў цвічкамі. І кожны раз, што б ні рабіў, прасіў Янку дапамагчы яму. Як ганарыўся хлопчык гэтай сваёй роляй, асабліва тым, што з ім размаўлялі, раіліся як з роўным. А не з нейкім там малым дзіцянём.

Работа спорылася. З асобных планак і палосак складалася вялікая рама памерам з акно. Заставалася толькі знайсці да яе надзейную доўгую вяровачку, каб запусціць высока-высока і каб утрымаць потым. І тут выручыла мама. Яна дзесьці хадзіла, штосьці шукала, перабірала… І ўсё-ткі знайшла тое, што было трэба — доўгая, белая, тоненькая, але трывалая, як струна. Ёсць!

Не, дзядзьку Аляксея яшчэ штосьці не задавальняла.

— Вось бы сюды яшчэ і штосьці кідкае, яркае прымацаваць. Каб было відаць з любой вышыні…

І зноў выручыла мама.

— Дык у нас жа ёсць велізарны плакат. Яго камандзір падарыў, калі выпраўлялі ў войска нашых мужчын…

Яшчэ не даслухаўшы маму, Янка бягом кінуўся ў хату і праз хвіліну вынес велізарны глянцавы скрутак.

Дзядзька Аляксей узрадаваўся:

— Тое, што трэба.

І зноў яны майстравалі, прымервалі, прыкладвалі, замацоўвалі. Нават не заўважылі, як наступіла змярканне.

Дамовіліся адкласці запуск на заўтра. Раніцай! Пры узыходзе сонца!

Гэтай дамоўленасці не наканавана было спраўдзіцца…

Янка прачнуўся ад нейкага шуму ў хаце. Яшчэ не ўзышло сонца. Але ў прыцемку ён разгледзеў маму і капітана. Той быў апрануты як у паход — на адным плячы скручаны кольцам шынель, на другім — аўтамат. Ён схіліўся над Янкам:

— Бывай, мужык! Беражы маму. А мы… Мы яшчэ сустрэнемся!

Яны сапраўды сустрэнуцца. Але пры акалічнасцях вельмі сумных, трагічных.

Раніцай часць пайшла. А апоўдні дзесьці далёка за мястэчкам загуло, загрымела, задымілася. Потым бліжэй і бліжэй…

Янка, употай ад мамы, узлез на страху хлява. Адтуль — рукою дастаць: добра было відаць і само мястэчка, і рака, і мост. Там усё кіпела…

Па ім да мястэчка і далей на захад хуткім крокам ішлі стройныя калоны. Нават няўзброеным вокам быў бачны зялёны колер формы чырвонаармейцаў. За імі каціліся ў конных запрэжках невялікія гарматкі. Іх абганялі машыны, у якіх сядзелі байцы з вінтоўкамі і бліскучымі на сонцы штыкамі.

Радасна станавілася на душы ў хлопчыка: “Вось мы вам зараз пакажам, мы вам задамо. І вось гэтымі штыкамі і вось гэтымі гарматкамі”. Тут жа дзесьці мог ісці і дзядзька Аляксей са сваімі байцамі. Недарэмна, атрымліваецца, ён вучыў іх, як трэба наступаць на праціўніка, як трапна страляць у яго, як ісці ўрукапашную і калоць штыком. Недарэмна шмат разоў патрабаваў адкрываць і закрываць затвор, разбіраць і збіраць яго, каб надзейна падаваў патрон у ствол, каб ён не падвёў байцоў у цяжкую хвіліну. Вось цяпер яны пакажуць, на што здатныя. Дзядзькавы ж ранішнія перасцярогі і гульні неяк забыліся…

Неўзабаве і сапраўды там, куды прайшлі калоны чырвонаармейцаў, страляніна ўзмацнілася. Хлопчыку здалося нават, што ён чуе такое знаёмае яму “ўра!” Потым усё гэта пачало аддаляцца, быццам сціхаць. Але нядоўгай была гэтая ўяўная цішыня. У яе ўварваліся новыя, ражучыя гукі.

Самалёты! Іх ужо бачыў Янка тады, падчас паветранага бою, — чорныя, нямецкія. Зрабіўшы круг над мястэчкам, яны паляцелі туды, адкуль зусім нядаўна даносіліся гукі бою. Зараз там пачуліся глухія выбухі. Адразу ж пасля іх узмацнілася і страляніна. Нават не дасведчанаму ў ваенных справах падлетку стала зразумела, што яна набліжаецца да мястэчка... набліжаецца да моста!

І тут пачалося штосьці незразумелае для Янкі.

Зноў ажыў мост, зноў на ім з'явіліся людзі ў зялёным. Але цяпер ужо не роўным крокам, не ў паходных калонах, калі яны рухаліся на захад. А ўрассыпную, перабежкамі, імкнучыся як мага хутчэй дасягнуць усходняга берага ракі, дзе пачынаўся лес, дзе, як бачыў сам падлетак, яшчэ нядаўна пад камандай дзядзькі Аляксея капалі акопы яго байцы.

Добра было відаць, што зараз іх менш, значна менш і ўжо з імі няма гарматак на конных запрэжках, няма і машын.

Нечакана на мосце з'явіўся танк з белым крыжам на вежы, а за ім, як за шчытом, прыхіліўшыся, людзі ва ўсім шэрым.

Немцы? Немцы…

Чырвонаармейцы, якія паспелі перабегчы мост, адкрылі агонь з вінтовак, але іх кулі не бралі танкавую браню.

У гэтае імгненне хлопчык успомніў мудрае прадказанне дзядзькі Аляксея. Ён ужо дакладна ведаў, што менавіта адбудзецца цяпер…

Толькі танк і тыя, хто хаваецца за ім, выйдуць на самую сярэдзіну моста, як нечакана для іх раптам бабахне, загрукоча, усё ўзляціць да чорта ўгару, а потым кавалкамі і абломкамі пойдзе да дна ракі. І мост. І танк. І немцы.

Янка нават заціснуў вушы далонямі, зажмурыўся на імгненне…

І бабахнула. І грукнула…

Янка расплюшчыў вочы: не можа быць! Мост стаяў цалюткі. А грукат вылятаў з жарала танкавай гарматы…

З рускай пераклаў
Арцём Сафроненка

**У Вілейцы адбыўся першы рэгіянальны свята-конкурс аматарскага краязнаўчага фільма “Гэта мой край”. Праектная ініцыятыва “Мой край” атрымала фінансавую падтрымку ў межах праекта Еўрапейскага Саюза і Праграмы развіцця ААН “Устойлівае развіццё на мясцовым узроўні”.**



# Пад гоман хваляў Віліі

Пра Вілейку згадвае ў кнізе “Вілія і яе берагі”, выдадзенай ў Дрэздэне ў 1971 годзе, даследчык-этнограф Канстанцін Тышкевіч, які здзейсніў падарожжа ад вёскі Камена да Коўна і склаў падрабязнае апісанне прыбярэжных мясцін, помнікаў архітэктуры — замкаў, цэркваў, касцёлаў. Граф Тышкевіч наведаў 295 населеных пунктаў, а ў Вілейцы затрымаўся на некалькі дзён. У кнізе ёсць звесткі пра этнаграфію і фальклор насельнікаў гэтых мясцін, гісторыю гандлю і рыбалоўства на Віліі. Гарадскі помнік з чароўнай наядай на камені прысвечаны той вандроўцы. І вось у гэтым гасцінным горадзе — свята аматарскага краязнаўчага кіно...

Разасланае аддзелам культуры Вілейскага гарвыканкама палажэнне пра конкурс закранула кінааматараў з усіх куточкаў Беларусі. Удзельнікамі яго сталі жыхары Полацка, Маладзечна, Нясвіжа, Глыбокага, Талачына, Слоніма, Старых Дарог… Аўтары стужак з дапамогай кіно сцвярджалі: родны горад з’яўляецца “лепшым горадам на зямлі”. (Пра гэта сведчаць і назвы фільмаў: “Горад, у якім хочацца жыць”, “Старадарожчына — радзіма мілая мая”, “Гэта мой край”, “Гэта мой горад”.) На конкурс было прадстаўлена 13 стужак,




якія расказвалі пра самае адметнае ў жыцці родных мясцін: “Горкая памяць вайны”, “Час і людзі”, “Навігатар” і інш. Для заключнага этапу арганізатары конкурсу адабралі 10 з іх.

У журы ўвайшлі Людміла Перагудава, галоўны рэдактар часопіса “На экранах”, Наталля Радзевіч, старшыня Вілейскага раённага Савета дэпутатаў, Барыс Цітовіч, навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея, Сяргей Паўлоўскі, начальнік аддзела культуры Вілейскага райвыканкама, Таццяна Захарыч, дырэктар мясцовага Цэнтра эстэтычнага выхавання, Мікалай Іваненка, намеснік дырэктара гарадской гімназіі № 2. Узначаліла журы Галіна Шынкар — вядучы спецыяліст аддзела маркетынгу, рэалізацыі і рэкламы рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства “Белвідэацэнтр”.

Аналізуе праграму Людміла Перагудава: “Некалькі стужак, на маю думку, у праграму трапіла выпадкова — заказныя, юбілейныя. Астатнія — трошкі наіўныя, але кранальныя да глыбіні душы. Што можа быць больш высакародным, як рабіць кіно пра родны край па закліку сэрца? Недахоп прафесіяналізму ўдала кампенсуецца шчырай любоўю да роднага краю, прычым без дэкларатыўнасці.

Нягледзячы на тое, што арганізатары сціпла называюць сваю ініцыятыву “свята-конкурс”, можна казаць пра нараджэнне новага рэгіянальнага фестывалю, які грунтуецца на краязнаўчым інтарэсе. Ніша пакуль нікім не занятая, і я бачу сур’ёзныя перспектывы гэтага пачынання. І калі да фестывалю далучацца прафесійныя рэжысёры, дык галоўнае, што ёсць у аматарскім кіно, — незаштампаванасць, блізкасць да таго прадмета, пра які ідзе гаворка, — створыць базу для далейшага прафесійнага росту ўдзельнікаў. І сёння ў аматарскім кіно ёсць цікавыя знаходкі. Напрыклад, запомніўся фільм, зняты школьнай настаўніцай: новы жанр “фільм-урок”.

Першы прыз атрымаў фільм пра Вілейку. І зусім не таму, што гэты горад стаў гаспадаром свята. Фільм “Горад на Віліі” — добрае летапіснае і цёплае кіно пра родны край, адметны сваім хараством і багатай на падзеі гісторыяй”.

Аўтары стужкі-пераможцы Міхаіл Пятух — кіраўнік турыстычнага клуба “Чарапашкі”, Уладзімір Цанунін — настаўнік гісторыі, аўтар паэмы, якая гучыць у фільме, і вучань гімназіі № 2 Дзяніс Канецкі — людзі, якія добра ведаюць гісторыю роднага горада.

Дыплом другой ступені атрымаў фільм Кірылы Сухаржэўскага з Полацкага раёна “Адзін лёс”, трэцяй — “Горад, у якім хочацца жыць” Дзмітрыя Іўчанкі з Талачынскага раёна.

Пакладзены пачатак сапраўднага фестывалю аматарскага краязнаўчага кіно. Спадзяёмся, што яму наканавана шырокае прызнанне і доўгае жыццё.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

На здымках: помнік у гонар падарожжа графа Тышкевіча па Віліі; падчас уручэння дыплома I ступені.

Фота Віктара Зайкоўскага

# Тры аблічча «Тоскі»

Сёння, у суботу і ў нядзелю Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі паказвае першую прэм’еру свайго 78-га сезона — спектакль “Тоска”. Знаўцы і аматары музычна-сцэнічнага жанру не адмовіліся б трапіць на ўсе тры вечары, бо жывая опера — адно з самых складаных і эфемерных мастацтваў, якое, паводле самой сваёй прыроды, гарантуе непаўторнасць. А гэтым разам тры спектаклі прадставяць і тры розныя склады выканаўцаў. Стваральнікі “Тоскі”, пятай па ліку пастановачнай версіі неўміручай оперы Джакама Пучыні за ўсю гісторыю нашага Вялікага тэатра, — дырыжор Віктар Пласкіна, рэжысёр Міхаіл Панджавідзе, сцэнограф Аляксандр Касцючэнка, мастак па касцюмах Элеанора Грыгарук, хормайстар Ніна Ламановіч і сапраўднае сузор’е салістаў.

Зазірнуўшы ў залу падчас генеральнага прагона новага спектакля і ўбачыўшы грандыёзную пабудову храмавага інтэр’ера, у якім разгортваюцца лірычныя эпізоды відовішча, можна было пераканацца, што яно будзе ўражлівае. Пастаноўшчыкі пастараліся максімальна скарыстаць выразныя магчымасці сучаснага сцэнічнага абсталявання, відэапраекцыі, камп’ютарныя эфекты, запрасіўшы ў сваю творчую каманду расійскіх спецыялістаў — мастака па святле Сяргея Шаўчэнку ды адмыслоўцу сцэнічнай камп’ютарнай графікі Паўла Суворава.

Ніна Шарубіна, Кацярына Галаўлёва, Іна Русіноўская — у ролі спявачкі Флоры Тоскі, Уладзімір Пятроў, Уладзімір Громаў, Станіслаў Трыфанаў — у ролі жорсткага начальніка паліцыі Скарпіа, Сяргей Мартынюк і Сяргей Франкоўскі — у ролі мастака Марыа Каварадосі... Выканаўцы оперных партый працуюць са шчырай самааддачай. Што адбываецца, калі сутыкаюцца любоўная жарсць і адказнасць перад навакольнымі людзьмі, калі не могуць паразумецца мастак, паглыблены ў свой унутраны свет, і рэальная ўлада? Гэта далёка не ўсе пытанні, над якімі разважаюць выканаўцы разам з рэжысёрам, пражываючы спрадвечныя, як само жыццё, сітуацыі, у якіх апынаюцца героі оперы.

Лана ІВАНОВА

(Працяг. Пачатак на стар. 1)

# «Проста мастак» Барыс Забораў

Разважаючы пра феномен шырокага прызнання, Барыс Забораў, які выдаў кнігу “Цепь случайностей, или Судьба”, не звязвае творчую паспяховасць са зменай месца жыхарства: “Мастак у рознай ступені дасягае поспеху не толькі ў эміграцыі, але і ў Мінску, і можа страціць сябе, апынуўшыся ў Парыжы. І талент, і актыўная ўключанасць у сусветны мастацкі працэс, ці, наадварот, поўнае яго ігнараванне, — урэшце, усё можа прынесці поспех. Бо вырашальная роля належыць выпадку (калі мы, безумоўна, прызнаём само існаванне выпадковасцей). Зрэшты, я не аналізую гэтую праблему: няхай ёю займаюцца статыстыкі”. Між тым, нават збольшага ведаючы яго творчасць, можна здагадацца, што Барыс Забораў пазіцыяніруе сябе як мастак-адзінотнік: ён пазбягае якіх-кольвечы групавых інтарэсаў і прэферэнцый, не азіраецца на актуальныя тэндэнцыі, не імкнецца “быць модным”, не працуе на замову. Ён прызнаецца: “На вывучэнне замежных моў не было часу. Французскую асвоіў, але валодаю ёю не надта... Праўда, я пазбягаю асаблівай публічнасці, такіх месцаў, дзе трэба выяўляць красамоўства. Я не бяруся разважаць пра ролю мастака ў грамадстве, бо мяркую, што мастак можа ўплываць на грамадства выключна вынікам сваёй працы, а не як грамадскі дзеяч. Грамадскай дзейнасцю часцей за ўсё пачынаюць займацца тыя людзі з творчага асяроддзя, якія не надта ведаюць, што рабіць у самім рамястве”.

Самотны парыжанін Барыс Забораў вынайшаў у сваім рамястве ўнікальную, непаўторную мову, створаную нібы на сутыку жывапісу, графічнага малюнка, светлапіснага адбітка. Карыстаючыся ёю, стварае партрэты і пейзажы, знарочыста нівеліруючы фарбы, ігнаруючы прыняты ў жывапісе культ колеру, квяцістую сакавітасць, “літаратурную” сюжэтнасць. Персанажы яго карцін — быццам увасабленне вобразаў-тыпажоў, захаваных на старых пацямнелых фатаздымках і пласцінах-негатывах, або прыглушаныя пацінай часу люстрункі бязлюдных сялянскіх пабудоў. Яны не маюць дачынення ні да парыжскай рэальнасці, ні да тамтэйшай гісторыі. Яны поўняцца невытлумачальным духам беларускага мястэчка на мяжы XIX-XX стагоддзяў; поўняцца тугою па мінулых часах, страчаных людзях, — адцененай нотамі сентыментальнага настальгічнага замілавання. Тым, хто не разумее, чаму ўсе яго творы прасяквае “сум” (насамрэч — светлая туга), мастак адказвае сустрэчным пытаннем: “А вы шмат бачылі вясёлых карцін сярод сур’ёзных твораў пра жыццё?”. У рамах — то мудрагелістых, то простых — нібы абагульняюцца бязлітасны час, які руйнуе, і гаючыя ўспаміны, якія ўратоўваюць. Жыццё...

Зрэдчас Б. Забораў супрацоўнічае з тэатрам “Камедзі Франсэз”. Звяртаецца ён і да кнігі, але ўжо не як дызайнер-ілюстратар, а як... скульптар: “Сёння кнізе пагражае небяспека знікнення. Кніжкі ператвараюцца ў накапляльнікі тэкстаў. Але ж ва ўсе часы кніга існавала і набывала завершаны выгляд як аб’ект культуры. Я стварыў больш як 25 кніг у бронзе — і 4 лістапада ў Парыжы адбудзецца выстаўка гэтай “бронзавай бібліятэкі”, якая размесціцца на дубовых стэлажах. У ізраільскім горадзе Хайфа, дзякуючы падтрымцы сяброў, удалося ўстанавіць манумент “Пісьменства і кніга” (створаны тры гады таму), які дасягае ў вышыню 4,5 метра, — першы ў свеце помнік, прысвечаны пісьменству і кнізе — дзвюм іпастасям сусветнай культуры, якія адыгралі выключную ролю ў станаўленні чалавецтва”.

Мадэль гэтага надзвычай арыгінальнага, пластычнага бронзавага фаліянта, “населенага” літарамі, лічбамі ды самымі рознымі знакамі пісьма, таксама экспануецца на выстаўцы ў Мінску, разам з фотаздымкамі самога помніка — увасаблення інтэлектуальнай мудрасці яго аўтара...

Мара нашага таленавітага земляка жыць і працаваць у Парыжы спраўдзілася. Аднак Барыс Забораў падкрэслівае, што чалавек, нават у імкненні да свабоды выбару месца жыхарства, ніколі не павінен адсякаць свае карані. “Першыя 15 гадоў эміграцыі ў мяне не было сувязі з радзімай, і здавалася, што гэта назаўжды, — расказвае ён. — Потым адбыўся проста неверагодны, нейкі сюррэалістычны паварот падзей! Кантакты з Мінскам хутка наладзіліся — мае сябры з пісьменніцкага, кінематаграфічнага асяроддзя нават прыязджалі пагасціваць у мяне. На жаль, сыходзяць людзі: цяпер многіх ужо няма... Маё асяроддзе ў Парыжы — таксама творчая інтэлігенцыя: людзі тэатра, літаратары, значна менш — мастакі... Для мяне і Мінск родны горад, і Парыж родны горад. Ад сённяшняга Мінска самае галоўнае ўражанне — гэта публіка, свабодныя маладыя людзі, якія жывуць, не азіраючыся насцярожліва па баках. Мы былі не такія... Часта пытаюцца пра маю самаідэнтыфікацыю ў свеце нацыянальных культур, “геаграфічную прыналежнасць”, хоць на пытаннях такога кшталту, бывае, робяцца розныя спекуляцыі. Паводле сваіх перакананняў я чалавек свету. Я проста мастак, народжаны тут, які ўвабраў усё: беларускае дзяцінства ў Мінску, рускую культуру, калі 7 гадоў займаўся ў творчых навучальных установах. Я проста мастак... А свой свет, блізкае духоўнае асяроддзе — гэта не залежыць ад змены побытавага, жыццёвага асяроддзя і застаецца заўсёды з намі”.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ




## Слова краязнаўцы



Кацярына ГАЛАДОК, дырэктар рабочай групы па стварэнні Смалявіцкага краязнаўчага музея, расказвае пра тое, як любоў да вывучэння гісторыі роднага краю стараюцца прывіць дзецям са школьных гадоў:

— Як плануецца, значная частка нашай экспазіцыі будзе прысвечана краязнаўству. Пакуль жа, не чакаючы афіцыйнага адкрыцця музея, мы ладзім часовыя выстаўкі. Адну з іх — "Музейныя прадметы расказваюць" — наведала шмат вучняў з настаўнікамі. На выстаўцы пастараліся паказаць ім самае цікавае, што ў нас ёсць. Дарэчы, у асноўным фондзе налічваецца каля 4300 музейных прадметаў, а ў навукова-дапаможным — больш як 2000. Дык вось падчас знаёмства з унікальнымі рэчамі мы папрасілі школьнікаў самім дакрануцца, скажам так, да гісторыі, уважліва прыглядзецца да таго, што іх акружае. І такім чынам да нас трапляюць цікавыя прадметы, якія, здаралася, ляжалі на гарышчы ў бабуліным доме і часцей за ўсё нікому не былі патрэбныя. Згадзіцеся, для сённяшніх хлопчыкаў і дзяўчынак нават металічнае пяро, якім пісалі іх бабулі, дзядулі, а іншым разам і бацькі, — гэта ўжо гісторыя. Бо яны чарнільную ручку ў вочы не бачылі. Як і той жа прымус, керагаз. Адным словам, такія рэчы для іх — адкрыццё. І дзеці адгукнуліся на нашы прапановы перадаваць старыя рэчы музею. Вось летась дзяўчынка разам з маці прынесла сямейную рэліквію — манету, вырабленую ў 1835 годзе. Менавіта вучні прынеслі ў будучы музей пасляваенныя чаравічкі на драўлянай падэшве, каскі, знойдзеныя на полі. Калі ж рарытэт пабываў у руках, то і цікавасць да даўніны, гісторыі сваіх мясцін у людзей розных узростаў узрастае. А для кагосьці краязнаўства можа стаць захапленнем на ўсё жыццё.

На смалявіцкай зямлі нарадзілася шмат знакамітых людзей. Адзін з іх — скульптар Аляксандр Мятліцкі (памёр вельмі маладым). Чатыры яго работы захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, па адной — у Маскве і Токіа. Некалькі скульптур, якія, безумоўна, зоймуць пачэснае месца ў экспазіцыі, дзе будзе расказвацца пра знакамітых землякоў, сястра творцы Марыя Іванаўна перадала нашай установе. Вялікі дзякуй ёй за гэта.

## Агінскі ў гістарыяграфіі

У Гродне прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя "Адбіткі дзяржаўнай і культурнай дзейнасці князёў Агінскіх", арганізатарамі якой выступілі Інстытут гісторыі Літвы, Музей гісторыі і культуры роду Агінскіх у г. Рэтава (Літва), ГрДУ імя Я. Купалы, Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей. Яна была падрыхтавана ў межах Міжнароднай адукацыйна-канцэртнай праграмы "Шлях паланэзаў Міхала Клеафаса Агінскага 2010", прысвечанай 245-й гадавіне нараджэння палітыка, дыпламата, кампазітара.

3 дакладамі, у якіх разглядаліся розныя аспекты жыцця і дзейнасці М. К. Агінскага, яго ацэнкі ў сучаснай гістарыяграфіі, выступілі гродзенскія, мінскія, літоўскія навукоўцы. Прысутныя змаглі атрымаць асалоду і ад канцэрта "Музыка дынастыі Агінскіх" з удзелам праўнука М. К. Агінскага, кампазітара і піяніста Івы Залускага (Вялікабрытанія).

Анастасія ВЕСЯЛУХА

### Музейны ўнікат

# Рарытэты з Полацка

Сёння Полацк — горад-музей, у ім налічваецца адзінаццаць музеяў. А пачалося ўсё больш як 80 год таму, калі ў Сафійскім саборы 26 снежня 1926 года была адкрыта першая экспазіцыя Полацкага акруговага краязнаўчага музея.

У хуткім часе яе перавялі ва ўнікальны для Полацка будынак — былую лютэранскую кірху, помнік архітэктуры канца XIX ст. стылю неаготыка. Экспазіцыя музея размяшчаецца тут і цяпер. Сёння краязнаўчы музей — філіял Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка — знаёміць наведвальнікаў з гісторыяй Полацка, яго эканамічным, палітычным і культурным жыццём ад старажытных часоў да 1941 года. Багатыя калекцыі археалогіі, зброі, прадметаў побыту, нумізматыкі далі матэрыял для асвятлення адметнасцей жыцця старажытнага ўсходнеславянскага горада ў розныя эпохі.

У экспазіцыі Краязнаўчага музея — некалькі ўнікальных пячатак. Да найбольш цікавых з іх адносіцца пячатка з выявамі "Пагоні" і "Аленя", якая датуецца XVI — першай паловай XVII ст. 3 абодвух яе бакоў — высокамастацкія рэльефныя геральдычныя выявы. На вонкавым — выява ўзброенага вершніка з занесеным мячом у адной руцэ і шчытом у другой. "Пагоня" — дзяржаўны герб Вялікага Кня-



ства Літоўскага, у склад якога Полацк уваходзіў з 1307 г. На адваротным баку — выява аленя з дэкаратыўнай віньеткай. "Алень" — герб Віцебскага ваяводства, якое існавала з 1506 г. да моманту ўваходжання Віцебска ў склад Расійскай імперыі.

Даследчыкі лічаць, што ёй кляймілі тавар: воск, цагліны, кафлі, маглі выкарыстоўваць і для адбіткаў медальёнаў на скуры. Пячатка была знойдзена ў 1987 г. С.В.Тарасавым падчас археалагічных раскопак на Вялікім пасадзе. Яна з'яўляецца каштоўным помнікам беларускай сярэднявечнай сфрагістыкі, прыкладам тонкай ручной работы.

Вялікую ролю ў жыцці Полацка на працягу XVI — XIX стст. адыгрываў Полацкі езуіцкі калегіум (акадэмія). На жаль, пасля забароны дзейнасці ордэна на тэрыторыі Расійскай імперыі маёмасць і каштоўныя калекцыі калегіума былі вывезены з горада. Таму кожны прадмет, які мае непасрэдныя адносіны да калегіума езуітаў у Полацку, з'яўляецца рарытэтным. Сярод такіх экспанатаў у Краязнаўчым музеі варта спыніць увагу на кнізе, выдадзенай у друкарні полацкіх езуітаў.

Езуіцкая друкарня дзейнічала пры калегіуме з 1787 па 1820 гг. За гэты час выйшла больш як 500 выданняў пераважна на польскай і лацінскай, нешматлікія выданні на рускай, італьянскай, нямецкай і французскай мовах. Гэта творы пісьменнікаў-палемістаў XVI — XVII стст., рымскіх пісьменнікаў, філасофаў, літургічная літаратура, слоўнікі, а таксама падручнікі па ўсеагульнай геаграфіі і гісторыі Рыма, майстэрстве рыторыкі і граматыкі лацінскай мовы. Апошнія выдаваліся ў Полацку ў 1790 і 1794 гг. Падручнік граматыкі лацінскай мовы ("Grammatica Lingvae Latinae") у трох частках 1794 г. выдання з'яўляецца каштоўным экспанатам Краязнаўчага музея. Яго аўтар — Эмануэль Альвар (Emmanuelis Alvari) (1526 — 1585) — партугальскі езуіт, яго граматыка была ў XVI — XVIII стст. вельмі папулярнай у Еўропе. Па ёй спасцігалі азы "мовы навукі" і маленькія палачане. Аб гэтым сведчыць нават полацкая пастаноўка 1693 г., дзе мешчанін-рамеснік, выхва-





ляючыся вучонасцю свайго сына кажа: "Я есмы прышов сынка мого послухати, учуешь як хорошенько будзе казати. По-лацинску як репку грызе, як озьме мой сынок на своим Альвары чытати, як бы то панятко, альбо великого князя якое князятко".

Полацк заўсёды знаходзіўся ў віры еўрапейскіх падзей. У 1772 годзе, пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, правабярэжная частка Полацка адышла да Расійскай імперыі. Мяжой дзвюх дзяржаў стала Заходняя Дзвіна. Полацкі езуіцкі калегіум апынуўся на тэрыторыі Расіі. Аднак і ў левабярэжным Полацку лад жыцця стаў змяняцца. У 1773 годзе быў распушчаны ордэн езуітаў. Уся іх маёмасць перайшла пад нагляд Адукацыйнай камісіі, якая павінна была правесці рэформу народнай адукацыі. У Полацк быў накіраваны люстратар Гілярый Абранпальскі з двума памочнікамі-перапісчыкамі, які ў 1774 годзе прадставіў у архіў маршалка генеральнай канфедэрацыі ВКЛ Міхала Гераніма Радзівіла люстрацыю езуіцкіх маёнткаў на левым беразе Дзвіны.

На момант складання люстрацыі чысты прыбытак з гэтых фальваркаў складаў амаль 64 тысячы злотых. Гэтыя грошы ішлі на падтрымку школ і ўтрыманне настаўнікаў. "Lustrator Polocki…" утрымлівае звесткі пра 9 буйнейшых фальваркаў полацкіх езуітаў і з'яўляецца каштоўнай крыніцай па гісторыі не толькі Полацка, але і сучасных вёсак Экімань, Казімірова, Мосар. На жаль, рукапіс захаваўся не поўнасцю: часткі А і В адсутнічаюць. Захаваныя часткі С і D — заключныя раздзелы люстрацыі — уяўляюць сабой вялікіх памераў сшытак у 36 старонак, з гербавай паперай ручнога адліву, у кардонным пераплёце і з рэшткамі скураных упрыгажэнняў. Аднак і ў такім складзе рукапіс патрабуе дэталёвага вывучэння і можа даць карысную інфармацыю свайму даследчыку.

Каштоўнымі і цікавымі з'яўляюцца асабістыя калекцыі людзей, чыё жыццё непарыўна звязана з Полацкам. Фонды музея захоўваюць матэрыялы Ядвігі Мацiеўскай — мастачкі, праўнучкі акадэміка жывапісу Івана Хруцкага. Сярод іх ёсць і цікавыя фотаздымкі. Сёння многа ўвагі надаецца вывучэнню сямейнага дрэва Хруцкіх і збору біяграфічных звестак аб прадстаўніках гэтага роду. Вядома, што нашчадкі мастака абіралі розныя прафесіі, але некаторыя ішлі ўслед за сваім знакамітым продкам і прысвячалі сваё жыццё служэнню выяўленчаму мастацтву. Адзін іх Іван Тамкавід (1888 — 1972) — мастак-графік, унук І.Ф.Хруцкага. На фотаздымку з музейнай экспазіцыі Іван Тамкавід вачыма спрактыкаванага мастака ўглядаецца ў чысты аркуш паперы і алоўкам робіць накід будучага малюнка.

На сённяшні дзень у музеі працуе не толькі стацыянарная экспазіцыя, але і ствараюцца змянныя выставы. Так, адкрылася выстава "Гандлёвыя сувязі Полацка Х — XVI стст.", у якой сярод старажытных помнікаў гісторыі і культуры прадстаўлены ўнікальны бронзавы амулет-змеявік XIII — XIV стст. Змеявік быў знойдзены ў 1995 г. у Полацку на Верхнім замку падчас археалагічных раскопак пад кіраўніцтвам С.Тарасава. і М.Клімава. Ва Усходняй Еўропе вядомы яшчэ два падобныя прадметы, знойдзеныя ў Ноўгарадзе і Цвяры. Круглы па форме, двухстворкавы амулет "Фёдар Стратілат", ад якога, на жаль, захавалася адна створка, змяшчае на вонкавым баку рэльефную выяву вялікамучаніка Фёдара-воіна і надпіс "АГИАСЬ ФЕДЬРЪ".

Выява святога ў поўны рост у воінскім аблачэнні традыцыйная для старажытнарускага жывапісу і дробнай пластыкі. Святы Фёдар адлюстраваны з дэкарыраваным раслінным арнаментам німбам над галавой, у падпяразаным даспеху і плашчы. У правай узнятай руцэ — кап'ё, у левай — вялікі выгнуты арнаментаваны шчыт, злева на поясе — меч. З абодвух бакоў фігуры змешчаны вертыкальны рэльефны надпіс. Амулеты-змеевікі з'яўляюцца выдатнымі помнікамі двухвер'я, дзе змяшаліся хрысціянскія і язычніцкія ўяўленні продкаў. Знайсці падобны прадмет — вялікая ўдача.

Славіна ГАЎРЫЛАВА, Юлія СТУДЗЯНІКІНА

На здымках: Іван Тамкавід унук Івана Хруцкага; бронзавы амулет-змеявік (XIII — XIV ст.); пячатка з выявай "Аленя" (XVI — першая палова XVII ст.).

Фота Алега Елькіна

# Туга па няздзейсненых марах

У вёсцы Іказнь, што ў Браслаўскім раёне, яшчэ і сёння ўзгадваюць былога грамадскага дзеяча, паэта, актыўнага змагара за беларускае нацыянальнае адраджэнне на тэрыторыі Заходняй Беларусі Мікалая Васільевіча Дварэцкага. Нарадзіўся ён 7 верасня 1903 года ў Іказні, у вялікай сялянскай сям'і, быў самым малодшым з дзевяцярых дзяцей. Пасля заканчэння царкоўнапрыходскай школы вучыўся на шаўца, пазней трымаў уласную шавецкую майстэрню, займаўся рыбалоўствам.

Пасля далучэння Браслаўскага павета да Польшчы М.Дварэцкі разам з іншымі беларусамі-патрыётамі ўключыўся ў нацыянальна-вызваленчы рух. Уступіўшы ў 1922 годзе ў Беларускую хрысціянска-дэмакратычную партыю, ён у 1928 годзе быў нават абраны членам яе Цэнтральнага камітэта. Уваходзіў у склад рэдакцыі беларускамоўнай газеты "Вызваленне народу", дзе друкаваў свае вершы. Шмат яго твораў было змешчана і ў газеце "Шлях моладзі", якая выдавалася ў Вільні.

У 1926 годзе ў Іказні быў заснаваны гурток Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Першым яго старшынёй стаў Мікола Дварэцкі. Гэта была грамадская арганізацыя, дзейнасць якой засяроджвалася на распаўсюджванні беларускай асветы і культуры праз лекцыі, арганізацыю бібліятэк, пастаноўкі спектакляў па п'есах беларускіх драматургаў. Асаблівай папулярнасцю сярод іказненцаў гледачоў карысталіся пастаўленыя ў той час членамі гуртка камедыі "Збянтэжаны Саўка" і "Мікітаў лапаць".

Польскія ўлады ўсімі спосабамі перашкаджалі дзейнасці гуртка, а яго кіраўнік М.Дварэцкі ў 1928 г. быў арыштаваны і змешчаны ў віленскую турму. У такіх цяжкіх умовах беларускі гурток праіснаваў у Іказні 10 гадоў. Убачыўшы ў яго дзейнасці пагрозу "бэзпечэнству публічнэму", кіраўніцтва павета забараніла гурток.

Прыход Чырвонай Арміі 17 верасня 1939 года Мікола Дварэцкі вітаў з надзеяй на рэалізацыю сваіх асветніцкіх планаў. У 1940 г. у адным са сваіх вершаў ён пісаў:

Шумяць Браслаўшчыны азёры,
Лясы гамоняць весялей,
Глядзяць шчаслівымі прасторы
І лічаць радасць новых дней.

Яна прыйшла да нас з Усходу
Пад звон матораў баявых,
Яе чакалі мы штогоду,
Бо ў сэрцах крыўды бунт не ціх.

Тады ж, у 1939 годзе, М.Дварэцкі стаў дырэктарам беларускай няпоўнай сярэдняй школы ў Заборных Гумнах. Але праз некаторы час школа была ператворана ў рускамоўную. Не пагадзіўшыся з гэтым, М.Дварэцкі пакінуў педагагічную дзейнасць і заняўся пчалярствам.

З пачаткам вайны, пакуль немцы не паспелі ўстанавіць сваю ўладу, група польскіх нацыяналістаў з ліку мясцовых жыхароў арганізавала ў Іказні путч, аб'явіўшы мястэчка часткай Польшчы. Яны арыштавалі былых прыхільнікаў савецкай улады, аднак Мікалаю Васільевічу ўдалося ўцячы. Немцы потым путчыстаў расстралялі, а Дварэцкага кінулі ў турму як камуніста. Ад расстрэлу яго тады ўратаваў ці то стараста Кавальскі, ці то вядомы на Браслаўшчыне абаронца мясцовага насельніцтва і падпольшчык А.Васілеўскі.

М.Дварэцкі пакінуў у 1944 годзе Беларусь. Блукаў па Германіі, потым жыў у Аўстрыі, а з 1947 года і да апошняга дня — у Польшчы. Займаўся садоўніцтвам і пчалярствам, пісаў вершы, якія друкаваліся ў Беластоку ў беларускай газеце "Ніва".

У 2008 годзе намаганнямі яго сына Юрыя і прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў Гданьску выйшаў з друку зборнік вершаў М.Дварэцкага пад назвай "Там і Тут". "Там" — гэта назаўсёды страчаная Бацькаўшчына, "Тут" — чужбіна, дзе сэрца паэта поўнілася тугой па роднай Беларусі, па няздзейсненых марах.

Аўгуст ВАЙЦЯХОВІЧ

## Да 150-годдзя з дня нараджэння графа Караля фон Гутэн-Чапскага

На працягу шэрагу гадоў на паштовым тракце Мінск — Прылукі — Станькава — Негарэлае — Мір — Навагрудак можна было часта бачыць, як добра апранугы коннік шпарка скакаў раніцай са Станькава ў Мінск і ўжо позна вечарам вяртаўся гэтай жа дарогай з Мінска ў Станькава. Яму не было перашкодай ні дрэннае надвор'е, ні спёка, ні холад, ні дождж. Так ён рэгулярна ездзіў на сваю працу ў Мінск і вяртаўся дадому ў маёнтак Станькава, дзе жыў. Гэтым коннікам быў галава горада Мінска граф Караль фон Гутэн-Чапскі, які быў абраны на гэтую пасаду ў 1890 годзе. На момант абрання яму было 30 гадоў.



# Каб не горш за Маскву, Вільню...

90-я гады XIX стагоддзя былі часам энергічных і ініцыятыўных людзей, якія ўкаранялі ў паўсядзённае жыццё вялікія адкрыцці рускіх і замежных вучоных. У той час Мінску вельмі пашанцавала з новым галавой горада графам Каралем фон Гутэн-Чапскім, радавым дэвізам якога былі словы: "Жыццё — Айчыне, гонар — нікому".

Граф Караль Ян Аляксандр фон Гутэн-Чапскі паходзіў са старажытнага нямецкага роду, які ў XII стагоддзі атрымаў тытул графаў Свяшчэннай Рымскай імперыі, быў блізкім польскаму каралеўскаму двару, знаходзіўся ў сваяцтве з магнатамі Радзівіламі, царскім дваром Раманавых.

Караль фон Гутэн-Чапскі нарадзіўся 15 жніўня 1860 года ў маёнтку Станькава Койданаўскай воласці Мінскага павета. Скончыў нямецкую гімназію Санкт-Анэн-Шуле ў Санкт-Пецярбургу, потым — гісторыка-філалагічны факультэт Дэрпцкага (Тартускага) універсітэта са ступенню кандыдата палітычнай эканоміі і статыстыкі. У 1882 — 1890 гадах займаўся гаспадарчымі і адміністрацыйнымі справамі ў бацькавым маёнтку Станькава.

У 1889 годзе памёр галава горада Мінска М. Галіневіч. Царскія ўлады пачалі падбіраць на гэтую пасаду новага чалавека. Прэтэндэнтаў на пасаду сярод праваслаўных, якія б валодалі адпаведным маёмасным цэнзам, было не вельмі многа. Сярод выбаршчыкаў — жыхароў горада Мінска — пераважалі ў асноўным домаўладальнікі-католікі. Гэтыя католікі і забяспечылі абранне маладога і энергічнага 30-гадовага графа Караля фон Гутэн-Чапскага на пасаду гарадскога галавы. Дарэчы, закон ад 22 мая 1864 года забараняў палякам-католікам займаць высокія дзяржаўныя пасады на беларускіх землях. Санкт-Пецярбург аднак зацвердзіў кандыдатуру графа Караля фон Гутэн-Чапскага на гэтую адказную пасаду.

Граф Караль фон Гутэн-Чапскі, стаўшы галавою горада Мінска, адразу разгарнуў рознабаковую дзейнасць. Свае праекты новы кіраўнік праводзіў у жыццё паслядоўна і рашуча. Ён паставіў перад сабой мэту: у час праўлення дамагчыся, каб Мінск па ўсіх паказчыках стаў еўрапейскім горадам. Пры графу Каралю фон Гутэн-Чапскім горад Мінск з правінцыйнага губернскага гарадка ператварыўся ў сапраўдны еўрапейскі горад. Кіраўніка горада яшчэ пры жыцці называлі "пераўтваральнікам Мінска". Ён імкнуўся надаць Мінску еўрапейскі выгляд, бляск і прыгажосць не меншую, чым мелі Санкт-Пецярбург, Масква, Кіеў, Вільня.

Так, на працягу шэрагу гадоў "уныло" стаяў у Мінску недабудаваны гмах гарадскога тэатра і сумна пазіраў чорнымі аканіцамі на вуліцы. Ён быў закладзены ў 1888 годзе. Энергічны галава горада вырашыў гэтую праблему і хутка, і проста. Ён прадаў лес ва ўрочышчы Міхалянка, які належаў Мінску, а вырučаныя грошы пайшлі на заканчэнне будаўніцтва тэатра (цяперашні Нацыянальны беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы). Тэатр быў урачыста адкрыты 5 чэрвеня 1890 года. Увечары быў пастаўлены аматарскі спектакль О. Фельё "Сфінкс". Усяго ў зале налічвалася 550 месцаў, пазней іх колькасць павялічылася да 700. Першы сезон пачаўся спектаклем А. Пацехіна "Злосць дня". Будынак тэатра быў узведзены паводле праекта польскага архітэктара К. Казлоўскага ў стылі неабарока. Пасля Вялікай Айчыннай вайны была праведзена рэканструкцыя будынка, і былая прыгожая неабарочная аздоба фасада знікла.

У 1890 годзе быў складзены план забудовы горада Мінска і была наладжана тэлефонная сувязь для службовага карыстання.



У 1890 годзе пастаўлена 8 асобных тэлефонаў, якія былі звязаны з цэнтральнай станцыяй у гарадскім паліцэйскім упраўленні. Тэлефоны злучалі 4 паліцэйскія часці, кватэру генерал-губернатара, паліцмайстра, гарадскую ўправу і пажарны двор. У 1896 годзе ўведзена ў дзеянне першая тэлефонная станцыя агульнага карыстання на 100 нумароў.

Караль фон Гутэн-Чапскі шмат увагі ўдзяляў і бедным жыхарам Мінска. У Санкт-Пецярбургу ён узяў дазвол на адкрыццё ў Мінску ў 1891 годзе ламбарда. Мэтаю ламбарда было — даць магчымасць бедным людзям атрымаць танны крэдыт (1,5 працэнтаў) пад залог рухомай маёмасці, бо пазыковыя касы і ліхвяры ў Мінску спаганялі пад яго 60 працэнтаў і больш гадавых і такім чынам пазбаўлялі магчымасці кліента выкупіць закладзеную рэч. Ламбард размяшчаўся па вуліцы Гандлёвай, 23 і быў дабрачыннай арганізацыяй, а не камерцыйнай.

У 1892 годзе па ініцыятыве галавы горада Мінска ў адным з дамоў Траецкага прадмесця, які стаяў на набярэжнай ракі Свіслач (будынак не захаваўся), быў заснаваны гарадскі начлежны прытулак. Зімою ў прытулак прыходзілі асобы, якія не мелі жылля і ўдзень вандравалі па горадзе ў пошуках ежы і выпадковага заробку. Прытулак быў адкрыты з 7 гадзін вечара (зімою з 6 гадзін), да 8 гадзін раніцы. Увечары начлежнікам выдавалася цёплае адзенне і гарбата, раніцай — тры шклянкі гарбаты і кавалак хлеба. За прытулак начлежнікі плацілі 5 капеек. У яго прымалі толькі цвярозых асоб. Паленне, гульня ў карты, распіццё алкаголю забараняліся.

У 1891 годзе на паўднёва-ўсходняй ускраіне Мінска, недалёка ад лініі Маскоўска-Брэсцкай чыгункі, была створана метэаралагічная станцыя Мінск-чыгунка, у 1895 годзе была адкрыта метэастанцыя Мінск-горад (цяперашняя вуліца Кірава).

На левым беразе ракі Свіслач, дзе цяпер узвышаецца велічны ансамбль плошчы Перамогі з манументам і Вечным агнём, у сярэдзіне XIX стагоддзя быў канец горада Мінска. Тут стаяў вартавы пост з "рагаткай" для кантролю тых, хто ехаў у горад ці выязджаў з горада па Барысаўскім тракце. У часы графа Караля фон Гутэн-Чапскага тут ужо ўтварыўся цэлы жылы раён Залатая Горка (Злата Гурка).

Менавіта пры графу Каралю фон Гутэн-Чапскім быў зацверджаны канчатковы праект і пачата будаўніцтва конна-чыгуначнай дарогі. У той час дзейнічалі толькі дзве лініі: першая — злучала два чыгуначныя вакзалы Мінска, другая — яна вяла да тагачаснага адміністрацыйнага цэнтра — Сабornай плошчы (цяпер плошча Свабоды). У 1895 годзе лінія "конкі" была працягнута ад Саборнай плошчы да піваварні па вуліцы Аляксандраўскай — да цяперашняга піўзавода "Аліварыя".

У 1892 годзе галава горада Мінска заснаваў гарадское таварыства аматараў спорту і стаў яго першым старшынёй. На гарадскіх землях, у якія ўваходзіў і Губернатарскі сад, прысутнічаў не толькі спартыўны, але і камерцыйны дух. Неўзабаве тут з'явіліся веласіпедны трэк, стадыён і комплекс спартыўных пабудоў. Сад стаў не толькі месцам масавага адпачынку гараджан і гасцей горада, але і месцам актыўнага занятку аматараў спорту.

У 1894 годзе галава горада мадэрнізуе піваварны завод "Багемія" і пачынае выпускаць фірменнае піва "Граф Чапскі". Коркам фірменных бутэлек служыў маленькі бюсцік графа Караля фон Гутэн-Чапскага. Галоўныя фасады карпусоў завода, якія былі ўзведзены ў 90-х гадах XIX стагоддзя, выходзяць цяпер на вуліцу Кісялёва. У савецкі час піваварня мела назву "Беларусь", цяпер гэта прадпрыемства называецца "Аліварыя".

Для асвятлення вуліц у Мінску нямецкая фірма "Брэге" прапанавала 54 ліхтары за 57 тысяч рублёў. Граф як эканомны гаспадар горада вырашыў пашукаць, дзе можна купіць больш таннае абсталяванне. Яго эмісары даведаліся, што Лібаўскі марскі порт прадае электрастанцыю разам з яе ўстаноўкай за 20 тысяч рублёў. Праз два гады Лібаўскі марскі порт прадаў гораду Мінску электраабсталяванне. Першыя паветраныя электрычныя лініі ў горадзе былі праведзены ў 1894 годзе. У памяшканні вадакачкі каля моста праз раку Свіслач па былой вуліцы Захар'еўскай (цяпер праспект Незалежнасці), дзе размешчаны будынак Мінскага цырка (будынак электрастанцыі захаваўся), была пастаўлена паравая машына ў 100 конскіх сіл і дынамамашына пастаяннага току напружаннем 110 ват. 12 студзеня 1895 года электрастанцыя пачала выпрацоўку электраэнергіі. Праз тры гады ў Мінску ўжо было 1100 лямпачак: 240 — на вуліцах, 440 — у тэатрах і 440 — у прыватным карыстанні.

Паводле Усерасійскага перапісу, у 1897 годзе ў Мінску жыло 90912 чалавек (46346 мужчын, 44566 жанчын), працаздольных ва ўзросце ад 20 да 60 гадоў налічвалася 45023 чалавекі (51 працэнт горада былі непісьменнымі). У канцы XIX стагоддзя Мінск стаў самым буйным горадам Беларусі. Паводле гэтага перапісу, ён уваходзіў у лік 52 гарадоў Расіі з колькасцю жыхароў звыш 50 тысяч і займаў у гэтым спісе 19-е месца. Па тым часе гэта былі вельмі высокі паказчык!

У 1901 годзе граф Караль фон Гутэн-Чапскі ўзнавіў сваю ініцыятыву аб адкрыцці ў Мінску ўніверсітэта.

Поспехі галавы горада графа Караля фон Гутэн-Чапскага сталі магчымымі дзякуючы яго высокай адукаванасці, ініцыятыўнасці і дзелавітасці. Ён узначаліў горад у даволі спрыяльную эпоху, калі дасягненні цывілізацыі імкліва ўваходзілі ў жыццё.

Прагрэсіўны па тым часе чалавек, дзелавіты, паспяховы арганізатар новай фармацыі, ён адрозніваўся прадпрымальнасцю, вострым дзелавым падыходам, гаспадарчай хваткай, выдатна разумеў неабходнасць рашаючых пераменаў у эканоміцы, не забываўся пра развіццё культуры, навукі, асветы і рашэнне сацыяльных праблем горада Мінска.

Шмат фактаў сведчылі пра жаданне графа паэтапна, паступова "вестэрнізаваць" Мінск, але з-за актыўнага процідзеяння губернскіх улад, зайздроснікаў з Мінскай гарадской Думы і праблем са здароўем ажыццявіць мары яму цалкам не ўдалося.

29 мая 1901 года галава горада Мінска падае прашэнне аб адстаўцы, "бо хвароба і доктар таго патрабуюць". Граф Караль фон Гутэн-Чапскі праходзіў чатыры кадэнцыі, на пасадзе гарадскога галавы Мінска быў ажно 11 гадоў! Яго рэкорд не быў пабіты ніводным з яго наступнікаў.

У верасні 1901 года адстаўка галавы горада Мінска была прынята. Напружаная дзяржаўная праца, фізічныя і псіхічныя перагрузкі зачуасна, на 44-м годзе жыцця, перарвалі прыгожую стужку жыцця графа Караля фон Гутэн-Чапскага. 30 студзеня 1904 года ён памёр ад сухотаў на курорце ў Франкфурце-на-Майне (Германія). Пахаваны ў маёнтку Станькава ў радавой крыпце пад касцёлам. Гэты храм быў разбураны яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны.

Паводле расповедаў жыхароў вёскі Станькава, пра што ім расказвалі іх дзядулі, бабулі, бацькі, яны з нецярпеннем чакалі, калі прывязуць труну з целам графа ў Станькаўскі маёнтак. Труна была прывезена ў спецыяльным вагоне. На чыгуначнай станцыі Негарэлае, найбліжэйшым пункце ад Станькаўскага маёнтка, труна на руках сустракаючых была перанесена на ваенны лафет, запрэжаны чатырма парамі коней, якія былі ўпрыгожаны каштоўнай збруяй з золата і каштоўных камянёў. Усім запомнілася такая дэталь: граф Караль фон Гутэн-Чапскі ляжаў у труне ў чырвоных скураных бліскучых ботах.

З Негарэлага да Станькава, каля 12 кіламетраў, труну з целам графа Караля фон Гутэн-Чапскага суправаджала мноства сялян. Граф Караль фон Гутэн-Чапскі пакінуў чацвёра дзяцей: старэйшая дачка Фабіяна (1895 — 1974) была замужам за Юзафам Гадлеўскім (1892 — 1968), сын Эмерык (1897 — 1977), дачка Эльжбета (1896 — 1930) была замужам за Аляксандрам Моглем (1899 — 1956), малодшы сын Войцех (1899 — 1937).

Па-рознаму склалася жыццё дзяцей графа Караля фон Гутэн-Чапскага. Адны ўспрынялі новы сацыялістычны лад на радзіме, другія — не. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі дзеці пакінулі маёнтак, усё багацце ў Станькаве і выехалі на Захад. Жылі ў Парыжы, Варшаве, Кракаве, Берліне, Рыме і іншых гарадах Еўропы.

Шкада, што ў наш час ніяк не ўганаравана імя галавы горада Мінска графа Караля фон Гутэн-Чапскага. Ні помніка, ні вуліцы ў гонар яго, ні надання яму звання ганаровага грамадзяніна Мінска — нічога няма. А ён гораду аддаў 11 гадоў свайго жыцця!

У пачатку 1960-х удава галавы горада Мінска графіня Марыя фон Гутэн-Чапская (Пуслоўская), якая жыла тады ў Рыме, прыслала ліст ураду БССР з прапановаю прыняць на захаванне асабісты архіў графа Караля фон Гутэн-Чапскага, але тагачасны ўрад катэгарычна адмовіў ёй у гэтым.

А шкада!

Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ

На здымках: партрэт графа Караля фон Гутэн-Чапскага (Алег Маслієў, алей, 2004); павільён-"скарбніца" ў маёнтку Станькава (малюнак Напалеона Орды, 1876).

№ 43 29 кастрычніка 2010 г. ЛіМ

# «Краіна Ідылія заўжды са мной»

Алена Васілевіч вельмі аўтабіяграфічная пісьменніца. Ёй не трэба пісаць доўгія мемуары, бо многія моманты ўласнага жыцця перажываюць на старонках кніг яе герані. А таму мне было часам цяжка задаваць Алене Сямёнаўне пытанні, бо амаль на кожнае, датычнае ўласнай біяграфіі, яна можа адказаць: "Пачытайце пра гэта ў маім апавяданні. Лепш чым я там напісала, цяпер не раскажу". Пра асаблівасці аўтабіяграфічнай прозы, і не толькі, я распытала пісьменніцу ў тэлефоннай размове.



— Алена Сямёнаўна, перад інтэрв'ю прачытала адзін з самых буйных і яркіх вашых твораў тэтралогію "Пачакай, затрымайся". І ведаеце, мяне ўразіла вось што: вашы сямейныя фотаздымкі, што змешчаныя ў томе серыі "Беларускі кнігазбор", глядзяцца ну проста як дакладныя ілюстрацыі да тэксту. На іх усе героі аповесцей: і сухарлявы бацька, хітраокі і вусаты, абавязкова з "лісапедам" побач, і маці, стомленая, празрыстая, і сур'ёзны дзядзька Мікалай, і яго бурклівая настырная жонка Фядора. Нават падумалася, што вобразы сваякоў, якіх вы памятаеце з дзяцінства, у чымсьці аднаўляліся вамі па гэтых старых здымках.

— Вядома ж, мае творы і героі — не фатаграфіі з мінулага, інакш гэта былі б не аповесці, а дзённікі. Ведаеце, як некаторыя занатоўваюць кожны ўласны рух: прачнуўся, зрабіў зарадку, потым сеў, напісаў некалькі старонак, сустрэў знаёмага, гаварылі пра літаратуру. Я пішу ўсё ж мастацкія творы, хоць і з біяграфічнай асновай. Мне, як і ўсім творчым людзям, цяжка растлумачыць, як рэальнасць дапаўняецца вымыслам, элементам фантазіі, уяўлення і нечага іншага, што прыходзіць тады, калі творчы чалавек садзіцца да стала і рука робіць сваю, часам зусім непрадказальную работу.

— У тэтралогіі больш за ўсё падкупляе вобраз Ганькі. Гэтая шчырая, гарэзлівая і свавольная дзяўчынка — дакладнае ваша адлюстраванне? І як гэта — быць персанажам уласнай аповесці?

— Не, я жыла і вучылася сярод іншых дзяцей, у мяне былі сябры і сяброўкі, зрэшты, у мяне ёсць чытачы. Яны і дагэтуль пішуць: адчуванне такое, быццам вы пісалі пра мяне. Як гэта зразумець? Значыць, не толькі з сябе я рабіла здымак. Вы ведаеце, чым юных чытачоў прываблівае гэта гераіня? Ах, Ганька ж такая хлусіла, Ганька падглядала, падказвала на ўроках, Ганька сварылася з сяброўкамі — і гэта падкупляе. Але мне не хацелася б, каб я засталася аўтарам адной толькі кнігі пра Ганьку. Таму што мной напісана вельмі многа, — і проза, і публіцыстыка, а цяпер увесь мой шлях зводзіцца толькі да гэтага персанажа. Але я ж не засталася на ўзроўні Ганькі?..

— Ёсць меркаванне, што пісаць пра сваё жыццё — проста. Але аўтабіяграфічная проза патрабуе пэўнай шчырасці.

— Тэтралогія "Пачакай, затрымайся" пісалася даўно. Цяпер я, хутчэй за ўсё, пісала б яе па-іншаму. І не думаю, што гэта было б лепш. Менавіта тады, у маладосці, была большая шчырасць, непасрэднасць. А з узростам характар псуецца, людзі робяцца абачлівымі. Таму цяпер, калі я чытаю тэксты, напісаныя раней, то не скажу, што яны мне вельмі падабаюцца ці я лічу іх вялікім дасягненнем — проста я была шчырая для свайго часу, свайго ўзросту, для сваёй задачы. Сёння я была б іншая.

Але шчырасць павінна быць не толькі ва аўтабіяграфічнай прозе. Узяць хаця б мае апавяданне "Хто дурань?", "Пані старшыніха прыехала", "Горкі ліпавы мёд". Вы думаеце, я была няшчырая, калі іх пісала? Але гэта не значыць, што я пісала пра сябе. Памятаеце, Флабэр сказаў: "Эма Бавары – гэта я". Ну ён жа, мусіць, меў на ўвазе не толькі адну Эму. У кожным творы абавязкова прысутнічае аўтар. Можа, апроч дэтэктываў. Але я ніколі іх не пісала, не ўмею.

— Вядома, што ў кожнага пісьменніка знойдзецца шмат сюжэтаў, "падказаных самім жыццём". Але ці заўжды можна браць гэтыя жыццёвыя гісторыі без дазволу? Вось Леў Талстой, напрыклад, каб выкарыстаць у "Анне Карэнінай" адзін з анекдотаў, у ліставанні прасіў дазволу ў сваёй добрай знаёмай, якая яму яго распавяла.

— Звяртаючыся да такога высокага імя, такой незахмуранай да сённяшняга дня вяршыні, як Леў Талстой, трэба памятаць пра тое, дзе ён чэрпаў свае сюжэты. Няўжо ён раіўся з кімсьці, калі пісаў "Смерць Івана Ільіча"? Наўрад ці абмяркоўваў нават з братам свайго пратапіта – вядомым вучоным Ільёй Мечнікавым. У Талстога было шмат пратапітаў. Напрыклад, малодшая сястра ягонай жонкі Таццяна Кузмінская натхніла яго на вобраз Наташы Растовай. У яе кнізе мемуараў вельмі добра бачна, што Талстой узяў ад яе, а што не ўзяў.

Калі я пісала апавяданне "Пані старшыніха прыехала", то канечне не раілася з Чэсікам, які застаўся на ўсё жыццё пасля вайны няшчасным дзіцем. Тут па-іншаму ўсё адбываецца.

— Ці былі ў вашым жыцці, надта балючыя ці наадварот, надта шчаслівыя моманты, якія ніколі не маглі б стаць сюжэтам для вашых апавяданняў?

— Цяпер проза аголеная. А я не прыхільніца сучаснай манеры распранацца да апошняй ніткі. Гэта непатрэбна. Не думаю, каб гэтая манера магла мяне спакусіць нават у маладосці. Навошта пра сябе распавядаць усё?

Увогуле калі вы думаеце, што мая проза цалкам аўтабіяграфічная, гэта няпраўда. Напрыклад, ёсць апавяданне "Белая варона", дзе мая гераіня пражыла зусім іншае жыццё, чым я сама. Але я пісала яго так, быццам сама ўсё гэта перажыла.

— Журналісцкая праца дала вам шмат для вашай творчасці?

— Я 22 гады працавала ў часопісе "Работніца і сялянка" і як добрасумленны журналіст кожны месяц ездзіла ў камандзіроўку. Ехаць даводзілася на возе, на трактары, на аўтобусе, цягніком. Сустрэчы былі самыя розныя. Калі любіш гэтую прафесію, то ты шчаслівы чалавек. Я любіла людзей, размовы, іх гісторыі, мне ўсё было цікава. Уявіце, што вы змерзлі, і вам даводзіцца сагрэцца на печы ў гераіні свайго будучага апавядання, карэспандэнткі Таццяны. Яна бачыла, як у калгасе крадуць і ашукваюць людзей, і пастаянна пісала пра гэта ў розныя рэдакцыі. Яе там усе ўзненавідзелі і інакш не "абзывалі", як карэспандэнтка… Вось такое знаёмства цікавае, патрэбнае ці не? Альбо прафесар Дазорцава, урач-гінеколаг, якая ў 1950-я, гэтыя страшэнныя гады, ездзіла па калгасах, кансультавала жанчын. Яна сказала мне: вы мой асістэнт. А ў чым мая асістэнтура заключалася? Я палівала ёй вадой на рукі, запісвала скаргі хворых, выпісвала рэцэпты, якія яна мне дыктавала. Былі яшчэ настаўнікі, вучоныя, артысты. Многіх людзей, з якімі я сустракалася па журналісцкай працы, я ўспамінаю з удзячнасцю, бо шмат хто з іх пасля дапамог мне знайсці герояў сваіх апавяданняў. Сапраўднаму журналісту ўсё цікава, усё дапамагае. Можа, і вам чым-небудзь дапаможа некалі наша тэлефонная сустрэча…

— Дарэчы, пра тэлефонныя сустрэчы. Ва ўспамінах вы пішаце пра позні званок Караткевіча і частыя тэлефонныя размовы з Жэняй Янішчыц. Многія пісьменнікі публікуюць эпісталярый, а ў вас атрымліваецца амаль стэнаграмы тэлефонных размоў.

— Нямала такіх размоў было. Тыя, якія былі для мяне неабходныя, я запісала — з Нінай Мацяш, з Караткевічам, з Жэняй. У маёй кнізе "Люблю, хвалююся, жыву" шмат успамінаў — там і ўспаміны пра званкі, і сустрэчы. Ніколі не лічыла сябе крытыкам, гэта хутчэй такая пісьменніцкая крытыка.

— У аўтабіяграфічнай аповесці "Расці, Ганька" маці расказвае дачцэ, як у вёску прыязджаў Якуб Колас, і Ганька здзіўляецца, як гэта такі вядомы паэт мог сядзець пад касцянкай побач з еёнымі сваякамі. А на фотаздымку, зробленым на 70-годдзе Коласа, вы ўжо стаіце побач з паэтам. Якія ўспаміны засталіся ў вас пра класіка?

— Побач з Коласам даводзілася мне пасля "стаяць" шмат разоў. Рабіла з ім інтэрв'ю, калі яшчэ была маладая. У той жа кнізе "Люблю, хвалююся, жыву" ёсць мой вялікі нарыс пра паэта. Пра тое лета, калі ён адпачываў у нашым доме творчасці "Каралішчавічы".

— У аповесці "Расці, Ганька" няма вострых падзей, адмысловых сюжэтных хадоў. Фактычна жыццё Ганькі і яе маці паказваецца праз шэраг штодзённых вясковых клопатаў і радасцей: жніво, капанне бульбы, продаж каровы, свята Юр'я, прадзенне, бяленне палатнаў, вясковыя вячоркі, "шпіктаклі", прыезд краўцоў. Але паступова так пранікаешся гэтымі важнымі ў жыцці вяскоўцаў падзеямі, што не можаш адарвацца ад тэксту як ад самага вострасюжэтнага аповеда. Ці не страціліі вы сувязь з вёскай, з вашай краінай Ідыліяй?

— Яе ўжо няма, гэтая краіна знікла, яна зруйнаваная. Галоўнае — у ёй няма людзей. Сышла тая, ні да чаго не падобная, культура быту, існавання, зносінаў. На яе месца прыйшлі гарэлка, тэлевізар. Але ў маёй памяці краіна Ідылія жыве. І людзей старога пакалення, хто яшчэ памятае тую вёску, кранаюць мае аповеды.

— Падчас вайны вы былі пісарам страявой часці, пра што распавялі ў аднайменным апавяданні, працавалі бібліятэкарам у эвакашпіталі. Можаце расказаць пра гэта падрабязней?

— Ёсць моманты, пра якія я сёння не змагу вам расказаць лепш, чым калісьці напісала ў сваіх апавяданнях. Я сёння не скажу вам больш аб працы бібліятэкара ў эвакашпіталі, чым напісала ў апавяданні "Трэцяя палата", якое нядаўна друкавалася ў часопісе "Маладосць". І не апішу ярчэй тое, пра што расказала ў апавяданні "Над горадам прашумеў лівень".

— Цікава, магчыма, адна з прычын таго, што пісьменнік звяртаецца да аўтабіяграфічнай прозы, якраз і заключаецца ў жаданні распавесці пра важны момант свайго жыцця раз і назаўжды, тым самым як бы задакументаваць яго.

— Ніколі не ставіла для сябе такой задачы: занатоўваць, пакідаць на вякі, назаўсёды, каб чыталі, каб не спыняліся. Пішацца зусім па-іншаму. Кожны пісьменнік мае свой падыход да творчасці. Адзін, сядаючы за стол, ведае, чым скончыцца яго твор. У эсэ "Схіляюся над чыстаю старонкай" я апісала свой прынцып стварэння мастацкага тэксту, я ніколі не ведаю, куды завядзе лёс маіх герояў.

— У тым жа эсэ вы пішаце, што пяро цяжка вяртаецца да вас пасля патрасенняў і "драбніц жыцця".

— Так, мяне выбіваюць з творчай каляіны часам самыя драбніцы, часам вялікія стрэсы. І тады я сапраўды для творчага жыцця мёртвы чалавек. А потым праходзіць час, і адчуваеш, як устрапянулася нешта ўнутры, душа ажыла і ўзляцела. "И пальцы просятся к перу, перо к бумаге. Минута — и стихи свободно потекут"… Ёсць людзі, якія не падымаюцца з-за пісьмовага стала. "Ні дня без радка" – гэта не пра мяне сказана.

Апошнія пяць гадоў я не пішу, на гэта ёсць прычыны, у тым ліку мая хвароба.

— Але калі поўны штыль, ці не страчваецца вастрыня ўспрымання жыцця?

— На вялікі жаль, у мяне не было такіх "штыляў". Я не была вельмі пешчаная жыццём. Так склаўся мой лёс. Не ведаю, калі чалавек у алімпійскім спакоі, ці так ужо тады добра пішацца. Мне вельмі цяжка адказаць на гэтае пытанне.

— Дзеці дапамагалі вашай творчасці?

— Канечне, заўсёды. Мае дзеці былі для мяне не толькі "цветы жизни", як пісаў Горкі, але мая апора, мая падтрымка. Трэцюю аповесць сваёй тэтралогіі я пісала ў доме творчасці "Дубулты" ў Латвіі. І мой сын замыкаў мяне на ключ і казаў: "Ты пішы, абавязкова пішы, а я прыйду, і тады пойдзем гуляць у Пумпуры" (якое гучанне — як тугі гумовы мяч: пум-пу-ры).

— Калі б тая проза, што пісалася вамі ў 1960-я – 70-я гады ва ўмовах цэнзуры, стваралася сёння, — гэта былі б розныя творы?

— Сёння я б пісала ў іншай манеры, іншымі словамі, але з такім жа настроем, як і тады. Я не надта думала пра цэнзуру. Але мяне адстойвалі Іван Чыгрынаў і Барыс Сачанка, якія працавалі тады ў аддзеле прозы "Полымя". Яны, як за сваю ўласную творчасць, змагаліся, каб выйшла гэтая мая кніжка "Пачакай, затрымайся". Я з удзячнасцю ўспамінаю іх сёння.

— А што дапамагала вам пераражыць цяжкія сітуацыі?

— Праца, мае дзеці, самыя розныя захапленні, пачуцці, не толькі тыя, што ўзнікаюць паміж "ён і яна", хоць і гэта таксама было. Цяжкіх момантаў у мяне хапала, але вось неяк жа іх перажыла. Трэба змагацца з гэтым жыццём…

Саша ХАЛОПІК



## Дзякуй, Настаўнік!

22 кастрычніка 2010 года на 53-м годзе жыцця памёр вядомы беларускі гісторык Павел Лойка. Яго нечаканая смерць выклікала смутак і горыч сярод калег і вучняў, якія яшчэ неадназова ўзгадаюць удзячным словам гэтага светлага чалавека.

Мяркую, што завочнае знаёмства майго пакалення з Паўлам Алегавічам, сынам знакамітага паэта і пісьменніка Алега Лойкі, пачалося яшчэ ў школе. У далёкім 1999 годзе мы, сямікласнікі, атрымалі яго падручнік па беларускай гісторыі — лепшы з усіх, якія мне давялося бачыць. Лёгка і чытэльна напісаны, прыгожа аздоблены, ён не проста бліскуча сістэматызаваў веды па перыяду XVI — XVIII стагоддзяў, а яшчэ вучыў патрыятызму і любові да сваёй зямлі.

У тым жа годзе пашанцавала сустрэцца з аўтарам падручніка асабіста. Жонка гісторыка, Наталля Васільеўна, выкладала гісторыю на ліцэйскіх падрыхтоўчых курсах. Павел Алегавіч некалькі разоў замяняў яе. А ў 9 і 10 класах выкладаў у нас спецкурс, які так і называўся — "Гісторыя Беларусі".

Лойка не быў акадэмічным выкладчыкам. Але адначасова Павел Алегавіч меў магнетычны талент з захапленнем і падрабязнасцямі ўзнаўляць любы сюжэт з беларускай гісторыі. Прычым, нават калі ўсе падзеі былі ўжо вядомыя, яго ўсё роўна слухалі так, нібыта чулі пра тую гісторыю ўпершыню. Афарызмы, трапныя параўнанні, жарты выклікалі захапленне, смех, прымушалі ўважліва слухаць і, несумненна, спрыялі зацікаўленасці гісторыяй у слухачоў.

А колькі было зроблена ім для навукі і ўсяго грамадства! Доўгі час П.Лойка працаваў у Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, дзе ўзначальваў аддзел гісторыі Беларусі XIII — XVIII стагоддзяў. Там ён даследаваў праблемы аграрнай, а потым і грамадска-палітычный гісторыі Рэчы Паспалітай. Выдаў чатыры манаграфіі па гэтай тэматыцы, а таксама ўдзельнічаў у стварэнні шэрагу абагульняльных калектыўных прац, у тым ліку "Нарысаў гісторыі Беларусі" і акадэмічнай "Гісторыі Беларусі" ў 6 тамах.

Выпускнік гістарычнага факультэта БДУ, Павел Алегавіч стаў у 1994 годзе першым загадчыкам кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў. Ён узначальваў яе на працягу дванаццаці гадоў, падрыхтаваў дзевяць кандыдатаў навук і разам са сваімі паплечнікамі фактычна ўзгадаваў навуковую школу, якая вывучае спадчыну ВКЛ. Нястомна папулярызаваў мінулае, плённа супрацоўнічаў з сістэмай адукацыі. Павел Лойка — аўтар 4 падручнікаў і 12 дапаможнікаў для школ і абітурыентаў. Усяго на яго рахунку каля 200 прац.

А колькі чакала яго наперадзе! Абарона доктарскай дысертацыі, якая амаль ужо была напісана. Бязмерна шкада, што калегі, вучні, студэнты былі пазбаўленыя ў апошнія гады магчымасці дыскутаваць з ім на канферэнцыях, слухаць яго пары і лекцыі. На жаль, ніхто з іх ужо не ўбачыць Паўла Алегавіча. Беларускую навуку яшчэ чакае запознёнае ўсведамленне таго, каго яна страціла. А нам застаецца быць удзячнымі і — памятаць...

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" выказвае шчырае спачуванне супрацоўніку аддзела крытыкі штотыднёвіка "ЛіМ" Галубовічу Леаніду Міхайлавічу з прычыны вялікага гора — смерці МАЦІ.

# І скруха, і гонар…

Найперш трэба сказаць, што ў мяне з ім былі адмысловыя адносіны. Нельга сцвярджаць, што гэтыя адносіны былі вельмі-вельмі блізкімі, што я дзялілася з ім кожнай эмоцыяй ці падзеяй. Нашымі паўсядзённымі клопатамі ды праблемамі — і маімі, і дзвюх маіх старэйшых сясцёр — заўсёды апекавалася маці. А вось да бацькі мы звярталіся пераважна ў тых выпадках, калі патрэбна была надзвычай важная парада. Гэта, прыкладна, як у царкву людзі ідуць у асабліва складаны момант жыцця. Калі "прыціскае" ўсур'ёз, калі трапляе чалавек у складаную сітуацыю і не ведае, як быць, тады згадвае пра Бога. Вось і ў мяне так было — да бацькі, як да Бога. Яго меркаванне было для мяне фактычна ісцінай у апошняй інстанцыі. А яго парады заўсёды былі вельмі слушнымі і дакладнымі. Ды яшчэ — вельмі простымі. Ён умеў неяк так спрагназаваць падзеі ці патлумачыць сітуацыю, што ўсё пачынала выглядаць і празрыста, і адназначна. Відаць, спрыяў у гэтым багаты жыццёвы досвед, добрае веданне людзей...

Мой бацька паходзіў з сялянскай сям'і. Вось нават хацела спачатку напісаць, што "са звычайнай сялянскай сям'і". Але, на самай справе, сям'я была не зусім звычайнай... Дзед Броніс — бацькаў бацька — каранямі паходзіў з Літвы. У маладыя гады, на пачатку ХХ стагоддзя, ён паехаў на заробкі ў Амерыку. Жыў там недзе з дзясятак год. Пабраўся шлюбам з жанчынай, якая нарадзіла яму траіх дзяцей — дачку і двух сыноў... Але жонка захварэла на сухоты, і амерыканскія дактары параілі "змяніць клімат" — тэрмінова перабірацца ў Еўропу. Толькі і гэта не дапамагло — дзедава жонка памерла. І вось за яго — удаўца з трыма дзецьмі выйшла замуж мая бабуля... Яна была маладзейшай за мужа на дзевятнаццаць год. 28 верасня 1930 года ў іх нарадзіўся мой бацька.

Да вайны ён скончыў тры класы Пуцяцкай пачатковай школы, пасля вайны пайшоў "наступаць" у Ленінскую васьмігодку. Пазней ён успамінаў: "Памятаю, клас быў біткам набіты пераросткамі. Нам далі першы дыктант... Пісалі мы — хто на парце, хто на стале, хто на падаконніку, некаторыя — нават на спіне адзін у аднаго. А калі дыктант быў праверaны, дзве трэці "абітурыентаў" адсеяліся. Мяне ж залічылі ў пяцікласнікі!"

Пра сваю вучобу бацька шмат расказваў. І заўсёды ў яго аповедах сумяшчаліся і скруха, і гонар... Скруха — бо вучыцца было неймаверна цяжка, нават проста дабрацца да школы — ужо было немалой працай... Ізноў звярнуся да яго ўспамінаў: "Памятаецца холад. Дома вада ў вядры замярзае — няма дроў. А выйду раніцай з хаты — вецер праціnae наскрозь... Заходжу да аднаго сябра — не ідзе, да другога-трэцяга — таксама. Баяцца холаду. За вёскай да мяне далучаецца Лёнька Яновіч — дружакці, сціплы хлопец. Ён ідзе з Кажушак, яму — яшчэ далей. Мы бяром напрасткі — па цаліку, па полі. Зімой тады ніякіх дарог не было. Дваццаць крокаў — перадам, дваццаць — спінай... А з Саўкова сячэ халодны снежны сівер. Прыйдзеш у школу, здаецца – яшчэ халадней. Вокны незакітаваныя, а то і разбітыя, і праз дзіркі цярушыць сняжок"... Дый жылі вяскоўцы вельмі бедна, галодна. Бацька часта згадваў пра тое, як адзіным паратункам ад голаду нярэдка рабіліся ўпаляваныя ім у лесе зайцы альбо па-адмысловаму здабытая з-пад лёду рыба... Ну, а гонар быў за тое, што здолеў адужаць выпрабаванні, годна з імі справіўся. Вучыўся добра. Быў адным з лепшых вучняў. І часта паўтараў, што ў любых умовах можна засвойваць навуку, інтэлектуальна развівацца ды маральна гартавацца.

...Менавіта з тых хлопчыкаў, што шыбавалі напрасткі ў свае вясковыя школы праз завеі ды снежні, паднялося пасля пакаленне так званых шасцідзясятнікаў — пісьменнікаў, вучоных, перадавых дзеячаў эпохі. Тое пакаленне, феномен якога яшчэ і сёння да канца не вывучаны. Між іншым, бацькаў сябрук Лёнька — Леанід Яновіч — стаў вядомым вучоным. У 1967 годзе яму прысвоена вучоная ступень кандыдата фізіка-матэматычных навук, 1987 — доктара фізіка-матэматычных навук, у 1989 годзе ён быў абраны членам-карэспандэнтам НАН Беларусі. Вось як.

**Здавалася б, — столькі ўсяго назапашана ў душы — успаміны, пачуцці, уражанні... Ды толькі гаварыць пра гэта неверагодна цяжка. Бо ёсць выпадкі, калі амаль немагчыма знайсці словы, якія адпавядалі б пачуццям. Вось, як цяпер, калі ўпершыню ў жыцці я хачу публічна падзяліцца ўспамінамі пра свайго бацьку — пісьменніка Віктара Дайліду.**



А шлях майго бацькі скіраваўся ў літаратуру... Пачынаў ён з допісаў у Слуцкую раёнку, яшчэ ў школьныя гады займеў рэпутацыю "юнага селькара". Спачатку гэта былі нататкі, нарысы, фельетоны... Першы мастацкі твор – апавяданне "Разумны чалавек" — было надрукавана ў 1953 годзе ў альманаху "На сонечных сцежках". У 1966 годзе ў выдавецтве "Беларусь" выйшаў першы зборнічак прозы "Вясна, хлопцы, вясна", праз тры гады — яшчэ адна кніжка — "Была вайна". Героі, сюжэты, эпізоды — тут усё было з жыцця... Бо глыбокі след у душы пакінула вайна, дый пасляваенныя гады былі складанымі і шмат у чым драматычнымі.

> Менавіта з тых хлопчыкаў, што шыбавалі напрасткі ў свае вясковыя школы праз завеі ды снежні, паднялося пасля пакаленне так званых шасцідзясятнікаў — пісьменнікаў, вучоных, перадавых дзеячаў эпохі. Тое пакаленне, феномен якога яшчэ і сёння да канца не вывучаны. Між іншым, бацькаў сябрук Лёнька — Леанід Яновіч — стаў вядомым вучоным.

І ўвогуле, мяркуючы па тых фактах, якія згадвалі мае бацькі, іх жыццё ніколі не было спакойным, па-будзённаму стабільным. Яно заўсёды было надзвычай імклівым, клопатным... Па адукацыі бацька быў настаўнікам (ён скончыў Баранавіцкі настаўніцкі інстытут, пасля — Мінскі педагагічны інстытут імя Горкага). З дзясятак год прысвяціў настаўніцкай дзейнасці, і ў сувязі з гэтым было нямала пераездаў з месца на месца. Працаваў у Пастарынскай сямігодцы, затым — у Ішкалдскай, а пазней быў прызначаны дырэктарам Чапліцкай сярэдняй школы Слуцкага раёна. У той час ён пераважваў, што працоўная загружанасць не дазваляла з поўнай аддачай займацца творчасцю. Клопатаў было шмат — і праца, і сям'я немалая — трое дзяцей, і, зразумела, жывучы ў вёсцы, неабходна было весці сякую-такую гаспадарку. Пазней ён настальгічна згадваў маладыя гады — маўляў, колькі перад вачыма было гісторый, выпадкаў, неардынарных здарэнняў, якія проста "прасіліся" зрабіцца сюжэтамі мастацкіх твораў, ды ўсё часу бракавала. Але бацька заўсёды быў аптымістам. У 1971 годзе ў аўтабіяграфічным нарысе ён адзначыў: "...Што напісана мала — асабліва не расчароўваюся. Я цешу сябе надзеяй, што лепшыя творы яшчэ наперадзе, што некалі будзе ў мяне вольны час і я напішу іх"...

На пастаяннае месцажыхарства ў сталіцу наша сям'я перабралася ў сярэдзіне 1970-х. Бацьку прынялі на працу ў Саюз пісьменнікаў (на пасаду намесніка дырэктара Бюро прапаганды). У гэты час ён шмат пісаў. Выходзілі новыя кнігі — "Пяро дзікай качкі" (1977), "Буслы над вёскай" (1979), "Сустрэча з маленствам" (1980)... Фактычна ўсе героі гэтых кніг мелі рэальных жыццёвых прататыпаў. Бацька ўсёй душой быў прывязаны да сваёй малой радзімы, да Случчыны, да сваіх землякоў. Вось гэтыя вясковыя рэаліі і гэтыя рэальныя людзі ўвасабляліся ў яго мастацкіх творах. Увасабляліся з вялікай любоўю і пяшчотай... Чытаючы яго кнігі, яшчэ ў дзяцінстве я здзіўлялася, як трапна ён умеў адлюстраваць унутраную сутнасць таго ці іншага чалавека, як адмыслова выбудоўваў сюжэты гісторый. Было неверагодна цікава "пазнаваць" персанажаў, бачыць іх героямі твораў. Бо фактычна ўсіх іх я ведала як "жывых" людзей.

...Калі мне даводзіцца чуць выраз "чалавек шырокай душы", я заўсёды згадваю бацьку. Так, ён быў менавіта чалавекам шырокай душы. Умеў любіць усім сэрцам і быць адданым сябрам, быў заваднымі вясёлым, але адначасова — глыбокім і мудрым. Ён быў вялікім гумарыстам, і пры гэтым — ніколі не баяўся пасмяяцца з самога сябе... Хутчэй, наадварот, быў самаіранічным і самакрытычным. Праўда, неяк прызнаўся, што ў маладыя гады "і крыўкі баяўся, і нават да простай заўвагі не заўсёды мог паставіцца належным чынам". Са смехам згадваў першы "творчы правал": "...На нарадзе маладых пісьменнікаў я чытаў апавяданне. У ім расказваў, як сялянская дзяўчына закахалася ў сынка памешчыка. Ён яе падмануў, і яна – цяжарная – рашыла ўтапіцца... Я напісаў так: "Яна прыйшла на бераг Нёмана, увапхнула ў торбу вялікі камень, пачапіла на шыю і рухнула ў вір з крутога абрыву". Некаторыя з прысутных з усмешкамі пераглянуліся, а Янка Брыль сур'ёзна сказаў: "Ты, Віктар, тапіў яе, як ката". Божа мой! Я закрычаў: "Досыць! Досыць! Я здымаю апавяданне, лічыце, яго не было!" Расказваючы гэтую гісторыю, бацька вельмі смяяўся. Шчыра, ад душы... А Брыля нязменна згадваў добрым словам, ставіўся да яго з вялікай павагай.

> Фактычна ўсе героі гэтых кніг мелі рэальных жыццёвых прататыпаў. Бацька ўсёй душой быў прывязаны да сваёй малой радзімы, да Случчыны, да сваіх землякоў. Вось гэтыя вясковыя рэаліі і гэтыя рэальныя людзі ўвасабляліся ў яго мастацкіх творах. Увасабляліся з вялікай любоўю і пяшчотай... Чытаючы яго кнігі, яшчэ ў дзяцінстве я здзіўлялася, як трапна ён умеў адлюстраваць унутраную сутнасць таго ці іншага чалавека, як адмыслова выбудоўваў сюжэты гісторый. Было неверагодна цікава "пазнаваць" персанажаў, бачыць іх героямі твораў. Бо фактычна ўсіх іх я ведала як "жывых" людзей.

Наконт бацькавага гумару ў нас у сям'і існуе нават своеасаблівая анекдатычная гісторыя. Калісьці ў часопісе "Нёман" друкаваліся яго апавяданні. Творы былі напісаны на беларускай мове, а рэдакцыйная перакладчыца павінна была іх перакласці на рускую. У адным з апавяданняў была такая фраза: "У маладосці я быў вялікі жартаўнік і штукар, любіў усялякія хохмы..." і г.д. Перакладчыца была даволі маладая, і гэтую фразу яна пераклала коратка і проста: "В молодости я был большим приколистом…" І хоць гэты пераклад, мякка кажучы, далёкі ад арыгіналу, па сутнасці вызначэнне атрымалася даволі трапным. Яно неяк няўзнак замацавалася ў нашым сямейным асяродку. Слухаючы дзедавы аповеды, беручы ўдзел у дзедавых розыгрышах ці жартах (да якіх ён сапраўды быў вялікі аматар), унукі часта з захапленнем казалі: "Ну, дзед, ты сапраўдны прыкаліст!"

Пра бацьку я магу расказваць бясконца. Пра самае рознае — і пра сумнае, і пра светлае... Пра некаторыя яго расчараванні ў людзях, у сябрах. Пра яго душэўныя перажыванні і крыўды. Але найбольш хацелася б расказаць пра тое, якое ў нас усіх (трох дачок, трох зяцёў і шасці ўнукаў) было з ім паразуменне, як мы любілі і паважалі яго. Пра тое, якія асаблівыя стасункі былі ў яго з унукамі — не проста сяброўства, а выключнае паразуменне і душэўная блізкасць. Пра тое, што яго адносіны да маці — гэта ўзор сямейных адносінаў, гэта нават больш, чым каханне і ўзаемапавага... Ды ці ж магчыма расказаць пра ўсё гэта?

Бацька памёр у канцы жніўня 2006 года — за месяц да свайго 76 дня нараджэння. Ён фактычна ніколі не скардзіўся на здароўе. Лячыцца не любіў, ніякіх лекаў не прызнаваў, у паліклініцы нават не меў медыцынскай карткі. Калі што балела — наракаў на надвор'е. Мог адно загадаць, каб зрабілі яму чаю з мёдам — "бо горла нешта трохі..." А калі нешта мацней "прыхоплівала", казаў: "Ну-ка, маці, налі мне сто грам..." Толькі так і ныянакш.

Апошні яго юбілей — 75-годдзе — мы адзначалі ў вёсцы. Кожнае лета бацькі з'язджалі на Случчыну, на бацькаву радзіму. Там яны заводзілі невялікую гаспадарку, саджалі агарод, унукі да іх з'язджаліся. Тады, увосень 2005 года, мы ўсёй сям'ёй сабраліся за святочным сталом. У гонар бацькі-цесця-дзеда гучала шмат урачыстых і ўдзячных слоў. А ўжо напрыканцы бясеady віноўнік урачыстасці "выступіў" са зваротнай прамовай. Упершыню ў жыцці мы пачулі ад яго такія словы. Ён сказаў, каб гэтыя яго словы мы "не ўспрымалі ўсур'ёз", што гэта "проста так, без асаблівых падстаў, на ўсякі выпадак"... І сказаў наступнае. Што хоча, каб яго пахавалі там, на радзіме, на вясковых могілках, побач з бацькамі. І яшчэ сказаў, што хацеў бы памерці так, як яго бацькі. Ды яшчэ дадаў, каб мы берaглі маці, шанавалі яе і слухаліся, бо яна — мудрая жанчына...

Мае дзед і баба памерлі за работай. Дзед Броніс выгнаў карову ў поле, зачыніў вароты, упаў і памёр. Баба Воля пакарміла жывёлу, зачыніла хлеў і гэтаксама ўпала і памерла. Вось гэта бацька і меў на ўвазе. Марыў пакінуць гэты свет без хваробаў, бальніц, дактароў і г.д. Па сённяшні дзень мне вярэдзіць душу тое, што ўсё адбылося не зусім так... З раніцы бацька абкасіў агарод, бо на ўзмежку парасла высокая трава. Пасля сабраўся ў грыбы. Падрыхтаваў кошык, паставіў яго ў двары на лаве, побач паклаў свой любімы ножык. Тады зайшоў у хату і паскардзіўся маме, што "дыхаць цяжка", пад грудзьмі "ціснe". Мама адразу ж выклікала "хуткую". Тая "хуткая" прыехала праз дзве гадзіны — вядома, са Слуцка — не надта блізка, амаль трыццаць кіламетраў. Доктарка агледзела і адразу сказала, што гэта — інфаркт, загадала медсёстрам рыхтаваць "насілкі". Мама казала, што бацька рассмяяўся: "Вы што, дарагая? Якія насілкі? Каб людзі смяяліся, што мужчыну бабы носяць?" Устаў з ложка і пайшоў у машыну "хуткай". Адтуль — праз акно — паслаў маме паветраны пацалунак... І крыкнуў: "Трымайся тут, маці, я хутка вярнуся". Не падмануў. Вярнуўся хутка — праз суткі, у труне...

Скажу шчыра — я не мела на мэце сказаць свету, што мой бацька — святы чалавек. Я нават не спадзяюся, што мае пачуцці будуць зразуметымі. Я толькі хацела нагадаць пра яго тым, хто быў з ім знаёмы, хто, магчыма, добра да яго ставіўся... Толькі і ўсяго. А для мяне асабіста, для маёй сям'і — ён, сапраўды, найлепшы ў свеце чалавек. Я нярэдка лаўлю сябе на тым, што гляджу на гэты свет яго вачыма, што дзень раканоўваюся ў яго мудрасці і дальнабачнасці. Мне вельмі не хапае яго аптымізму, мудрасці і жыццелюбства. Мне проста не хапае яго.

Лада АЛЕЙНІК

Як важна, калі настаўнік не толькі выдатна валодае методыкай выкладання, але і разумее, адчувае сваіх вучняў сэрцам. Толькі ўлюбёны ў сваю працу чалавек, педагог ад Бога, валодае гэтым дарам. Менавіта да такіх выкладчыкаў належыць і Рэгіна Чашун, якая працуе ў Ждановіцкай агульнаадукацыйнай школе Мінскага раёна.



# Любоў да слова праз паэзію

Рэгіна Чашун нарадзілася і вырасла на Віцебшчыне, закончыла вясковую школу. Аб прафесіі педагога марыла з ранняга маленства, за што ўдзячна сваёй бабулі, якая малявала ва ўяўленні ўнучкі адукаваную, творчую, цікавую асобу — настаўніцу, паважаную і любімую ўсімі вучнямі. Гэты вобраз заклаўся глыбока ў сэрцы, і менавіта да яго ўвасаблення імкнулася дзяўчынка.

Рэгіна вучылася на аддзяленні рускай мовы і літаратуры ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, пасля заканчэння якога па размеркаванні прыйшла выкладаць свой прадмет у Ждановіцкую сярэднюю школу. І першы год Рэгіна Генадзьеўна працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры, а яшчэ ёй далі некалькі гадзін беларускай, бо на той час у школе не хапала выкладчыкаў.

— І тыя некалькі гадзін мяне так захапілі, што ўжо на наступны год я цалкам перакваліфікавалася ў настаўніцу беларускай мовы і літаратуры. Можна сказаць, знайшла сябе, — прызнаецца мая суразмоўца.

Сёння Рэгіна Генадзьеўна педагог вышэйшай катэгорыі з дваццацігадовым стажам. Пацікавілася, як удаецца Рэгіне Генадзьеўне закласці дзецям любоў да роднага слова.

— Паказваю вучням беларускую мову як прыгожую і мілагучную, асабліва падкрэсліваю яе элітарнасць. Тлумачу, што граматнай, правільнай літаратурнай мовай валодаюць адукаваныя людзі, якія любяць і паважаюць Радзіму, ведаюць свае карані, — дзеліцца вопытам настаўніца. Мы з вучнямі часта наведваем тэатр, выязджаем на экскурсіі, запрашаем у школу пісьменнікаў і паэтаў.

Менавіта сустрэчы з літаратарамі асабліва цікавыя для вучняў Рэгіны Генадзьеўны. Ды й як жа інакш, калі вось ужо сямнаццаць гадоў настаўніца кіруе школьным паэтычным гуртком "Купалінка", які даўно і паспяхова заявіў пра сябе ў літаратурных колах нашай краіны.

— Работа гуртка — яшчэ адзін цудоўны і дзейсны спосаб паказаць дзецям мілагучнасць і каларытнасць роднага слова. Паэзія — гэта ўвасабленне прыгажосці мовы. Праз чытанне класікаў у адкрытых дзіцячыя сэрцы сееццa зерне любові да мовы нашых продкаў, — упэўнена настаўніца.

Безумоўна, стварэнне ў далёкім 1993-м школьнага паэтычнага гуртка, які ўвайшоў у склад раённай літаратурнай суполкі "Купалінка", — выдатны праект. Першапачаткова гурток наведвалі пяць вучняў, але колькасць іх з кожным годам павялічвалася. А калі падлічыць усіх дзяцей, што прайшлі праз гурток за гады яго працы, то атрымаецца больш за сотню. Вось якой колькасці вучняў Рэгіна Генадзьеўна дапамагла адшукаць у сабе талент і развіваць яго. Зразумела, далёка не кожны юны паэт абярэ ў будучыні шлях літаратара, але закладзены ў яго сэрцы творчы пачатак дапаможа ў любой прафесіі, бо літаратурны густ робіць чалавека духоўна багатым.

На занятках гуртка дзеці шырэй знаёмяцца з творамі беларускіх паэтаў, спасцігаюць нялёгкую навуку вершаскладання і спрабуюць на гэтай ніве ўласныя сілы. Усе вучнёўскія творы Рэгіна Генадзьеўна збірае ў асобны архіў, а лепшыя з лепшых з'яўляюцца ў школьным альманаху і на старонках беларускіх перыядычных выданняў, сярод якіх часопісы "Вясёлка", "Бярозка", "Качели", газета "Прысталічча". У 2007-м "Купалінка" дэбютавала ў "Маладосці", дзе вершы гуртκоўцаў былі надрукаваны ў "Першацвеце", так званым часопісе ў часопісе, створаным для таленавітай літаратурнай моладзі.

З дзецьмі, у якіх ёсць творчая іскрынка, усё зразумела. А як зацікавіць астатніх вучняў? На гэтае пытанне Рэгіна Генадзьеўна адказвае:

— Сапраўды, на пачатку вывучэння мовы ўзнікаюць цяжкасці. Каб перайначыць становішча, і вучням, і бацькам, і настаўнікам прыходзіцца шмат працаваць, але агульныя нашы намаганні даюць добрыя вынікі. Пра іх можна меркаваць, напрыклад, па тым, што на выпускных экзаменах і цэнтралізаваным тэсціраванні значна большая частка нашых школьнікаў выбірае беларускую мову. Асабіста мне прыемна і тое, што ў мяне ёсць паслядоўнікі. Дзве мае выпускніцы скончылі філалагічнае аддзяленне і вярнуліся ў школу настаўніцамі беларускай мовы і літаратуры.

— Якім у наш час павінен быць настаўнік, каб карыстацца аўтарытэтам у школьнікаў і падабацца ім? — пацікавілася я.

— Можна назваць шмат якасцей, якімі павінен валодаць педагог, але сярод іх абавязкова павінны быць агульная эрудыцыя, прафесіяналізм, крэатыўнасць, неардынарнасць, абаяльнасць, і, зразумела ж, пачуццё гумару. У настаўніку важна ўсё: ад прафесійных якасцей да знешняга выгляду.

— Якія мэты вы ставіце перад сабой як настаўніца?

— Важна навучыць кожнае дзіця быць чалавекам і асобай, выхоўваць любоў і павагу да нашай краіны, мовы, літаратуры. Як філолаг — імкнуся навучыць культуры маўлення і правапісу, мае вучні павінны быць дасведчанымі ў беларускай літаратуры і культуры.

Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ



На здымках: Рэгіна Генадзьеўна Чашун разам са сваімі вучнямі; па слядах настаўніцы пайшла Кацярына Адамовіч.

Фота аўтара

## У наступным нумары

Імя Веры Якаўлеўны Ляшук стала з'яўляцца на старонках літаратурна-мастацкіх выданняў з канца 1960-х гадоў. Цягам мінулых дзесяцігоддзяў аўтарытэт брэсцкай даследчыцы ў галіне методыкі выкладання беларускай літаратуры ўзрастаў. Найбольшую ж вядомасць атрымалі яе працы па літаратурным краязнаўстве, на што ў свой час падахвоціў Веру Ляшук слынны Уладзімір Калеснік. Пра гэта і іншае чытайце ў нарысе Ірыны Рудкоўскай "Захавальніца літаратурнай карты".

З глыбінкі

# Доўгая дарога дамоў

Вяртаюцца, нанова паўстаюць перад сучаснікамі, здавалася б, назаўжды згубленыя ў цемры мінуўшчыны постаці слаўных сыноў і дачок Бацькаўшчыны. З іх ліку — ураджэнец Пружан паэт Францішак Ляхоцкі, шлях якога на радзіму быў доўгім і складаным.

Вялікую ролю ў вяртанні гістарычнай памяці аб гэтым неардынарным чалавеку адыграў калектыў музея-сядзібы "Пружанскі палацык", спадар Дарафей Фіёнік — кіраўнік Аб'яднання музеяў малой радзімы ў Студзіводах, Віктар Шведзь — паэт-перакладчык паэмы Ф.Ляхоцкага на беларускую мову і, безумоўна, ідэйны натхняльнік падзеі — манахіня Еўдакія (Галіна Ляхоцкая) з Польшчы. Прэзентацыя твора Францішка Ляхоцкага "Палессе" адбылася днямі ў Вялікай зале палацыка ў Пружанах, куды завіталі неабыякавыя гараджане, госці з Польшчы, Брэста, Мінска, Камянца.

Дзеля таго, каб лепш зразумець сэнс творчасці паэта, неабходна ведаць некаторыя старонкі з яго біяграфіі. Францішак Ляхоцкі нарадзіўся ў Пружанах у 1899 годзе. Менавіта тут ён назіраў тыя малюнкі, што з'яўляліся яму на чужыне і складваліся ў паэтычныя радкі:

О, зямля палеская, загнезджана ў лясах,
Ты стаеш у памяці па начах і днях,
Духмяная грыбамі, у зелені сады,
Думкі да цябе мае вяртаюцца заўжды.

У часы першай нямецкай акупацыі 1915—1918 гг. сям'я Ляхоцкіх шукала прытулак у Расіі. Магчыма, там юнак атрымаў сярэднюю адукацыю.

У "польскія часы" Францішак жыў у Пружанах на вуліцы Замкавай, працаваў школьным інспектарам, а пасля — у фінаддзеле. 24 сакавіка 1940 года паэт быў арыштаваны і асуджаны. Зняволенне ён адбываў ва Ухце. У пачатку верасня 1941 года Ляхоцкі быў амніціраваны, і праз некаторы час разам з сынамі ўступіў у польскую армію У.Андэрса, якая ваявала ў Азіі і Паўночнай Афрыцы, а з 1943 года ўдзельнічала ў вызваленні ад фашыстаў Заходняй Еўропы.

Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны Францішак не вярнуўся на радзіму, жыў спачатку ў Англіі, пасля ў ЗША. Менавіта ў амерыканскі перыяд жыцця выйшлі 5 яго зборнікаў вершаў на польскай мове, надрукаваных у Філадэльфіі і Лондане: "Ластаўчыны гнёзды" (1970), "Лістоўнічная хата" (1971), "На бярозавай кары" (1980), "За карункавыя вечары" (1984), "Над Мухаўцом" і паэма "Палессе" (1987). Ён таксама аўтар апавядання "Споведзь".

Наталія ПРАКАПОВІЧ

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3034
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 28.10.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ —5192
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686